*Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі*

# ЛіМ

*Літаратура і мастацтва*

ISSN 0024-4686

№ 51 (4697) 21 снежня 2012 г.

***Думка пісьменніка***

# Самыя-самыя



Культурная рэвалюцыя набірае абароты. Адбылася чарговая гучная падзея ў свеце кніг. Складзены спіс самых цяжкачытэльных кніжак у гісторыі чалавецтва, у які, відавочна, патрапілі найперш філосафы (Гегель з Хайдэгерам), чакана ў яго занесены чараўнік Джэймс Джойс, нечакана, мякка кажучы, у ім апынуліся Джонатан Свіфт з Гертрудай Стайн, зусім сенсацыйна — Вірджынія Вульф з Сэмюэлем Рычардсанам.

Але справа не ў гэтым. Можна сказаць: чытач не падрыхтаваны, а можна выказацца больш паліткарэктна: цяжкачытэльная кніга. Адчуваеце розніцу?

Розніца ў тым, што ў першым выпадку ў адсутнасці культурнага кантакту вінаваты чытач, які не дацягвае да ўзроўню кнігі, а ў другім — кніга, якая не жадае лічыцца з узроўнем чытача. Усё гэта было б смешна, калі б не было так сумна. Смешна: бо няма чаго на люстэрка ківаць... Сумна: прэзумпцыя невінаватасці чытача дасягнула вяршынь абсурду.

Шчыра кажучы, я так спадзяваўся заняць месца ў забытай нішы *цяжкачытэльныя кнігі для падрыхтаванага чытача* (адзін з маіх опусаў мае падзагаловак “раман не для ўсіх”), але мяне самым подлым чынам апярэдзілі: чытача не кранаць — цяжкачытэльныя кнігі самі вінаватыя.

Рубрыка *цяжкачытэльныя* робіцца своеасаблівай прынадай для чытача, якога ў непадрыхтаванасці сёння можа папракнуць хіба што невук. Цяжкачытэльныя кнігі становяцца разнавіднасцю выпрабавання: паспрабуйце прачытаць тое, што не паддаецца чытанню. Смешна ж: ты чытаеш, а яно не чытаецца. Сумна таму, што я асабіста заўжды імкнуўся ствараць кнігі, якія трэба як мінімум умець чытаць, а гэта культурная праца, якая прыносіць падрыхтаванаму чытачу асаблівую асалоду. Гарантавана.

Дык вось сёння ўсё змянілася. Ніякай культурнай працы — навошта гэтыя крайнасці? Пастаўцеся да цяжкачытэльнай кнігі як да прыколу — расслабцеся і атрымлівайце задавальненне, праўда, крыху іншага кшталту. А вам якая розніца? Сваё атрымаеце.

Самае смешнае, што і цяжкачытэльныя кнігі бываюць розныя. Мудрагелістасць — гэта адно, а зашмат сэнсу (бедны Гегель!) — гэта прама процілеглае. Разумныя, і таму нечытэльныя, не лічацца такімі. Яны наогул ніякімі не лічацца.

Да чаго гэта я?

Да таго, што за хуткасцю дэградацыі чытача не паспець. Невядома, што заўтра назавуць цяжкачытэльным. Магчыма, аднойчы і я патраплю ў Топ-300 самых ніякіх. У самы чорны спіс — дзесьці следам за Львом Талстым і Агніяй Барта.

Я застаюся пры сваёй думцы: добрыя кнігі не прадаюцца — ніколі, нідзе і ні пры якім надвор’і.

І гэта крыніца майго аптымізму.

**Анатоль АНДРЭЕЎ**

***Глыбокапаважаныя браты і сёстры, чытачы газеты “Літаратура і мастацтва”!***



*Шчыра і ад усяго сэрца вітаю вас і віншую з радасным і збаўчым святам Божага Нараджэння, якое з’яўляецца адным з найбольш любімых ва ўсім свеце. У касцёлах мы бачым яслі з Немаўляткам Езусам, Марыяй, Юзафам і хатнімі жывёламі. Над яслямі мігціць Бэтлеемская зорка, запрашаючы падысці да іх. Гучыць ціхая мелодыя Раства Хрыстова. У памяшканнях усталяваныя ўпрыгожаныя ёлкі з падарункамі пад імі.*

*Свята Раства Хрыстова звязана з многімі легендамі і народнымі традыцыямі. Па сёння моладзь з Бэтлеемскай зоркай ходзіць ад дома да дома і спявае вясёлыя і поўныя духоўнага зместу калядкі. Гэта свята так моцна зачароўвае нас, што мы ўсе становімся падобнымі да дзяцей.*

*Аднак варта звяртаць увагу не толькі на вонкавы аспект свята, але перадусім на ўнутраны, духоўны. Недастаткова толькі памятаць пра тое, што больш як 2000 гадоў Хрыстус нарадзіўся ў Бэтлееме, і адзначаць гэтую падзею. Неабходна, каб ён сваёй ласкай нарадзіўся ў нашых сэрцах і душах, каб яны сталі Бэтлеемам XXI стагоддзя.*

*Сутнасць Божага Нараджэння заключаецца ў тым, што Бог прыйшоў у гэты свет у вобразе чалавека і яго духоўную цемру азарыў святлом Евангелля. Сапраўды, Хрыстус нарадзіўся — Бог аб’явіўся.*

*З Уцелаўленнем Сына Божага ў гісторыі чалавецтва распачаўся новы час — час Божай ласкі і збавення, — і нам трэба жыць гэтай праўдай.*

*З нагоды свят Божага Нараджэння і надыходзячага Новага года віншую сваіх адзінаверцаў-католікаў і іншых веруючых хрысціян, якія разам з намі адзначаюць гэтае свята. Віншую братоў і сясцёр праваслаўных, якія праз адвентавыя духоўныя практыкі рыхтуюцца да свята Раства Хрыстова. Розніца абрадаў і календароў не з’яўляецца розніцай веры, і таму праўда пра Богаўцелаўленне павінна нас аб’ядноўваць.*

*Віншую ўсіх людзей добрай волі! Свята Божага Нараджэння — не толькі рэлігійнае, але і дзяржаўнае, мы ўсе яго адзначаем. Яно ўносіць у нашае жыццё радасць і супакой.*

***Са святам і надыходзячым Новым годам. З найлепшымі пажаданнямі і блаславеннем***

**Арцыбіскуп Тадэвуш КАНДРУСЕВІЧ,
Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі**

# Час, эпоха, літаратура

## *ЧАСОПІСУ “ПОЛЫМЯ” — 90*

У жыцці, як вядома, нічога выпадковага не бывае. Дый нішто на пустым, голым месцы не з’яўляецца. Гэта датычыць і часопіса “Полымя”. Выданне яго падштурхнулі тыя пазітыўныя працэсы, што адбываліся ў пачатку 20-х гадоў мінулага стагоддзя ў жыцці савецкага грамадства. То быў час, калі яшчэ не “нацдэмаў” шукалі, а дбалі пра развіццё нацыянальных літаратур, нацыянальных культур. У нас гэта вылілася ў пазітыўныя працэсы беларусізацыі. На гэтай хвалі нацыянальнага адраджэння ў снежні 1922 года пабачыў свет першы нумар часопіса “Полымя”.




**Алесь МАРЦІНОВІЧ,
фота з фондаў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі**

Аднак праўда, бадай, на баку тых даследчыкаў, якія схільны меркаваць, што ў “Полымя” быў папярэднік — літаратурна-навуковы веснік Інстытута беларускай культуры з характэрнай для свайго часу назвай “Адраджэнне”. Меркавалася, што ён будзе выдавацца штоквартальна, але выйшла толькі адна кніга. Выданне “Адраджэння” было прыпынена і прынята рашэнне па выпуску літаратурна-мастацкага і грамадска-палітычнага часопіса “Полымя”. Прытым штомесячнага.

Канечне, часопіс “Полымя” не мог заставацца ўбаку ад усіх працэсаў, што адбываліся ў грамадстве. Цікава ў гэтым сэнсе пазнаёміцца з пятым-шостым нумарам за 1930 год. Тады шырока адзначалася 25-годдзе літаратурнай творчасці Янкі Купалы. Было змешчана каля 20 неапублікаваных ягоных твораў, напісаных у 1904 — 1915 гадах, а таксама пераклады Купалам вершаў Мікалая Някрасава, Тараса Шаўчэнкі, Адама Міцкевіча і іншых паэтаў. Тут жа былі змешчаны і віншаванні народнаму Песняру ад пісьменнікаў розных арганізацый, культурных і грамадска-палітычных дзеячаў.

Аднак ужо ў сёмым нумары з’явіўся артыкул сумна вядомага Лукаша Бэндэ “Шлях паэта”. І пайшло-паехала: “<...> У атмасферу “ўныння” маладушна трапіў і Купала. “Гусляр”, частка “Шляхам жыцця” носяць глыбокія сляды ўныння, маладушша, бязвер’я, беспрасветнасці, пазбавіцца ад якой заклікаў раней паэта, а часамі і дэградацыі асобы паэта <...>”. Гэта толькі самая “мяккая” ацэнка. Цягам часу з’явяцца больш сур’ёзныя абвіначванні. Дастанецца і іншым пісьменнікам.

Але менавіта дзякуючы часопісу “Полымя” прыйшло да чытача шмат з таго, што сёння з’яўляецца гонарам беларускай літаратуры. Упершыню былі апублікаваны многія творы Янкі Купалы, Якуба Коласа, у тым ліку раздзелы з паэмы “На шляхах волі”, паэма “Рыбакова хата”, аповесці “Дрыгва”, “На ростанях”. Друкаваліся творы Змітрака Астапенкі, Сымона Баранавых, Петруся Броўкі, Міхася Зарэцкага, Васіля Каваля, Кандрата Крапівы, Эдуарда Самуйлёнка, Яна Скрыгана, Кузьмы Чорнага, Станіслава Шушкевіча і многіх іншых. Гэта ўсё з тых гадоў, калі, кажучы словамі Лукаша Калюгі, “косці малолі”.

**(Заканчэнне на стар. 5.)**

## Пункцірам

✔Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў удзельнікаў III Мінскага міжнароднага Каляднага опернага форуму. У віншаванні выказаная ўпэўненасць, што форум падорыць мноства ўражанняў і цікавых сустрэч, зробіць важкі ўнёсак ва ўмацаванне міжнароднага культурнага супрацоўніцтва.

✔Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народнага артыста СССР Радзівона Шчадрына з 80-годдзем. Кіраўнік дзяржавы адзначыў, што на беларускай зямлі артыста добра ведаюць і любяць як аднаго з найвялікшых кампазітараў сучаснасці, дзейнасць якога спрыяе развіццю духоўных і культурных сувязей братніх народаў Беларусі і Расіі.

✔Дні культуры Ізраіля ў Беларусі, якія праходзілі з 16 па 19 снежня, з'яўляюцца важнай падзеяй у беларуска-ізраільскім супрацоўніцтве. Гэта адзначыў першы намеснік міністра культуры Беларусі Уладзімір Карачэўскі. Беларускія гледачы азнаёміліся з сучасным мастацтвам гэтай краіны. У мерапрыемствах Дзён культуры ўзяла ўдзел дэлегацыя Ізраіля ў складзе 44 чалавек, у ліку якіх — віцэ-мэры некаторых гарадоў, а таксама супрацоўнікі штаба міністра інфармацыі і дыяспары.

✔У цэнтры вывучэння Беларусі пры Усходнекітайскім педагагічным універсітэце ў Шанхаі адбыўся творчы вечар, прысвечаны 130-годдзю з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа. На імпрэзе гучалі вершы класікаў на беларускай і кітайскай мовах, а таксама былі падведзены вынікі конкурсу перакладаў. Цэнтру вывучэння Беларусі перададзены кнігі беларускіх аўтараў — усяго 120 выданняў.

✔Дні Францыска Скарыны прайшлі ў сталіцы Чэхіі — Празе. Праект прымеркаваны да 495-годдзя з дня выдання вялікім асветнікам першай друкаванай Біблії на старабеларускай мове, а таксама 20-годдзя ўстанаўлення дыпламатычных адносін паміж Беларуссю і Чэхіяй. Адбылося ўскладанне кветак да памятнай дошкі Францыску Скарыне ў Славянскай бібліятэцы ў Клеменцінуме, якая з'яўляецца старэйшай у Еўропе, а таксама да помніка беларускаму асветніку ў пражскім раёне Градчаны.

✔З 2013 года ўсе фільмы Нацыянальнай кінастудыі "Беларусьфільм", якія выходзяць у кінапракат краіны, будуць з'яўляцца ў лічбавым фармаце. Пра гэта паведаміў генеральны дырэктар кінастудыі Алег Сільвановіч. Паводле яго, у 2012 годзе кінастудыя "Беларусьфільм" цалкам перайшла на лічбавыя тэхналогіі вытворчасці фільмаў. "Пераход на лічбавы фармат, якому ўласціва вельмі высокае разрозненне, дабаўляе кінакадрам шмат дадатковых падрабязнасцей", — запэўніў Алег Сільвановіч.

✔Франка-беларуская асацыяцыя "Жыццё ў музыцы" (La vie en musique) узнагародзіла прэміямі дзвюх лепшых выпускніц кафедры кампазіцыі Беларускай акадэміі музыкі. Узнагароджанне адбылося падчас святочных мерапрыемстваў, прысвечаных 80-годдзю Беларускай акадэміі музыкі. Прэмія ўручаецца ўжо шосты год запар, гэтым разам ёю ўганараваны Вікторыя Спарыш і Алена Гуціна.

✔Прэзентацыя першых двух тамоў 25-томнага збору твораў Уладзіміра Караткевіча адбылася на філалагічным факультэце БДУ. На сустрэчу запрашаліся складальнікі, рэдактары, даследчыкі творчасці пісьменніка, сярод якіх член-карэспандэнт НАН Беларусі Міхась Мушынскі, доктар філалагічных навук Адам Мальдзіс, Вячаслаў Рагойша, Таццяна Шамякіна. Працу над зборам твораў плануецца завяршыць да 2020 года.

Падрыхтавала
Ярына РЫТАМІНСКАЯ

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# Мужнасць як частка прафесіі

Ніна САРМАНТ,
фота Кастуся Дробава

12 снежня ў Мемарыяльнай зале Дома літаратара праводзіліся "Урокі мужнасці і любові да роднага краю". Вучнямі ў гэты вечар былі курсанты Інстытута пагранічнай службы, а настаўнікамі — знакамітыя пісьменніцы Раіса Баравікова і Валянціна Паліканіна.



На пачатку сустрэчы з прамовай выступіў першы сакратар Саюза пісьменнікаў Беларусі Генадзь Пашкоў. Ён расказаў, што праводзіць "урокі мужнасці" вырашылі на сустрэчы з Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь. Мемарыяльную залу абралі месцам правядзення невыпадкова — яна прысвечана беларускім літаратарам, якія ўдзельнічалі ў Вялікай Айчыннай вайне — людзям мужным і самаадданым. На "ўроках" ужо пабывалі гімназісты, ліцэісты, студэнты. А гэтым разам былі запрошаны будучыя афіцэры, для якіх мужнасць і любоў да роднага краю — неад'емная частка прафесіі.

Паэтэсы расказвалі цікавыя гісторыі з жыцця, давалі парады і, канечне, чыталі вершы, прысвечаныя Радзіме, каханню, жыццю. Курсанты з зацікаўленасцю слухалі, задавалі пытанні і запрасілі пісьменніц прыехаць на сустрэчу ўжо да іх. Можна лічыць, што ўрокі мужнасці працягнуцца па-за сценамі Дома літаратара.

## Саюзная дзяржава

# Абраныя часам

Распавядаючы пра юбілей нейкай падзеі, звычайна прынята згадваць, "з чаго ўсё пачыналася". Дык вось, прэмія Саюзнай дзяржавы ў галіне літаратуры і мастацтва пачыналася з такіх імёнаў, як Іван Шамякін, Аляксей Дудараў і Аляксей Пятрэнка. Гэта яе першыя лаўрэаты 2002 года. Дарэчы, яны ў нейкай ступені ўзнялі планку для наступных яшчэ 19 лаўрэатаў. І кожныя два гады — менавіта з такой перыядычнасцю прэмія ўручаецца — аўтары сваімі творамі пацвярджаюць высокі ўзровень прэміі.

Таццяна
КУЗНЯЧЭНКАВА

Прэмія Саюзнай дзяржавы магла б адзначаць сваё дзесяцігоддзе не сёлета, а тры гады таму — у 2009-м. Рашэнне не заснавальнікі былі прынята Вярхоўным Саветам Саюза Беларусі і Расіі яшчэ ў 1999 годзе, аднак па-сапраўднаму ажыла яна, калі былі названы першыя лаўрэаты. Таму, відаць, і на святкаванні юбілею сярод ганаровых гасцей — не толькі і нават не столькі прадстаўнікі ўлады, Экспертнага савета па прэміях, дзелавыя партнёры, колькі лаўрэаты розных гадоў: Расціслаў Янкоўскі (2006), Леанід Шчамялёў (2010), Георгій Паплаўскі (2012) і Сяргей Гуміляўскі (2010). Сабраліся на святочную вечарыну ў знакавым для прэміі месцы — мастацкай галерэі яе лаўрэата 2004 года Міхаіла Савіцкага.

Дзесяць гадоў — узрост зусім невялікі, аднак некаторыя вынікі падвесці можна. За гэты час прэмія пацвердзіла і канчаткова замацавала статус прэстыжнай міждзяржаўнай узнагароды, ацаніла работу многіх творцаў. І сёння яна можа акрэсліць перспектывы і прыняць прапановы, якія неаднойчы выказваліся падчас творчых сустрэч з аўтарамі. Пра іх і распавёў начальнік аддзела сацыяльнай палітыкі Дэпартамента сацыяльнай палітыкі і інфармацыйнага забеспячэння Пастаяннага Камітэта Саюзнай дзяржавы Іван Яновіч:

— Цяпер падрыхтавана новае Палажэнне па прэміі, пакуль яно праходзіць узгадненне. Па-першае, плануецца стварыць такія ўмовы, каб у ліку канкурсантаў і лаўрэатаў з'явілася больш аўтараў, якія выканалі свае творы нядаўна — яны расказваюць пра сённяшні дзень, сённяшнія беларуска-расійскія ўзаемаадносіны, нашы сумесныя справы, дасягненні. Іх створаць мэтры нашай культуры, мастацтва. Але пра сённяшні час. Няўжо няма сёння тэм, якія можна па-мастацку ўвасобіць? Безумоўна, ёсць.

У ліку змен таксама — матэрыяльны бок прэміі, выплаты па якой, хутчэй за ўсё, будуць фіксаванымі, і "тэхнічныя" пытанні (паколькі прэмія ўручаецца раз на два гады, то адзін год — вылучэнне кандыдатаў, наступны — уручэнне прэмій, прыёмы і гэтак далей).

Нельга не пагадзіцца з выступоўцамі, што творы, за якія іх аўтары былі намініраваны на прэмію і атрымалі высокія ўзнагароды, — гэта прыклад таго, як варта працаваць. І яны насамрэч дарагія і беларусам, і рускім.

Нікольні не забываючыся на дасягненні лаўрэатаў, нельга было не сказаць на святочнай імпрэзе словы ўдзячнасці ўсім, хто спрычыніўся да арганізацыі прэміі: Міністэрствы культуры абедзвюх краін, Пастаянны камітэт Саюзнай дзяржавы і яго надзейныя памочнікі: Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі з беларускага боку і Фонд падтрымкі гуманітарных і творчых праектаў "Движение" — з расійскага.

## Духоўныя абсягі

# Паразуменне дае плён

Нездарма кажуць: душа душу шукае, а блізкасць поглядаў людзей, іх інтарэсаў дазваляе ім хутка знайсці агульную мову. Таму невыпадкова, што знакаміты рускі пісьменнік Уладзімір Крупін у час наведванняў нашай краіны абавязкова сустракаецца з вядомым мецэнатам, даследчыкам гісторыі беларускіх шляхецкіх родаў Анатолем Статкевічам-Чабаганавым.

Лявон КУДРЭЙКА

Творчасць У. Крупіна вызначаецца высокай духоўнай напоўненасцю, звязана са шматвяковай славянскай традыцыяй і народнай рэлігійнасцю. У ягоных творах праўдзіва і псіхалагічна пераканаўча паказана знітаванасць свету чалавека і прыроды. А. Статкевіч-Чабаганаў дзякуючы сваім даследчыцкім памкненням і адкрыццям вяртае з небыцця постаці многіх з тых, хто быў незаслужана забыты, людзі гэтыя вартыя ўдзячнай памяці нашчадкаў.

Блізкасць памкненняў У. Крупіна і А. Статкевіча-Чабаганава і ў тым, што абодва перакананы: менавіта вера выступае сілай, здатнай вярнуць духоўна-маральнае здароўе чалавеку і грамадству, захаваць адзінства і стабільнасць у краіне. Таму пачынаючы з 2005 года А. Статкевіч-Чабаганаў фінансуе аднаўленне храма Раства Прасвятой Багародзіцы ў вёсцы Сёмкаў Гарадок, што пад Мінскам. Адметнасць гэтага храма, пабудаванага ў XVIII стагоддзі мінскім губернатарам Хмарам, у тым, што ў 1888 годзе ў ім вянчаліся бацькі Максіма Багдановіча. Тым, як ідуць работы, У. Крупін застаўся ўражаны:

— Нават не верыцца, што некалькі гадоў таму гэты будынак, па сутнасці, зусім разваліўся.

— Цяпер, — дадае А. Статкевіч-Чабаганаў, — ужо можна быць упэўненым, што ў першай палове наступнага года храм будзе асвечаны, набудзе новае жыццё. Дарэчы, — працягвае Анатоль Васільевіч, — у гэтым храме будзе працаваць нядзельная школа для дзетак. Міністэрства культуры мае намер правесці сюды турыстычны маршрут ад Літаратурнага музея Максіма Багдановіча ў Мінску.

## Прынятыя ў Саюз пісьменнікаў Беларусі



**ГАРАДНІЦКІ Яўген Андрэевіч**
*Празаік, літаратуразнавец, літаратурны крытык*

Нарадзіўся 29 ліпеня 1951 года ў в. Ракаў Валожынскага раёна. Скончыў філалагічны факультэт БДУ імя У. І. Леніна, кандыдат філалагічных навук. Працаваў вядучым навуковым супрацоўнікам у ДНУ "Цэнтр даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі". Выкладае літаратуразнаўчыя дысцыпліны ў Беларускім дзяржаўным універсітэце культуры і мастацтваў. Аўтар дзевяці кніг, а таксама шматлікіх публікацый у вядомых навуковых і літаратурна-мастацкіх выданнях. Адзін з аўтараў-складальнікаў бібліяграфічнага слоўніка "Беларускія пісьменнікі" ў 6 тамах (1992 — 1995).



**КОШУР Святлана Андрэеўна**
*Краязнавец*

Нарадзілася 2 студзеня 1958 года ў в. Валеўка Навагрудскага раёна. Скончыла філалагічны факультэт БДУ імя У. І. Леніна. Працуе старшым навуковым супрацоўнікам Карэліцкага раённага краязнаўчага музея. Арганізавала шэраг выставак, прысвечаных гісторыі і культуры краю, славутым землякам — пісьменнікам, вучоным, артыстам, мастакам. Аўтар 7 кніг з матэрыяламі на краязнаўчую тэматыку, каля 180 публікацый у перыёдыцы, навуковых зборніках і гісторыка-дакументальнай хроніцы Карэліцкага раёна "Памяць".

*Літабсягі*

# Чаму плача анёл Шагала?

Вольга Тарасевіч нязменна знаходзіцца ў цэнтры ўвагі чытачоў. За апошнія гады наклад яе кніг склаў больш як 250 тысяч асобнікаў, што дазволіла творцы ўзначаліць Топ-10 самых паспяховых пісьменнікаў Беларусі.




**Даніла АРЦІМОВІЧ**

Сёлета ў РВУ "Літаратура і Мастацтва" ў серыі "Detective&History" выйшаў раман "Плачущий ангел Шагала". Дзеянне твора разгортваецца адначасова ў дзвюх часавых прасторах. У першай (пачатак XX стагоддзя) дзейнічае сам Марк Шагал. А вось дзеянне другой адбываецца ў нашыя дні. Адна з карцін віцебскага майстра становіцца прычынай забойства маскоўскага антыкввара Івана Карэнды. Следчы Уладзімір Сядоў і пісьменніца Ліка Вронская расследуюць гэтую справу. Апошняя неўзабаве пачынае здагадвацца, хто ідзе да сваёй мэты па трупах, але змяніць сітуацыю ўжо позна…

Асобы, дасведчаныя ў сучасным кніжным бізнесе, могуць пацікавіцца: што падштурхнула выдавецтва да супрацоўніцтва з В. Тарасевіч? На маю думку, можна вылучыць як мінімум дзве прычыны.

Не сакрэт, што апошнім часам тэлебачанне становіцца моцным рычагом у кніжным бізнесе. Варта нагадаць, што пасля паказу па расійскіх каналах серыялаў "Идиот" і "Мастер і Маргарита" продажы арыгінальных класічных твораў прыкметна павялічыліся. Між тым, у мінулым годзе Белтэлерадыёкампанія выкупіла правы на экранізацыю шасці раманаў В. Тарасевіч: "Без чайных церемоний", "Ожерелье Атона", "Проклятие Эдварда Мунка", "Смертельный аромат № 5", "Сокровище князей Радзивиллов" і "Плачущий ангел Шагала". Вынікам працы стаў серыял "Поцелуй Сократа", у якім зняліся зоркі як з Расіі (Алена Корыкава, Андрэй Сакалоў), так і з Беларусі (Святлана Анікей, Анатоль Кот, Анатоль Цярпіцкі, Сяргей Журавель, Валерыя Арланава). Цалкам магчыма, што пасля прагляду серыяла гледачы пажадаюць пазнаёміцца з кніжнай першакрыніцай. Таму выданне "Плачущего ангела Шагала" можна ўспрымаць як граматны маркетынгавы ход.

Другая прычына бачыцца ў наступным. Маладая беларуская дзяржава, як і любая іншая краіна, мусіць мець пазнавальны вобраз сярод замежнікаў. Стваральнікі серыяла прыклалі максімум намаганняў, каб годна прадставіць сучасныя айчынныя рэаліі. Напрыклад, Ліка Вронская і Уладзімір Сядоў знаёмяцца ў будынку Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. Расследаванне дэтэктыўнай гісторыі пра лёс твора прыводзіць герояў на віцебскі "Славянскі базар". Іншыя падзеі адбываюцца ў інтэр'ерах Нацыянальнага мастацкага музея, тэатра оперы і балета і г. д. Праект БТ з'яўляецца першай айчыннай спробай ажыццявіць экранізацыю нацыянальнай дэтэктыўнай серыі. Выданне "Плачущего ангела Шагала", несумненна, паспрыяе стварэнню іміджу Беларусі.

*Арт-лінія*

# Смерці не існуе

Спектакль "Ангел Шагал над крышамі", які прадставіў тэатр лялек "Дом сонца", прайшоў у холе Нацыянальнага мастацкага музея і стаў добрым падарункам прыхільнікам творчасці мастака і ўсім тым, хто шчыра верыць у дабро, любоў і сапраўднае каханне.



*Падчас спектакля "Ангел Шагал над крышамі".*

**Дзіяна КАРОЛЬ, фота Генадзя Пугачова**

Тэатр лялек "Дом сонца" быў створаны ў 2011-м і дэбютаваў спектаклем "Бацька-Пернік" у лістападзе таго ж года ў рамках фестывалю "Двери", сёння ён вядомы гледачам па батлеечных пастаноўках, лялечных спектаклях для дзяцей і дарослых, а таксама інтэрактыўных перформансах на філасофскія тэмы.

Сюжэт спектакля "Ангел Шагал над крышамі" і просты, і складаны адначасова. Гэта кароткая біяграфія Марка Шагала (увесь спектакль доўжыцца 40 хвілін): маленства, сустрэча з Бэлай, чуллівае каханне маладых людзей, смерць Адзінай. І паўсюль за галоўнымі героямі крочыць Анёл, які дапамагае выбраць патрэбны шлях, дорыць натхненне і супакойвае ў цяжкі момант.

Асаблівасць спектакля "Ангел Шагал над крышамі" ў тым, што ўвесь ён складаецца з твораў знакамітых закаханых. Рэплікі галоўных герояў — цытаты з кніг Шагала "Маё жыццё" і "Анёл над дахамі", а таксама зборніка вершаў Бэлы "Агні палаюць".

— У спектаклі мы паспрабавалі перадаць менавіта той дух, які адчуваецца на палотнах Марка Шагала, таму што ў цэлым творчасць мастака вельмі цёплая і добрая, — распавядае актрыса лялечнага тэатра "Дом Сонца" і мастак па лялькы Кацярына Гузоўская-Гара. — За галоўную мэту мы ўзялі прыцягненне ўвагі да асобы Шагала, бо ён таксама вядомы як таленавіты пісьменнік. У спектаклі недарма прысутнічае вобраз гадзіншчыка: ён звязаны з бясконцасцю усяго, што існуе. Мы хацелі паказаць, што смерць не з'яўляецца заканчэннем, таму і ўявілі маналог душы Бэлы, бо менавіта каханне да памерлай жонкі і яе запісы вярнулі мастака да жыцця, калі ён застаўся адзін і быў гатовы памерці. Усе ўдзельнікі і гледачы спектакля "перажылі" з Маркам і Бэлай іх гісторыю. Нельга нават сказаць, што яго паставіў адзін чалавек — рэжысёр і мастак па лялькы Галіна Савельева. Кожны ўнёс нейкія ідэі, майстар па праекцыях Генадзь Пугачоў напісаў цудоўную песню на вершы Марка Шагала, якая гучыць у фінале спектакля.

Наступны паказ лялечнага спектакля "Ангел Шагал над крышамі" (у галоўных ролях задзейнічаны Кацярына Гузоўская-Гара, Юрый Пахомаў, Галіна Савельева, Вольга Груша) плануецца ўжо ў новым годзе ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва.

*Повязі*

# Каляды. Weihnachten

Беларуска-нямецкія Каляды святкуюцца ў Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры трэці год запар. Напачатку ў праекце ўдзельнічалі сам музей ды Інстытут нямецкіх даследаванняў. Потым далучыўся Універсітэт культуры і мастацтваў. Сёлета яго прадстаўляла кафедра этналогіі і фальклору.

**Анастасія ГРЫШЧУК**

Як няцяжка здагадацца, калядная праграма заўжды мае два складнікі — нямецкі і беларускі. Сёлета "нямецкая частка" праграмы была прадстаўлена віктарынай. Пытанні, што задаваліся ўдзельнікам, змяшчалі цікавыя факты. Напрыклад, у Брытаніі пэўны час Каляды былі забароненыя. У 1657 годзе дзяржаўны дзеяч Олівер Кромвель, які быў яшчэ і заўзятым пратэстантам, "адмяніў" усе каталіцкія святы. Аднак праз год ён памёр, і Каляды вярнуліся. А ці ведаеце вы, з якога ўвогуле часу святкуюць Раство Хрыстова? Пачалося ўсё ў 336 годзе.

Безумоўна, віктарына пазнавальная. Але наступным разам варта наладзіць сінхронны пераклад. А пачастунак нямецкага боку ўсіх парадаваў.

У беларускай частцы праграмы студэнты Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў рэканструявалі калядныя абрады. У мінулым годзе яны паказалі асучасненыя Каляды. Сёлета — традыцыйнае калядаванне з Казой, старадаўняга "Яшчура", ды яшчэ і станчылі "Лявоніху", "Ойру"...

Дарэчы, Каляды ніколі не святкаваліся аднолькава па ўсёй Беларусі. На Палессі калядоўшчыкі вадзілі за сабой знакамітую Казу. У Заходняй Беларусі па дварах хадзілі "тры біблейскія цары" Каспар, Мельхіёр і Бальтасар, што прынеслі немаўлятку Хрысту дары. Пры гэтым калядоўшчыкі пакідалі на дзвярах хат надпіс "КМБ". У Цэнтральнай і Паўночнай Беларусі святкаванні праходзілі ціха, зазвычай яны абмяжоўваліся хатнімі цырымоніямі: праводзіліся абрады "Жаніцьба Цярэшкі", вышэйпамянёны "Яшчур" і "Халімон".

Зразумела, што паказаць усе абрады падчас вечарыны не атрымалася, аднак разнастайнасць строяў гледачы ацаніць змаглі.

Пры канцы падвялі вынікі літаратурнага конкурсу, прымеркаванага да Каляд ды ўвогуле да зімы. Пераможцаў двое: аўтар беларускамоўнага верша "Рыбакі" Зміцер Жарын і аўтар перакладу верша Веры Вярбы "Зімовая калыханка" на нямецкую Марыя Старадумава. Да таго ж, правялі міні-конкурс карнавальных касцюмаў і абмяняліся падарункамі.



Беларуска-нямецкія Каляды — гэта яшчэ адна форма культурнага супрацоўніцтва, — тлумачыць загадчык аддзела навуковай асветы музея Лідзія Шагойка. — Па-другое, у нашым свеце столькі праблем, і хочацца, каб было нешта, што аб'ядноўвала б людзей і давала моцы. А што нас яднае мацней за нараджэнне Хрыста?..

*З-пад пяра*

➤ Шэраг юбілейных свят, прысвечаных 130-годдзю Янкі Купалы і Якуба Коласа, быў падсумаваны вечарынай у Белдзяржфілармоніі. У зале сабраліся госці з Беларусі, Літвы, Расіі. Ва ўрачыстым канцэрце ўзялі ўдзел самыя вядомыя калектывы краіны, выканаўцы спявалі песні на словы Песняроў, паэты адрасавалі радкі славутым папярэднікам. Міністр культуры Барыс Святлоў заклікаў усіх "чытаць і перачытваць класікаў".

**Кіра МУРАЎСКАЯ**

➤ Выбраць галоўныя сем скарбаў Беларусі прапануе партал УсеБелАрусы. Тут да 19 гадзін 13 студзеня будзе праходзіць галасаванне па сямі катэгорыях: песні і скокі; імёны; падзеі; прырода; святы, звычаі і абрады; стравы; архітэктура. Гэта ўжо не першы праект партала, а напярэдадні — новыя акцыі. Імі стануцца асобнае галасаванне для скарбаў больш сучасных (XX — XXI стагоддзі) і для менш вядомых (аднак жа не менш значных і цікавых!). Згадвайце роднае, беларускае і выбірайце лідараў — нашыя брэнды. Вынікі будуць аб'яўлены на Стары Новы год.

**Алеся БАЦЮСЬ**

➤ Чым адрозніваецца мэбля ў стылі барока ад мэблі класіцызму? Што такое герыдон маркетры? Якая розніца паміж курульным крэслам і крэслам "бержэр"? Адказы на гэтыя і іншыя пытанні вы знойдзеце на беспрэцэдэнтнай і буйнамаштабнай выстаўцы "Антыкварыят", якая адкрылася ў Гомельскім палацава-паркавым ансамблі, прытым упершыню. Экспанаты прадставіў прыватны калекцыянер Сяргей Пуцілін. Дарэчы, такой колькасці прадметаў даўніны ў Гомельскім палацы не збіралася з часоў Паскевіча! Гісторыя прадметаў — гэта гісторыя іх формы, прызначэння і ўсіх змен, якія дыктаваліся моднымі прыхільнасцямі, заняткамі і побытам людзей. Найвялікшай папулярнасцю ў калекцыянераў антыкварыяту карыстаецца мэбля, бо яна функцыянальная і пры адпаведным доглядзе прыдатная для паўсядзённага выкарыстання.

**Раіса МАРЧУК**

➤ Уінфармацыйна-выставачным цэнтры Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі прайшла вечарына, прысвечаная Году кнігі, — "Калейдаскоп беларускай навукі". Яе ўдзельнікамі сталі вучоныя Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі ды творчы калектыў выдавецкага дома "Беларуская навука". Да імпрэзы прымеркаваная выстаўка "Год кнігі Выдавецкага дома «Беларуская навука»", на якой дэманструецца каля 100 навуковых і навукова-папулярных выданняў 2012 года.

**Ярына РЫТАМІНСКАЯ**

➤ Свята "Мы Калядам заўжды рады!" прайшло на філалагічным факультэце БДУ. Галоўным удзельнікам "каляндак" стаў студэнцкі фальклорна-этнаграфічны калектыў БДУ "Багач". Самадзейныя артысты аднавілі каларыт і непаўторную атмасферу старадаўняга свята беларусаў. Прычым, аддаючы даніну хрысціянскім традыцыям, свята захоўвае і традыцыі народных гулянняў да пэвен'яў: ваджэння казы, пераапранання ў каня, мядзведзя. Гурты прайшліся па аўдыторыях з велічальнымі каляднымі песнямі, пажаданнямі дабрабыту ў дамах і сем'ях.

**Рыта СТАХ**

Я ўжо пісаў пра тое, што ў сувязі са стагоддзем з дня нараджэння Максіма Танка ў нашым друку з'явіліся публікацыі з сур'ёзнымі памылкамі і недакладнасцямі ў асвятленні яго жыцця і творчасці. Яны не толькі ўводзяць у зман недасведчанага чытача, але і выклікаюць недапушчальную ў такіх выпадках фактaлагічную блытаніну.

Мікола МІКУЛІЧ

# Каардынаты лёсу

Напрыклад, шматлікія памылкі і недакладнасці "гуляюць" у кнізе ўспамінаў, эсэ, прысвячэнняў "Максім Танк. На камні, жалезе і золаце", прымеркаванай да стагоддзя народнага паэта і выдадзенай "па заказу і пры фінансавай падтрымцы Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь" у папулярнай і прэстыжнай серыі "Жыццё знакамітых людзей Беларусі". А возьміце восьмы нумар часопіса "Роднае слова". Ва ўступным артыкуле "Незгасальнае свята беларускай паэзіі: да 100-годдзя з дня нараджэння Максіма Танка" сцвярджаецца: "Максім Танк — заўважная постаць у айчыннай літаратуры. Больш як тры дзясяткі зборнікаў паэзіі, пяць кніг казак — такі творчы набытак Яўгена Іванавіча Скурко амаль за 60 гадоў літаратурнай працы". Але хіба "такі творчы набытак Яўгена Іванавіча Скурко" і хіба "амаль за 60 гадоў літаратурнай працы"? Максіму Танку належыць 21 арыгінальная паэтычная кніга. Калі мець на ўвазе ўсе яго кнігі паэзіі, са зборнікамі выбранага, дык іх нашмат болей, чым названа ў прадмове-артыкуле. Істотна тое, што акрамя іх Танк пакінуў пасля сябе мастацкія пераклады, насычаныя глыбокім сацыяльна-філасофскім роздумам дзённікі, цікавыя літаратурна-крытычныя і публіцыстычныя артыкулы, якія склалі многія тамы апошняга збору твораў.

Пісаць вершы Максім Танк пачаў у канцы 1920-х гадоў, памёр — 7 жніўня 1995 года. Няцяжка падлічыць, што літаратурнай дзейнасцю ён займаўся добрых шэсць з палоўвай дзесяцігоддзяў.

Прачытаўшы дадзенае заключэнне ў нумары часопіса, спецыяльна прымеркаваным да стагоддзя народнага паэта, настаўнік ці вучань, несумненна, паверыць яму. І гэта пры тым, што выданне мае шырокі штат навуковых кансультантаў.

У артыкуле "Польскі і рускі авангардызм у творчым лёсе Максіма Танка" Галіны Тычко, змешчаным у дзявятым нумары часопіса "Нёман", гаворыцца пра тое, што пачатковую адукацыю будучы паэт атрымаў у бежанстве ў Маскве, а вярнуўшыся ў 1922 годзе на Радзіму, працягнуў вучобу ў чатырох гімназіях. Але гэта, мякка кажучы, не зусім так. У Маскве Яўген Скурко толькі пачаў наведваць, зразумела, рускую пачатковую школу. Жывучы пасля бежанства ў Пількаўшчыне, ён адну зіму займаўся дома пад апекай бацькі, а пасля тры гады вучыўся ў польскіх пачатковых школах (у вёсках Шкленікава і Сваткі). Да паступлення ў сярэднюю школу — Вілейскую рускую прыватную гімназію — ён закончыў Сваткаўскую польскую пачатковую школу.

Далей у згаданым артыкуле чытаем наступнае: "Першыя вершы Максіма Танка, якія ўвайшлі ў паэтычны зборнік "На этапах" (1937), адносяцца да 1930 года". Гэта таксама не адпавядае рэчаіснасці. Папершае, дэбютны зборнік М. Танка "На этапах" выйшаў не ў 1937-м, а ў 1936 годзе (у 1937-м пабачыла свет яго наступная кніга — "Жураўлінавы цвет"). Па-другое, у ім няма ніводнага верша, напісанага не толькі ў 1930 годзе, але і ў 1931-м. Самыя раннія творы па розных прычынах паэт не ўключыў у свой першы зборнік. Некаторыя з іх былі дабаўленыя ім у кнігі выбранага, а таксама зборы твораў у двух, чатырох і шасці тамах, што пабачылі свет пасля вайны. Хутчэй за ўсё, у зман аўтара артыкула ўвёў якраз першы том збору твораў, у якім у раздзеле "На этапах" надрукаваныя асобныя вершы 1930 года.

Пра сувязь М. Танка з польскім авангардызмам аўтар артыкула заўважае: "З'яўленне "Жагараў" па часе амаль супадае з выдавецкай дзейнасцю Максіма Танка. У 1931 годзе ён выдае два нумары рукапіснага часопіса "Пралом", а ў 1933-м — часопіс "Краты" (выйшла 6 нумароў). Нам здаецца, што "Жагары" ў значнай ступені паслужылі імпульсам да з'яўлення гэтых выданняў, паколькі эстэтычныя ўстаноўкі маладога беларускага паэта ў 30-я гады ў многім супадаюць з праграмнымі маніфестамі "жагарыстаў". Напрыклад, у праграмным вершы "Акт першы" (1935) Максім Танк, абвяшчаючы новыя задачы літаратуры, апявае рамантыку сацыяльнай рэвалюцыі:

*Досыць!*
*Не штука іграць на кларнеце,*
*Медныя жменяй сыпаць акорды,*
*Блудзіць па прытонах,*
*Цешыць тлустыя морды...*"

Але верш "Акт першы" напісаны пад уплывам не групы "Жагары", а творчасці Маякоўскага. Гэта даволі абгрунтавана засведчыла наша літаратуразнаўства і неаднаразова пацвярджаў сам паэт. А падругое, калі адна з'ява "па часе амаль супадае" з іншай, зусім яшчэ не значыць, што яна ўзнікла пад яе ўплывам.

Мне цяжка паверыць у тое, што рукапісныя часопісы "Пралом" і "Краты" М. Танк выдаваў, нейкім чынам арыентуючыся на праграмныя маніфесты "жагарыстаў". Нідзе ніколі паэт не засведчыў сваю ідэйна-мастацкую набліжанасць да віленскіх "Жагараў". Наадварот, М. Танк увесь час падкрэсліваў сваё разыходжанне з польскімі мадэрністцкімі аб'яднаннямі і плынямі — і ў плане ідэйнай накіраванасці творчасці, і ў плане яе мастацка-вобразнага зместу: "Я ніколі не быў звязан ні з кракаўскай "Авангардай", ні з віленскімі "Жагарамі", як і з іншай мадэрністцкай паэтыкай, бо іх стыль — гэта нешта зусім іншае, чаго ў мяне і не было, дый наогул, я ведаў тады пра іх значна менш, чым наша сучасная крытыка. Калі ўжо гаварыць пра ўплывы, то праўдай будзе тое, што мая творчасць з самага пачатку развівалася і натхнялася, у першую чаргу, заходнебеларускім жыццём, вуснапаэтычнай творчасцю народа і савецкай сацыялістычнай літаратурай". Прызнанне больш чым красамоўнае.

Няўжо мы сёння выйшлі ў гісторыка-тэарэтычным асэнсаванні спадчыны народнага паэта Беларусі і заходнебеларускай літаратуры на такія адкрыцці і фактуры, якія дазваляюць нам яго аспрэчваць?.. Я сумняваюся ў гэтым.

Ні адзін з прыведзеных у артыкуле дзённікавых запісаў М. Танка канкрэтна не пацвярджае таго факта, што ён на раннім этапе сваёй творчасці знаходзіўся пад уплывам польскай авангарды.

М. Танк крытыкаваў У. Калесніка за неаб'ектыўнае асвятленне сувязей яго творчасці "з польскімі мадэрністцкімі плынямі". Паэт катэгарычна аспрэчваў у перапісцы з літаратуразнаўцам сваю вучобу ў польскай авангарды, падкрэсліваючы яе незаангажаванасць у сацыяльна-рэвалюцыйныя працэсы. Пра гэта, у прыватнасці, сведчаць два цяпер ужо добра вядомыя лісты: напісаны ў студзені 1978 года ліст М. Танка да У. Калесніка і адказ на яго даследчыка, які датуецца 22 студзеня таго ж года.

Варта мець на ўвазе тую акалічнасць, што перад М. Танкам і польскай авангардай стаялі розныя задачы, іх творчасць развівалася фактычна ў розных сацыяльна-гістарычных умовах. "Жагары" "чакалі рэвалюцыі" (Ч. Мілаш), паводле слоў аўтара нёманскага артыкула, "дыскутавалі пра грамадскую ролю мастацтва як інструмента фарміравання асобы", а М. Танк, яго аднадумцы і паплечнікі непасрэдна ўдзельнічалі ў заходнебеларускай нацыянальна-вызваленчай барацьбе, неаднаразова падвяргаючыся арыштам і трапляючы ў турмы, актыўна прадуцыравалі гэтае мастацтва і неслі яго ў шырокія масы. Яны не толькі "абвяшчалі праграму стварэння новай літаратуры", як піша аўтар у дачыненні да "жагарыстаў", а плённа і эфектыўна стварылі гэтую "новую літаратуру".

"Самыя гарачыя спрэчкі, — чытаем у артыкуле пра ўдзельнікаў групы "Жагары", — выклікала ў іх тэма ролі літаратурнай традыцыі і адносін мастака да сучаснасці". У М. Танка і яго таварышаў не было і не магло быць спрэчак на гэтую тэму. Яны выхоўвалі сябе на глыбокай павазе да фальклору, літаратурнай спадчыны мінулага, творчасці выдатных папярэднікаў і настаўнікаў — А. Пушкіна, А. Міцкевіча, Янкі Купалы, Якуба Коласа і інш. — і сцвярджалі актыўную грамадзянска-патрыятычную пазіцыю.

Пра тое, што М. Танк нічога агульнага не меў з "Жагарамі", паэт сведчыў у гутарках з Д. Бугаёвым, У. Міцкевічам, А. Вялюгіным, некаторымі іншымі асобамі. Пра гэта ён неаднаразова гаварыў і мне. У мяне, напрыклад, духу не хапае падвяргаць сумненню наступныя словы Яўгена Іванавіча (прыводжу па магнітафонным запісе): "Вось польская авангарда... Я пісаў многія раешнікі і не нюхаў яе... А тут некаторыя даследчыкі: перайма́ў, бачыш, польскіх авангардыстаў... Нічога супольнага з "Жагарамі" мы не мелі і мець не маглі..." Асабліва калі для сцвярджэння супрацьлеглага няма аніякіх аргументаў і доказаў.

Мы ледзь не ўсюды сваё ставім у залежнасць ад чужога. Максім Танк адчуваў уплыў паэтыкі польскіх авангардыстаў... Хіба гэта паказана ў нёманскім артыкуле на аснове літаратуразнаўчага аналізу, супастаўлення канкрэтных вершаў М. Танка з творамі, напрыклад, Т. Буйніцкага, Е. Загурскага, некаторых іншых "жагарыстаў"? А можа, наадварот, ярка адораны беларускі паэт уплываў на маладых польскіх аўтараў, прадстаўнікоў віленскай авангарды?! Паглядзіце, што пісаў пра яго былы паплечнік па рэвалюцыйнай барацьбе і таварыш па пяры Альбінас Жукаўскас: "Як паэт Максім Танк быў самы таленавіты з усіх тагачасных вільнюскіх паэтаў. Мы ім проста захапляліся. Нас усіх заражаў яго аптымізм, вера ў перамогу, празрыстая народнасць яго вершаў, паэтычная і палітычная спеласць, чыстая беларуская душа, дабрыня, прыгажосць. Цікава, што неўзабаве яго паэзію прызналі нават пераборлівыя, з прэтэнзіямі, надзьмутыя польскія прафесары, якія беларускую, як і літоўскую, мову ды літаратуру лічылі ніжэйшай, "хамскай" мовай і літаратурай".

У 1930-я гады Максім Танк з'яўляўся лідарам усяго шматстайнага віленскага паэтычнага асяроддзя. Нездарма толькі аднаго яго літаратурныя вечары былі арганізаваныя і праведзеныя ў Варшаве з удзелам элітных асоб польскага грамадска-культурнага бамонду.

Наогул, з артыкула цяжка зразумець, чым адрозніваліся паміж сабою польскі і рускі авангардызм і які канкрэтна ўплыў кожны з іх аказаў ці мог аказаць на ідэйна-мастацкія пошукі маладога М. Танка. Да таго ж, польскі авангардызм не зводзіцца толькі да адных віленскіх "Жагараў", выданняў "Папросту" і "Карта". На жаль, у артыкуле ні слова не сказана пра іншыя групы мадэрністаў, і ў першую чаргу пра варшаўскі "Скамандр" і кракаўскі "Авангард". У цэлым гэта была вельмі неаднародная і даволі супярэчлівая з'ява.

У артыкуле правільна гаворыцца пра тое, што М. Танк удзельнічаў "у авангардным руху міжваеннай Вільні, які культываваў традыцыі У. Маякоўскага". Дык, можа, якраз тут і палягае асноўная метадалагічная таямніца праблемы, а іменна: і беларускі паэт, і польская авангарда былі звернутыя да вопыту надзвычай папулярнага ў 1930-я гады Уладзіміра Маякоўскага?! Пры тым, зразумела, што ўсё асноўнае ў творчасці маладога М. Танка вызначалася індывідуальным характарам светаадчування і ў цэлым мастацкага таленту, узгадненнем на яго сацыяльна-рэвалюцыйных працэсаў складанай і супярэчлівай заходнебеларускай рэчаіснасці.

І далей. Калі "імпульсам да з'яўлення" рукапісных літаратурных часопісаў "Пралом", які М. Танк выпускаў сумесна з Янкам Гарохам, і "Краты", які ён пачаў выдаваць на Лукішках, паслужылі "Жагары", дык што тады паслужыла першаштуршком да ўзнікнення такіх ці падобных да іх выданняў у іншых заходнебеларускіх турмах? Я маю на ўвазе, напрыклад, "Ротфронт" у Навагрудку, "Палітвязень" у Карaнове...

Ды і на самых Лукішках перад гэтым, у 1920-я гады, выходзіла падобнае рукапіснае выданне.

Г. Тычко ў "Нёмане" піша, што падчас першага арышту ў 1932 годзе М. Танк адбываў турэмнае зняволенне "ўсяго адзін месяц". Але, як сведчаць дакументы, паэт у 1932 годзе знаходзіўся на Лукішках з красавіка па ліпень. Так запісана яго рукою 27 лютага 1978 года і ў "Картачцы персанальнага ўліку члена Саюза пісьменнікаў СССР". У артыкуле адзначаецца, што пасля нелегальнага пераходу паэтам польска-савецкай мяжы і двухтыднёвага турэмнага зняволення "яго адпраўляюць назад, абцяжарваў партыйным заданнем падрыўной дзейнасці на карысць СССР". Гэта таксама не адпавядае рэчаіснасці. Ніхто М. Танка гэтым не абцяжарваў, савецкім шпіёнам у Польшчы ён не быў. Проста паэта — я дакладна цытую яго словы — "вярнулі на работу ў падполле". Рэвалюцыйнай дзейнасцю ён займаўся ў адпаведнасці са сваімі жаданнямі і ідэйнымі мэтаімкненнямі. "Мне сказалі, — прызнаваўся паэт падчас адной з нашых ужо апублікаваных гутарак, — што трэба вярнуцца назад і яшчэ папрацаваць..."

Аўтар артыкула сцвярджае, што 1935 год "з'яўляецца пікам" "мастацка-эстэтычных шуканняў" М. Танка. Але як гэта зразумець: пікам шуканняў паэта з'яўляецца 1935 год, а яго кнігі выходзяць у 1936, 1937 і 1938 гадах? Ці магчыма такое?

Найвышэйшым дасягненнем ідэйна-эстэтычных пошукаў давераснёўскага М. Танка і іх рэалізацыі ў творчай практыцы, без усялякіх сумненняў, з'явіўся зборнік вершаў "Пад мачтай", які выйшаў у 1938 годзе.

Маючы на ўвазе, як можна зразумець, 1935 год, аўтар адзначае: "Максім Танк у гэты перыяд знаёміцца з творчасцю Маякоўскага ў асноўным у перакладах на польскую мову". Але чаму "ў гэты перыяд" і чаму "ў асноўным"? Факты сведчаць пра тое, што ўпершыню з паэзіяй Маякоўскага М. Танк пазнаёміўся яшчэ ў 1930 годзе ў польскіх перакладах. Аднатомнік рускага паэта ў арыгінале падарыла яму будучая жонка Любоў Асаевіч толькі ў 1936 годзе.

У артыкуле сцвярджаецца: "З сярэдзіны 30-х гг. XX ст. пачынаецца актыўнае супрацоўніцтва Максіма Танка з названымі ("Папросту" і "Карта" — **М. М.**) польскамоўнымі часопісамі..." Але "Папросту" і "Карта" — не часопісы, а газеты. І яшчэ. Беручы пад увагу ідэйна-мастацкія пошукі М. Танка ў 1930-я гады, аўтар працы "Польскі і рускі авангардызм у творчым лёсе Максіма Танка" заўважае: "Станаўленне творчай індывідуальнасці маладога паэта ў гэты перыяд праходзіла паралельна з падпольнай дзейнасцю, арыштамі і турэмнымі зняволеннямі". Можа, дзе і магчыма такое на практыцы, але не ў выпадку з М. Танкам. Для мяне зусім бясспрэчным з'яўляецца той факт, што грамадзянска-патрыятычнае, сацыяльна-маральнае і ідэйна-мастацкае развіццё і сталенне паэта адбываліся як адзінае асобаснае цэлае, у суладдзі і гармоніі.

Вось такое "адкрыўчае" асэнсаванне жыцця і творчасці народнага паэта Беларусі з нагоды яго стагоддзя...

Надзвычай цяжкімі былі апошнія дні жыцця выдатнага беларускага мастака слова. Як вядома, М. Танк быў "прымацаваны" да лечкамісіі. Калі народнаму паэту стала зусім кепска, сын выклікаў адтуль урача, які лячыў яго на працягу ўсіх апошніх гадоў. Максім Яўгенавіч у нашай гутарцы ўспамінае: "Доктар Марзовік агледзеў бацьку, пасля адвёў мяне ўбок і кажа: "Трэба тэрмінова шпіталізаваць, але нам забараняюць класці ў бальніцу такіх хворых. Ды і месцаў няма. Я вам раю падыйсці да галоўнага ўрача і аб усім дамовіцца непасрэдна з ім..."

Я тэрмінова паехаў у лечкамісію. Галоўны ўрач быў заняты і мяне прыняў яго намеснік (прозвішча цяпер не памятаю). Ён спачатку паспрабаваў адкласці шпіталізацыю на наступны дзень, а пасля, пачуўшы мае пярэчанні, гаворыць: "Добра, прыедзем, чакайце".

Я помню ўсё гэта літаральна да дробязей.

Я вярнуўся да бацькі і кажу яму: "Усё, тата, дамовіўся, хутка прыедуць". Мы сабралі ўсё неабходнае для бальніцы ў яго невялічкі чамаданчык і сталі чакаць. Чакаем гадзіну, дзве, тры — няма машыны. Дзень заканчваецца. Што рабіць?.. Бацька кажа: "Не прыедуць, нікому я не патрэбны..." І тады я дзесьці каля пяці гадзін вечара набраў "хуткую дапамогу" лечкамісіі. Аказалася: яны нічога не ведаюць пра тое, што трэба шпіталізаваць Танка. Вось вам якасць працы, вось вам адносіны!

Я зрабіў па тэлефоне заяўку, пасля чаго раз ім пазваніў. Праз нейкі час прыйшла "хуткая". Бацьку знеслі на насілках уніз (сам ён сысці ўжо не мог), завезлі ў лечкамісію. Доўга там афармлялі, нарэшце, паклалі.

Я прайшоў па калідоры, зазірнуў у палаты — рэдка ў якой з іх ляжаў чалавек. Пасля гэтага я зайшоў да таго намесніка галоўнага ўрача і выказаў яму ўсё, што пра яго думаю. Зразумейце правільна: у мяне ўжо так накіпела на душы!..”

Далей Максім Яўгенавіч скрушліва адзначае: “Назаўтра прыходжу да бацькі, гляджу — ды там здароваму чалавеку стане кепска. Трохмесная палата (ляжыць яшчэ адзін хворы), кандыцыянера няма, горача, млосна, дыхаць цяжка.

Я — зноў да намесніка галоўнага ўрача. Кажу яму: “Гэта сапраўдная душагубка, перавядзіце яго ў іншую палату”. Канечне, нагаварыў яму ўсялякіх “прыемнасцей”…

Пасля гэтага я пазваніў Гілевічу, тады старшыні пастаяннай камісіі па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны, члену прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларусі, расказаў яму пра ўсё і папрасіў: “Можа, Вярхоўны Савет, старшынёй якога некалі быў бацька, здолее паўплываць на тое, каб яму стварылі нармальныя ўмовы для лячэння”. Гілевіч абяцаў зрабіць усё магчымае.

На наступны дзень прыходжу — нічога не змянілася. А я наведваў бацьку кожны дзень: прыносіў яму неабходныя рэчы, галіў яго, дапамагаў у самаабслугоўванні. Тады ён ужо нават па палаце мог рухацца, толькі пасоўваючы перад сабой за спінку крэсла”.

Што датычыць Ніла Гілевіча, аднаго з вучняў М. Танка ў жыцці і літаратуры і ў нядаўнім мінулым бліжэйшага паплечніка па кіраўніцтве Саюзам пісьменнікаў Беларусі, першага сакратара праўлення, дык ён у меру сваіх магчымасцей спрабаваў дапамагчы выдатнаму беларускаму паэту, грамадскаму і дзяржаўнаму дзеячу. Глыбока ўсведамляючы месца і значэнне М. Танка ў гісторыі беларускай духоўнасці і культуры, ён 1 жніўня 1995 года, за тыдзень да яго смерці, устрывожана і пранікнёна пісаў, звяртаючыся да віцэ-прэм’ера беларускага ўрада У. Русакевіча: “Быў сёння ў бальніцы ў Максіма Танка. Ён у вельмі цяжкім становішчы, слабее з кожным днём, пачуваецца ўсё горш і горш. Ну але тут ужо воля Божая. А ёсць і тое, што залежыць ад волі людзей. Здзівіла і балюча ўразіла мяне, што Яўген Іванавіч ляжыць у агульнай палаце, ды яшчэ й на сонцы. А ў бальніцы ёсць люксы і паўлюксы, дзе раней яго заўсёды лячылі. Максім Танк не перастаў быць тым, кім ёсць. З усіх жывых больш заслужанага перад Беларуссю няма. Вельмі Вас прашу: умяшайцеся, калі ласка, каб яму былі створаны лепшыя ўмовы, ён у зусім кепскім стане. Сам ён не спадзяецца, што ўжо выйдзе адтуль. Умяшайцеся ж!”

На вялікі жаль, ніхто не ўмяшаўся. Ніхто не дапамог М. Танку ў найцяжэйшыя хвіліны яго жыцця на зямлі і змагання з хваробамі, не аблегчыў яго пакут...

Ніхто не дапамог таму, хто ўсё сваё жыццё прысвяціў дапамозе іншым…

І ад усведамлення гэтага цяжкога факта, мабыць, зашчыміць не адна шчырая, сумленная і трапяткая людская душа…

Памёр Яўген Іванавіч у той самай агульнай палаце, у якую і паступіў…

“Ужо пасля смерці бацькі, — тужліва працягвае Максім Яўгенавіч, — я расказаў пра ўсё гэта ў рэдакцыі газеты “Культура”, дзе прысутнічала і Алена Малочка з “Народнай газеты”. Неўзабаве ў гэтай газеце з’явіўся яе артыкул пад назвай “Як у лечкамісіі паміраў Максім Танк, або Чаму любіць мёртвых паэтаў лягчэй, чым клапаціцца пра жывых”. І вось тады была створана нейкая камісія, якая падкрэсліла, што Максім Яўгенавіч Скурко, гэта значыць я, паддаўся эмоцыям. Яму, маўляў, варта ведаць: у лечкамісіі за Максімам Танкам была замацавана асобная палата, і ён пры неабходнасці мог лячыцца там у любы час…

Вось вам… Бачыце, нейкая камісія лепш ведае за мяне, сына. Ды бацька, бывала, два тыдні, а то і цэлы месяц чакаў, калі вызваліцца месца, каб легчы на лячэнне…”

І далей: “Гэта сур’ёзныя пытанні, і грамадства павінна ведаць пра іх…

6 жніўня 1995 года ў лечкамісіі бацьку спусцілі вадкасць, якая збіралася ў брушной поласці. Узялі ўсю адразу і спусцілі… Я гаварыў з урачамі (у мяне ёсць знаёмыя), з тым жа Пятром Маркавічам Кузюковічам: гэта трэба было рабіць паступова. У выніку ён пасля гэтай працэдуры заснуў і не прачнуўся…

Я прыйшоў да бацькі пад вечар — ён спаў. Сусед па палаце кажа: яго нядаўна прывезлі, не будзіце, хай адпачне. Я пасядзеў, нешта паправіў на ложку, нешта на тумбачцы і пайшоў дамоў. Раніцай званок: бацька памёр…

Я лічу, што ён памёр не 7-га жніўня, а 6-га”.

# Час, эпоха, літаратура

**(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.)**

Прыклад таго, як трэба пісаць, ва ўсе “палымянскія” часы паказвалі самі галоўныя рэдактары. У тым ліку і першы галоўны рэдактар — чалавек светлай душы і адкрытага сэрца, таленавіты пісьменнік, які падаваў вялікія творчыя надзеі, Платон Галавач. З часопісам “Полымя” ён і раней падрымліваў цесныя сувязі, аднак менавіта з прызначэннем галоўным рэдактарам (афіцыйна пасада называлася адказны рэдактар) цудоўна раскрыліся ягоныя дзелавыя і арганізатарскія здольнасці. П. Галавач умеў згуртоўваць вакол сябе літаратараў. Гэта асабліва важна было ў той час, бо ў сувязі з пастановай ЦК ВКП(б) “Аб перабудове літаратурна-мастацкіх арганізацый” перад часопісам “Полымя рэвалюцыі” (пад такой назвай ён выходзіў з ліпеня 1932 года) паўсталі новыя задачы. Старэйшына сярод літаратурна-мастацкіх і грамадска-палітычных выданняў Беларусі не мог заставацца ўбаку ад такой важнай справы, як стварэнне Саюза пісьменнікаў. Была ўтворана і новая рэдкалегія часопіса, у якую ўвайшлі Якуб Колас, Змітрок Бядуля, Міхась Клімковіч, Кандрат Крапіва, Міхась Лынькоў, Кузьма Чорны...

Вось што ўспамінаў з гэтай нагоды Мікола Хведаровіч: “Платон Галавач, як член аргкамітэта, актыўна ўдзельнічаў ва ўсіх пасяджэннях і мерапрыемствах па падрыхтоўцы да першага з’езда пісьменнікаў БССР. Ён імкнуўся стварыць вакол “Полымя” таварыскія ўзаемаадносіны паміж маладымі і старэйшымі пісьменнікамі. Рэгулярна праводзіліся пасяджэнні рэдкалегіі, дзе чыталіся рукапісы чарговага нумара. Часцей пачалі наведваць рэдакцыю Янка Купала, Якуб Колас, Змітрок Бядуля. Актыўнымі аўтарамі часопіса сталі Кузьма Чорны, Кандрат Крапіва, Уладзімір Хадыка, Аркадзь Куляшоў. Яны давяралі П. Галавачу свае творчыя сакрэты. Прыемна было бачыць, як быў задаволены Платон Галавач гэтымі сяброўскімі размовамі”.

Менавіта пры П. Галавачу больш цеснымі сталі сувязі рэдакцыі часопіса з расійскімі літаратарамі: “...Да нас часцей пачалі прыязджаць з Масквы пісьменнікі, Галавач любіў таварыскія размовы з Уладзімірам Лідзіным, Новікавым-Прыбоем, Бруна Ясенскім. Сяброўскія адносіны ў яго завязаліся з Уладзімірам Лідзіным”. А што ўжо казаць пра аўтарытэт сярод беларускіх калег?!

Ян Скрыган выказаў такое меркаванне: “...Мне здаецца, што сябравалі з ім усе, і ён нікога не вылучаў і не дзяліў на лепшых і горшых. З кожным ён быў роўна чулы і блізкі, знаходзіў хвіліну і сустрэцца на вуліцы, і пасядзець на канапе ў Доме пісьменніка, і ахвотна ўзяць пачытаць рукапіс, каб не пазней як назаўтра ж пабачыцца з аўтарам, бо ён, можа, чакае і хвалюецца. Ён знаходзіў нейкае сваё душэўнае слова, па-свойму раскрываў рэчы і з’явы. Не скупіўся некага пахваліць, нечаму парадавацца ці сказаць у вочы праўду, калі яму што не падабалася”.

Гэтае ўражанне ў Я. Скрыгана з’явілася тады, калі ён ужо добра ведаў Платона Раманавіча. Аднак і першае заёмства з П. Галавачом, нават і не знаёмства яшчэ, а толькі сустрэча з ім, дый то, калі можна так сказаць, на адлегласці, запомнілася: “На пісьменніцкім сходзе, сярод тых, што былі ў прэзідыуме, я ўбачыў незнаёмага чалавека гадоў дваццаці шасці. Ён сядзеў на заднім плане, за спінамі паміж Міхасём Лыньковым і Андрэем Александровічам. Валасы пышныя, вельмі светлыя і, відаць, мяккія, як кужаль. І бровы зусім светлыя, што іх аж не відно. У твары многа простай і даступнай дабраты. І сціпласці. Ён як бы пачуваў сябе няёмка, што яго запрасілі на такое пачэснае месца, і стараўся быць у цяньку. Але раз ад разу да яго паварочваўся то Александровіч, то Лынькоў, то яшчэ хто з прэзідыума. І кожны раз, калі ён нагінаўся да іх, кужэльныя валасы ападалі на лоб, і ён шырокай рукою адкідваў іх назад. Часам ён спрабаваў усміхнуцца, але ўсмешка не ішла яму і зараз жа згасала, паблукаўшы якое імгненне каля тонкіх губ. Усмешка занадта маладзіла яго. Рабіла юнаком і як бы сама ведала, што робіць не вельмі выгадную паслугу”.

Янка Купала, які ставіўся да П. Галавача надзвычай прыязна, іначай як Платонам Раманавічам яго і не называў. З павагі, канечне. І за прынцыповасць. І за выразнасць грамадзянскай пазіцыі. І за аддана́сць справе беларускасці. А яшчэ за тое, што ніколі не даваў у крыўду літаратараў. Найперш маладых, калі ў іх творчасці знаходзілі розныя ідэалагічныя хібы. Асабліва “нацыяналістычныя грахі”. Так было, калі трэба было заступіцца за Сымона Баранавых. Не пакінуў П. Галавач сам-насам з аглабельнай крытыкай і Уладзіміра Хадыку.



*Мікола Мятліцкі (у цэнтры) з Рыгорам Барадуліным, Максімам Танкам, Барысам Сачанкам і Юрасём Свіркам. 1978 г.*

Да вайны галоўным рэдактарам часопіса “Полымя” працаваў і Міхась Лынькоў. У пасляваенны час рэдакцыйны калектыў узначальвалі людзі годныя, літаратары высокапрафесіянальныя: Максім Танк, Павел Кавалёў, Кастусь Кірэенка... Яўген Іванавіч галоўным рэдактарам быў ажно дзевятнаццаць гадоў. Хоць “быў” недакладна сказана. Максім Танк працаваў творча, натхнёна, з’яўляючыся душой калектыву і згуртоўваючы гэты калектыў на добрыя творчыя справы.

Смела можна называць любы, найбольш значны твор пасляваеннай і сучаснай беларускай літаратуры, і не памыліцца, сцвярджаючы, што спачатку ён прайшоў чытацкую апрабацыю на старонках “Полымя”. Рэдакцыя пастаянна трымала планку мастацкасці вельмі высока, таму заўсёды давала зялёнае святло самаму значнаму. Дарэчы, у лютым 2013-га ў “Полымя” яшчэ адзін юбілей: выйдзе тысячны нумар. Калі паставіць побач гэтыя кнігі (так, кнігі, бо ва ўсе часы, нават самыя складаныя, у тым ліку і ў пасляваенныя гады, аб’ём часопіса быў прыстойны), яны не адну паліцу зоймуць.

Ладная паліца атрымаецца і з “палымянскіх” твораў асобных пісьменнікаў. Найперш незабыўнага Івана Шамякіна. Іван Пятровіч усё новае нязменна прапаноўваў свайму любімаму часопісу, адданым і верным якому заставаўся ўсё сваё жыццё. У “Полымі”, у прыватнасці, былі апублікаваны раманы “Глыбокая плынь”, “Крыніцы”, “Сэрца на далоні”, “Снежныя зімы”, “Атланты і карыятыды”, “Вазьму твой боль” і іншыя. Не кажучы ўжо пра аповесці, апавяданні, дзённікавыя запісы, успаміны, артыкулы, інтэрв’ю. Цяпер жа “Полымя” паступова вяртае чытачу што-небудзь з неапублікаванага гэтага па-сапраўднаму народнага пісьменніка.

Цяперашні калектыў рэдакцыі на чале з галоўным рэдактарам, лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі Беларусі Міколам Мятліцкім, не забываючы пра слаўныя “палымянскія” традыцыі, таксама вельмі патрабавальна ставіцца да кожнага твора, што прапаноўваецца ў друку. Дарэчы, у складзе рэдакцыі ўсяго пяць творчых чалавек. Апроч М. Мятліцкага гэта намеснік галоўнага рэдактара Уладзімір Мазго, рэдактар аддзела паэзіі Вадзім Спрынчан, рэдактар аддзела прозы, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Уладзімір Самалаха і аўтар гэтых радкоў, рэдактар аддзела навукі, крытыкі, літаратуразнаўства Алесь Марціновіч.

Пятнаццаць гадоў таму, калі часопіс адзначаў свой чарговы юбілей, народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін напісаў верш “Часопісу “Полымя” на 75-годдзе”, які быў змешчаны ў дванаццатым нумары за 1997 год. У вершы, прынамсі, гаварылася:

*А было ўсяго — агню і чаду,*
*Дыму розных колераў было.*
*Маладзіла позірк далягляду*
*Беларускай крэўнасці святло.*

.............................................

*Полымя відушча-маладое,*
*Наскае,*
*Парнаскае, —*
*Гары!*

“Полымя” сапраўды па-ранейшаму “відушча-маладое”. Дый, зразумела, “наскае”, а гэта значыць — беларускае. Выдаецца дзеля Беларусі і ў імя Беларусі. Дзеля таго, каб на дрэве нацыянальнага прыгожага пісьменства ніколі не было сухіх галін, а толькі зялёныя, квітнеючыя — такія, што і самі поўныя жыццядайнай сілы дый гатовы даць жыццё маладым парасткам, каб яны хораша квінелі і рунелі, а беларуская літаратура і далей развівалася, сведчыла, што талентаў у нашага народа не менее.

# З павагай да роднага слова

**Уладзімір ЗАЛУЖНЫ**

Мабыць, невыпадкова сталічная школа № 13, што знаходзіцца на маляўнічай ускраіне Мінска, па вуліцы Я. Ціцкоцкага, значыцца як школа з музычным ухілам. У вучэбна-выхаваўчым працэсе важнае месца адводзіцца пытанням этыкі і эстэтыкі. У “Клубе цікавых сустрэч”, арганізаваным пры школьнай бібліятэцы, выступаюць не толькі беларускія музыкі, артысты, але і пісьменнікі. Вось і нядаўна вучні, іх бацькі, настаўнікі цёпла віталі вядомага паэта і празаіка Віктара Гардзея. Яны чыталі на памяць вершы з яго “Малой дзіцячай Чырвонай кнігі” пра звяроў і птушак, спявалі беларускія песні. Адчуваецца, што ў школе любяць роднае слова, шануюць яго. У гэтым немалая заслуга настаўніцы беларускай мовы і літаратуры Аксаны Галаскок, бібліятэкара Ганны Локіш, музычнага кіраўніка Ірыны Каралёнак і іншых педагогаў.

В. Гардзей прачытаў новыя дзіцячыя вершы. Удзельнікі сустрэчы з задавальненнем паслухалі арыгінальную вершаваную казку паэта “Пан і абжора”, даведаліся, чаму суслік рабы і якія прыгоды і небяспеку перажывае гэты дробны звярок-грызун у той час, калі даспявае жыта.

А таксама госць падарыў школе свае кнігі. Затым сустрэча працягвалася ў школьнай бібліятэцы. Выкладчыца беларускай мовы Аксана Фёдараўна Галаскок распавяла, што ў гэтым годзе на навукова-практычнай канферэнцыі па пытаннях экалогіі і збераження жывой прыроды рэферат, падрыхтаваны выкладчыкамі і вучнямі сярэдняй школы № 13, заняў у рэспубліканскім конкурсе першае месца. Асноваю для рэферата паслужыла “Малая дзіцячая Чырвоная кніга” В. Гардзея, асабліва другая яе частка, дзе ў вершах і ў прозе апавядаецца пра рэдкую і тую, што знікае, беларускую флору. Ключавыя моманты з вучнёўскай навуковай працы былі прадэманстраваны госцю на камп’ютары.

Дарэчы, Чырвоную кнігу пра жывёльны і раслінны свет краіны Віктар Гардзей пачаў пісаць падчас працы ў часопісе “Родная прырода”, калі даводзілася многа ездзіць па Беларусі. Цяпер падрыхтаваў да друку грунтоўна абноўленае і дапоўненае выданне гэтай сапраўднай мастацкай энцыклапедыі роднай беларускай прыроды.

# Застацца кропачкай у чалавеку

**Доўга вагаўся, ці варта прыгадваць гэтую тэлефонную размову, бо яна можа здацца некаму з чытачоў дробязнай, не вартай сур'ёзнай увагі, ды ўсё ж, паразважаўшы, падумаў: "А чаму ж? Хіба не цікавы і пераканаўчы факт, які ў адносінах да чалавека шмат пра што гаворыць, красамоўна падкрэслівае тую павагу, з якой ставяцца да яго людзі? Тым болей у нашы дні, калі сказаць добрае слова пра чалавека, — нібыта перажытак нейкі, даніна не такому ўжо далёкаму мінуламу?"**

**Мікола ЧАРНЯЎСКІ**

А было ўсё так.

Яшчэ ўлетку неспадзявана патэлефанавала мне жанчына, якая назвалася Святланай Леанідаўнай. Адразу падумалася: мабыць, з бібліятэкі нейкай, адкуль жа яшчэ можа быць? Калі ж патлумачыла мэту свайго тэлефоннага "візіту", нават здзівіўся. "Гэта вас турбуе былая студэнтка Маргарыты Барысаўны Яфімавай. У снежні ў нашай любімай выкладчыцы дзень нараджэння, юбілей. Не маглі б вы напісаць пра яе? Ці ў газету, ці ў часопіс. Паверце, яна заслугоўвае гэтага. Я звяртаюся да вас па просьбе сваіх аднакурснікаў, усіх, каго яна вучыла калісьці ў БДУ. Няхай гэта будзе падарункам ёй ад нас".

Давялося супакоіць незнаёмку: юбілей Маргарыты Барысаўны даўно ўжо ўзяты мною на заметку, нават без гэтага напаміну. Хто ёй падказаў звярнуцца менавіта да мяне, я не дапытваўся. Потым былі яшчэ два званкі ад Святланы Леанідаўны: ці не забыўся? Давялося зноў супакойваць: памятаю, памятаю, толькі збіраюся з часам, каб узяцца за артыкул, прысвечаны шаноўнай юбілярцы.

Не падумайце, што я знарок прыгадаў гэты выпадак са сваёй творчай практыкі, каб нейкім чынам узвысіць ці падкрэсліць выключнасць ды важнасць сваёй асобы. Мэтай маёй было лішні раз засведчыць красамоўную праяву той любові і пашаны, добрай памяці, якую заслужыла сваёй чалавечнасцю, жыццём і працай Маргарыта Барысаўна Яфімава — выдатны педагог, шчырая руплівіца на ніве роднага слова, навукоўца і пісьменніца.

"Я ніколі не гналася за славай і званнямі, усё імкнулася аддаваць сваім студэнтам і аспірантам (а іх у мяне абаранілася чацвёра), каб мая хоць нейкая кропачка засталася ў чалавеку", — прызнаецца Маргарыта Барысаўна. І ў гэтае прызнанне з першых жа слоў глыбока верыш, і ў гэтым "ні кропачкі" не сумняваешся, бо яно сапраўды так.

> *На ўроках, што праводзіла Маргарыта Барысаўна, ніколі не бачыў я сумных вачэй, абыякавасці ў іх: яны загараліся агеньчыкамі любасці і дабрыні, непаўторнай дзіцячай цікаўнасці і захаплення. Бо яна, спрактыкаваны педагог, як той маг-чарадзей, умее ператварыць урок у сапраўдную казку.*

Ёсць людзі, ад сустрэч з якімі міжволі становіцца цёпла на душы, іх бадзёрасць, сонечны настрой, дабрыня, ласкавасць і абаяльнасць з першага позірку прывабна кранаюць, быццам расчыняюць насцеж перад табою ўсё хараство свайго сэрца, беручы ў палон даверу, шчырасці і аптымізму. Так-так, і аптымізму: ён крынічна струменіцца ў кожным слове і руху гэтай незвычайнай жанчыны. Гледзячы на яе, хочацца ўсміхацца, радавацца жыццю.

Школы, гімназіі, ліцэі, каледжы, бібліятэкі, дзіцячыя садкі запрашалі і нярэдка запрашаюць яе цяпер на розныя літаратурныя святы, конкурсы, проста на ўрокі. І ніколі яна не адмаўлялася, імкнулася ўсюды паспець, падзяліцца радасцю сустрэчы з цікавымі кнігамі, з мілагучным родным словам. Яна ўмее гэта рабіць — дарыць радасць.

Мне неаднойчы даводзілася бываць з Маргарытай Барысаўнай на такіх сустрэчах, слухаць яе. І не з чыіхсьці слоў, а сам пераканаўся: напэўна, няма такой навучальнай установы ў нашай сталіцы і за яе межамі, дзе б не сустракала яна сваіх былых студэнтаў — сённяшніх настаўнікаў, педагогаў, адміністрацыйных работнікаў, — каму змагла ў час вучобы перадаць часцінку сваёй душы, шчырай любові да роднай літаратуры, да беларускай мовы, да вучняў, да людзей.

На ўроках, што праводзіла Маргарыта Барысаўна, ніколі не бачыў я сумных вачэй, абыякавасці ў іх: яны загараліся агеньчыкамі любасці і дабрыні, непаўторнай дзіцячай цікаўнасці і захаплення. Бо яна, спрактыкаваны педагог, як той маг-чарадзей, умее ператварыць урок у сапраўдную казку. І ў гэтым сакрэт яе жыццёвага досведу: "Каб слова стала дзівам, музыкай, каб яно ажыло, закрасавала, настаўнік павінен умець выразна чытаць, расказваць і вучыць гэтаму майстэрству сваіх выхаванцаў".

Адкуль у Маргарыты Барысаўны гэты педагагічны дар, такое адчуванне мовы? Вядома ж, ад бацькоў, ад таго сямейнага асяроддзя, у якім расла і выхоўвалася.

Нарадзілася Маргарыта Яфімава 25 снежня 1927 года ў сям'і настаўнікаў. Да вайны паспела скончыць шэсць класаў беларускай сярэдняй школы ў Оршы. Дырэктарам у ёй працаваў бацька — Барыс Дзмітрыевіч. Дзякуючы яго стараннем школа лічылася лепшай у горадзе, насіла званне "ўзорнай". Урокі літаратуры вяла ў ёй і маці — Вікторыя Сцяпанаўна.

У першыя ж дні гітлераўскага нашэсця бацька быў прызваны ў армію, пайшоў на фронт, а сям'я Яфімавых вымушана была пакінуць Беларусь, эвакуіравацца ў глыбіню Расіі. Знайшлі прытулак у вёсцы Салалей, што ў Горкаўскай вобласці. Тут Маргарыта прадоўжыла вучобу ў Завятлужскай сярэдняй школе. Той час пакінуў незабыўныя ўспаміны, застаўся ў памяці на ўсё жыццё. Нягледзячы на пакуты і суровасць ваеннай пары, іх сям'ю ў чужых мясцінах прынялі гасцінна, Яфімавы вельмі хутка паспелі заваяваць давер і прыязнасць мясцовых людзей. Маргарыта Барысаўна з асаблівым пачуццём і ўдзячнасцю прыгадвае, як вяскоўцы, праяўляючы клопат пра дачку настаўніцы Вікторыі, штораз "забяспечвалі" яе "модным" мясцовым абуткам — лапцямі з анучкамі, бо даймала галеча і многія дзеці хадзілі ў школу ў лапцях. Прыезджай дзяўчынцы таксама давялося прызвычайвацца да такога абутку, да вясковага ладу жыцця.

З маладзі і школьнікаў, хто меў хоць нейкі артыстычны дар, старэйшая сястра Валянціна неўзабаве сабрала творчую агітбрыгаду. Знайшлося ў ёй месца і малодшай, Маргарыце. Па сённяшні дзень трымае ў памяці Маргарыта Барысаўна тыя патрыятычна-лірычныя і сатырычна-гумарыстычныя маналогі і куплеты, якія даводзілася дэкламаваць і спяваць па вайсковых шпіталях перад паранененымі байцамі ў рабочых і сельскіх клубах. Усюды самадзейных артыстаў прымалі з непадробнай шчырасцю і цеплынёй, стараліся хоць нечым, ды аддзячыць.

> *Ёсць людзі, ад сустрэч з якімі міжволі становіцца цёпла на душы, іх бадзёрасць, сонечны настрой, дабрыня, ласкавасць і абаяльнасць з першага позірку прывабна кранаюць, быццам расчыняюць насцеж перад табою ўсё хараство свайго сэрца, беручы ў палон даверу, шчырасці і аптымізму.*

Пасля вызвалення Беларусі вярнуліся на радзіму, але ўжо не ў Оршу, а ў горад над Бугам — Брэст, куды, дэмабілізаваўшыся з арміі, атрымаў накіраванне на працу бацька. Тут Маргарыта Яфімава скончыла дзесяцігодку. У тым жа 1946 годзе стала студэнткай філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта.

Затым была вучоба ў аспірантуры, абарона кандыдацкай дысертацыі па творчасці любімага ёю Янкі Маўра (дарэчы, сам пісьменнік прысутнічаў на абароне, нават браў слова для выступлення, даў высокую ацэнку зробленаму), дзясяткі гадоў выкладчыцкай працы на кафедры беларускай літаратуры Магілёўскага педінстытута, у БДУ, дзе апрача навуковых ведаў атрымалі развіццё і прызнанне ўрокі, якія набыла ў дзяцінстве ў "бацькавай школе". Што за "школа" была, што за ўрокі? "У нашай сям'і заўсёды жыла музыка, панаваў творчы настрой, — з нейкай душэўнай усхваляванасцю, нават з гонарам прыгадала Маргарыта Барысаўна. — Мама спявала ў настаўніцкім хоры, бацька любіў чытаць на памяць вершы, кіраваў у школе канцэртамі, умеў іграць на скрыпцы, на піяніна. Ён і мяне прывучыў да гэтага. Бацька, можна сказаць, быў маім рэжысёрам: усё, што я завучвала на памяць, ён абавязкова праслухоўваў, рабіў заўвагі, падказкі, каб я магла выразна, правільна, глыбей данесці да слухачоў сэнс і змест вершаў, каб яны кранулі душу і сэрца таго, хто слухае, каб мне не было сорамна за сваё няўмельства. Я нават у музычнай школе вучылася, ды не паспела скончыць, вайна перашкодзіла. Калі ўжо працавала ў Магілёве, усё ж скончыла музычную школу, вячэрнюю".

Я чую, як пранікнёна яна спявае. Гэта таксама прыродны дар. І, напэўна, няма выпадковасці ў тым, што ў Беларускім дзяржаўным універсітэце дацэнт Маргарыта Яфімава апрача лекцый па гісторыі дзіцячай літаратуры доўгі час вяла заняткі па мастацкім чытанні, была заснавальніцай і кіраўніком тэатра-студыі "Летуценнік". Той, хто старэйшы з вас, магчыма, раней неаднойчы чуў па радыё вясёлую і займальна-пазнавальную літаратурную перадачу "Чарадзейная скарбонка", якую Маргарыта Барысаўна рыхтавала і ладзіла ў эфіры з юнымі артыстамі.

Першы літаратуразнаўчы артыкул Маргарыты Яфімавай, прысвечаны творчасці класіка беларускай літаратуры Максіма Багдановіча, быў надрукаваны ў 1957 годзе на старонках "Магілёўскай праўды". Потым былі цікавыя публікацыі ў сталічных выданнях, у асобных зборніках. За гады, што мінулі з той пары, Маргарыта Яфімава напісала шмат кніг, якія сталі надзённымі падручнікамі і дапаможнікамі для настаўнікаў і студэнтаў, для ўсіх, хто спрабуе сілы ў крытычна-даследчыцкай творчасці: "Цэлы свет — дзецям", "Янка Маўр", "Беларуская дзіцячая літаратура", "Літаратурныя вечары ў школе", "Гучыць роднае слова", "Роднае слова захапляе, зачароўвае", "З верай у дзіцячае сэрца", "Зямля бацькоў, зямля святая"… Піша яна і рэцэнзіі на кнігі, прадмовы да твораў вядомых дзіцячых пісьменнікаў, навуковыя артыкулы. Яны вызначаюцца глыбінёй мастацкага асэнсавання, пранікнення ў псіхалогію, характары і звычкі літаратурных персанажаў, цудоўным веданнем усёй творчасці таго, пра каго піша, а яшчэ — даходлівай мовай і добразычлівасцю. Не памылюся, калі скажу: на сённяшні дзень Маргарыта Яфімава з'яўляецца самай адданай, мабыць, самай дасведчанай і запатрабаванай даследчыцай нашай дзіцячай літаратуры.

З пачуццём удзячнасці заўсёды бяру ў рукі адну з яе кніг апошняга часу — "Слова-краска, слова-ззянне…" з прачулым аўтографам Маргарыты Барысаўны. У гэтым зборніку змешчаны сцэнарыі і кампазіцыі па творах беларускіх дзіцячых паэтаў, нарысы пра іх творчасць, а таксама гульні, песні. Назву кнігі падказала паэзія народнага песняра Якуба Коласа. А я паставіў бы гэты радок эпіграфам да ўсёй творчасці Маргарыты Яфімавай.

Вядома, пражытыя гады бяруць сваё, ды ўсё ж яна, як і раней, поўная задум. Імкнецца заставацца ў віры творчага жыцця: зноў абрана ў склад Бюро секцыі дзіцячай літаратуры Саюза пісьменнікаў Беларусі, з'яўляецца членам рэдкалегіі часопіса "Вясёлка", па меры сіл і здароўя бярэ ўдзел у літаратурных сустрэчах і святах, што ладзяцца ў бібліятэках, школах і іншых навучальных установах сталіцы. І ўсюды, як і раней, шчодра дзеліцца цяплом сваёй душы, хараством і багатым набыткам свайго прыроднага і літаратурнага таленту, пакідаючы адметны след на ніве дабрадзейнасці і роднага слова.

# Лебядзіная песня




Дзяніс МАРЦІНОВІЧ

У лістападаўскім нумары "Полымя" ўвагу прыцягнула заканчэнне "Маёй бібліятэкі" Янкі Сіпакова, што мае падзагаловак "Кніга пра кнігі". Паэт, перакладчык, тонкі лірык і арыгінальны празаік-эсэіст, аўтар такіх этапных кніг, як "Веча славянскіх балад" і "Усе мы з хат", ён справядліва прэтэндуе на статус айчыннага класіка (канчатковы прысуд, зразумела, зробіць толькі час).

"За ўсё жыццё я не сабраў сабе аніякіх скарбаў <…>. І ўсё ж адна вельмі вялікая каштоўнасць, найдаражэйшы мой скарб, у мяне ёсць. Я кажу пра маю хатнюю бібліятэку", — прызнаваўся Я. Сіпакоў. Яшчэ не ведаючы, што твор стане для яго апошнім, аўтар пісаў ва ўступным слове: *"Час збіраць камяні, і час думаць пра тое, як яны, камяні, будуць жыць без цябе і што, урэшце, рабіць з імі, сабранымі".* Тады творца хутчэй за ўсё меў на ўвазе ўласнае рашэнне: яшчэ пры жыцці перадаць уласны кнігазбор у аршанскую бібліятэку. У сакавіку мінулага года ён адышоў у іншы свет. Першая частка ("паліца") яго твора выходзіла ў 1-м — 3-м нумарах "Маладосці" за 2011 год, таму была завершана, адрэдагавана і падрыхтавана да друку яшчэ пры жыцці аўтара. Другая "паліца" сёлета з'явілася ў 2-м — 3-м, 5-м — 6-м і 10-м — 11-м нумарах "Полымя", прычым яе рукапіс абрываецца. Таму яго падрыхтоўку і публікацыю ажыццявіў сын аўтара Сяргей.

На думку Янкі Сіпакова, бібліятэка — гэта *"сабраны разам увесь розум чалавецтва за ўсе часы і народы з таго часу, як патухлая зорка Зямля зрабілася жывою".* Але перад намі не нататкі бібліяфіла, адрасаваныя вузкай аўдыторыі. Маштаб "Маёй бібліятэкі" куды больш шырокі. На першы погляд, яе можна ўспрымаць як накіды да ўспамінаў або да кнігі пра літаратурную творчасць, дзе дзейнічаюць Пімен Панчанка, Жонка Купалы Уладзіслава Францаўна... Аўтар багата цытуе ўрыўкі з улюбёных твораў і разважае пра лёсы іх аўтараў, дэманструючы сваю дасведчанасць і эрудыцыю. Прычым часткі ўдала аб'яднаныя паміж сабой агульнай тэматыкай, таму выглядаюць як цэласныя фрагменты. Напрыклад, раздзел, у цэнтры якога знаходзіцца асоба Сяргея Ясеніна, уключае развагі пра творчасць апошняга, ацэнку "Рамана без хлусні" Анатоля Марыенгофа, згадку пра творы сябра Ясеніна, паэта Рурыка Іўнева, цытаты з успамінаў Айседоры Дункан. А ў іншым фрагменце аўтар звяртаецца да творчасці Эрнеста Хэмінгуэя, разважае пра прытчу "Стары і мора" і ўспаміны "Свята, якое заўжды з табою", прыводзіць прыклады стаўлення творцы да здабыткаў рускай літаратуры, каменціруе фотаздымкі з кнігі пра Хэмінгуэя, што выйшла ў серыі ЖЗЛ.

Але "Мая бібліятэка" можа ўспрымацца і як погляд на ХХ стагоддзе з вышыні часу. *"Гэта і сапраўды быў век кніг, — піша Я. Сіпакоў. — Кніга ў нашым родным ХХ стагоддзі, здаецца, была ці не самай галоўнай каштоўнасцю. <…> Мы ўпіваліся кнігаю! <…> Кніга была нашым жыццём".* Аўтар (магчыма, у асобных фрагментах міжволі) стварае не толькі гімн кнізе, але і мінулай эпосе, якая была адметная любоўю да чытання і павагай да творцаў. Адначасова "Маёй бібліятэцы" ўласціва светлая элегія з адценнем суму. Пісьменнік цудоўна ўсведамляе, што ранейшая цікавасць да літаратуры наўрад ці вернецца.

Прыведзеная характарыстыка найбольш уласцівая першай "паліцы". А вось другая, што носіць падзагаловак "Аўтографы", пакідае крыху іншае ўражанне. Відавочныя характар яе незавершанасці і няпоўнай адрэдагаванасці: выпіскі, асабліва ў апошнім фрагменце, маюць дастаткова вялікі памер і яўна дамінуюць над аўтарскім тэкстам, а вялікая колькасць фактаграфіі часам шкодзіць успрыманню. Па сутнасці, мы маем справу з аўтарскім чарнавіком. Які б атрымаўся канчатковы варыянт, мы ўжо, на жаль, ніколі не даведаемся. Каштоўнасць другой "паліцы" ў іншым: яе праграпанне з першай часткай сведчыць пра працу пісьменніка над тэкстам. А яшчэ дазваляе ўбачыць мастацкі вынік абодвух раздзелаў.

Наогул, "Мая бібліятэка" стала лебядзінай песняй Янкі Сіпакова і дазволіла яшчэ раз усвядоміць узровень, якога ён дасягнуў у сваіх лепшых творах.

# Быццё па-над бытам




Алена КАРП

"Нёманскія" аўтары — Фёдар Конеў і Юрый Пелюшонак — запрашаюць у прафесійны свет. Са спецыфічнымі дэталямі, якія выдаюць знаўцаў сваёй справы (але колькасць іх разумная — не празмерная), і з абавязковым выхадам на агульначалавечае, таму чытач не спыніцца ў нерашучасці перад закуліссем і не спужаецца "врачебного" почырку.

Свет кінематографа ў апавяданнях Фёдара Конева "Живые тени" адрозніваецца ад звыклых стэрэатыпных уяўленняў, і не толькі таму, што гэта позірк знутры, а не звонку. Гэта яшчэ і рэтраспектыўны погляд на калісьці яркае бурлівае жыццё, якое цяпер трэба збіраць з аскепкаў. Разбітае люстэрка з аднайменнага апавядання становіцца і празрыстым сімвалам, і ключом да ўсяго цыкла. "А хорошо бы сидеть тут, в этом огромном гулком пространстве коллектора, и по кусочку складывать зеркало". Алюзія на "Снежную каралеву" Андэрсена: самотны Кай збірае з ільдзінак слова "вечнасць" — занадта відавочная, каб яе не згадаць, балазе, вечнасць тут фігуруе, ды яшчэ як: "…но главное — свято верили, что кому-то нужны. И ещё что главней — ощущали себя вечными. Смерти нет, ребята!"

Кай, між тым, не можа наблізіцца да сваёй мэты, ды і аскепкі не збіраюцца ў цэлае, штосьці абавязкова згубіцца, трэшчыны будуць заўважныя, але перабіраць гэтыя кавалачкі былога — значыць уваскрашаць памяць. Яна, праўда, бывае помслівай: штосьці дарагое сыходзіць, і на тое, што прыходзіць узамен, прэзумпцыя невінаватасці не распаўсюджваецца. Апазіцыя "сённяшняе — колішняе" ў першым апавяданні падаецца залішне катэгарычнай, усё новае нібыта па змоўчанні атрымлівае негатыўную ацэнку, выяўленую праз скептычна-паблажлівую інтанацыю. Аднак кожны наступны твор пераконвае, што інтанацыя герояў не тоесная інтанацыі аўтара, а настальгія можа абарочвацца іроніяй. Здараецца і моладзі атрымаць перамогу над старой гвардыяй ("Последний атлант"), а гэта значыць, што канфлікт будуецца па лініі "годнае — ганебнае", а не "старое — новае".

Усе апавяданні цыкла падаюцца даволі бясхітраснымі: сімвалы максімальна празрыстыя (з зорак каваць манеты), ужо першыя штрыхі партрэтаў яўна характарызуюць персанажаў (так, "суетливый в движениях" Оськін адразу ж выклікае недавер, які толькі ўсугубляецца далейшым апісаннем гэтага "вороватого с виду, вёрткого, с колючим взглядом и с маленьким скулистым лицом человечка"). Але гэта не недахоп — гэта вернасць абранай стылістыцы, якая да таго ж апраўдана пэўнай наіўнасцю герояў. Старыя чорнабелыя фотаздымкі ствараюць атмасферу і абуджаюць успаміны, і наўрад ці таму, хто гартае сямейны альбом, прыйдзе ў галаву абурацца, што здымкі пабляклі ад часу. Так і гэтыя амаль дакументальныя апавяданні не патрабуюць ніякіх дадатковых упрыгожванняў. Тым больш што проста і ясна можна гаварыць не толькі пра побыт, але і пра быццё. Быційныя праблемы, і можа, найперш іх, якраз і трымае ў полі зроку аўтар. Яго персанажы Кашчэй і Сашок ("Счастливцы") рэалізуюць мадэль стасункаў а-ля Моцарт і Сальеры, але прыводзіць яны не да класічнай трагедыі, а да фантасмагорыі жыцця: патэнцыяльныя ворагі сустракаюцца ў вар'ятні, дзе становяцца лепшымі сябрамі і дзе нарэшце маюць дастаткова часу на шчырасць і на спасціжэнне "неких главных истин". Над спасціжэннем сябе, свету, сэнсу жыцця б'юцца і іншыя героі, і калі формулы, да якіх яны ўрэшце прыходзяць, аказваюцца зусім нескладанымі, то гэта не значыць, што катарсісу ім ад гэтага меншае.

У апавяданні Юрыя Пелюшонка "Папа этого не заслужил" адзін выпадак з практыкі галоўнага героя — лекара-тэрапеўта — абарочваецца чарадой трагікамічных прыгод, якія тым не менш пагражаюць сур'ёзнымі наступствамі. Дзеянне дынамічнае, іронія фантанірує, гумар, у тым ліку цынічны медыцынскі, не прыхаваны. Але тут жа, побач, і палявая псіхалогія, і суворая праўда жыцця ("…пожилая сестра взяла слово: «Я не знаю, есть ли в Союзе приличные больницы?» Затем, испугавшись своего откровения, добавила: «Наверное, есть». И тут же брякнула: «Но я их не видела»"), і пачуццё годнасці доктара-інтэлігента, і донкіхоцтва медсясцёр — пралетарыяту ад медыцыны. Адным словам, дастаткова для ўсведамлення таго, што гэтыя насуперак усяму адданыя працы людзі — чым не праведнікі, без якіх, як вядома, не стаіць сяло і ўзорная бальнічка.

# Іпастасі мужчынскай прозы




Соф'я МАРОЗАВА

Чамусьці шмат пішацца пра жаночую прозу, але не прынята весці гаворку пра прозу мужчынскую. Абмінаючы тэму гендэрных стэрэатыпаў, проста зазначым, што некаторыя творы выяўляюць мужчынскія рысы як найбольш. Так, героям празаічнай часткі лістападаўскай "Маладосці" ўласцівая мужнасць — ці то ў споведзі (Адам Глобус "САШ"), ці ў дзеянні (Юры Станкевіч "Шал"), ці нават у рамантычных "хлапечых" прыгодах (Уладзімір Мажылоўскі "Праклён мітрапаліта Феафіла").

Нізка ўспамінаў-мініяцюр Адама Глобуса "САШ" мае падзагаловак "словы пра татарыша майго, школьнага настаўніка біялогіі — Аляксандра Карпейчыка". "Словы" — найперш асабістае выказванне, даніна памяці і падзякі "за тое, што быў". Хочацца назваць твор дакументальным, бо ўспамін, узноўлены праўдзіва, — свайго роду дакумент. Ён дакладны роўна настолькі, наколькі дазваляе сумленне; і мастацкі роўна ў той ступені, наколькі мастацкае самое жыццё і мы ў ім (тут і адказ на пытанне, чаму асабістыя ўспаміны друкуюцца ў літаратурна-мастацкім часопісе). Стыль успамінаў па-мужчынску лаканічны, стрыманы і ў той жа час лірычны. Мусіць, ад таго, што жыццёвы матэрыял не прыкрыты маскаю персанажа. Адам Глобус умее пісаць пра блізкіх, жывых, сапраўдных з гранічнай, амаль аголенай шчырасцю. Яго пяру належаць літаратурныя партрэты сямейнікаў і знаёмых ("Дом", 2005, — "раман-аўтапартрэт у сямейным інтэр'еры"; "сУчаснікі", 2006) — адносна рэдкія для сённяшняй літаратуры вобразы сучаснікаў (як ні парадаксальна). Думаецца, у гэтай галерэі Саш займае асаблівае месца.

Іншая іпастась мужчынскай прозы — аповесць Юрыя Станкевіча "Шал". Творчасць пісьменніка наўрад ці патрабуе станоўчай ці адмоўнай ацэнкі, бо яна склалася як адметная з'ява і даўно мае сваю, цалкам пэўную чытацкую аўдыторыю. У новым творы ён не здраджвае сваёй аўтарскай манеры: канфлікты імкліва завастраюцца, а сюжэтныя калізіі заганяюць героя ў тупік, даводзячы яго да адчаю. Юры Станкевіч умее трымаць чытача ў напружанні. Апакаліптычная атмасфера ствараецца рознымі сродкамі, сярод іх — і адсутнасць у тэксце прапісных літар. Шал, апантанасць разглядаецца з двух бакоў: з пазіцыі царквы і з пазіцыі медыцыны, а таксама асэнсоўваецца па-філасофску, наводзячы на думку пра падтэкст, які, верагодна, меў на ўвазе аўтар. Значную частку твора складаюць дыялогі пра веру са святаром і пра вар'яцтва — з лекарам псіхіятрычнай клінікі.

Цікава, што зборнік Юрыя Станкевіча "Шал" прэзентаваўся сёлета разам з дэбютным зборнікам Зміцера Баяровіча "Шалі". Гэты малады празаік дэбютаваў і ў "Маладосці" з абразкамі "Мроі". Складана ўявіць больш адрозных аўтараў: змрочны Станкевіч і рамантычнаўзнёслы Баяровіч. Зрэшты, творчая манера апошняга пакуль не бачыцца вызначанай, бо многія абразкі нагадваюць хутчэй чарнавыя зацемкі, чым закончаныя творы. Абразок — патрабавальны жанр: пры лаканізме вымагае і ўцямнага выказвання, і стылявой вытрыманасці, ужо не кажучы пра адсутнасць русізмаў.

У часопісе змешчана і заканчэнне аповесці Уладзіміра Мажылоўскага "Праклён мітрапаліта Феафіла". Аповесць — наследаванне Уладзіміру Караткевічу: каларытныя персанажы (галоўныя героі — імпульсіўныя маладыя шляхціцы), дэтэктыўны сюжэт і сярэднявечны каларыт. Аповесць напісана страсна і захаплялльна, дзеянне развіваецца пакінематаграфічнаму імкліва, а героі рамантычныя і бескампрамісныя. Часам гэта робіць аповед павярхоўным, скіраваным на прыгодніцтва. Так, напрыклад, Янка Струга, не атрымаўшы належнага "сэрвісу" ў карчме, у парыве гневу адсякае карчмару далонь ("Не люблю нахабнікаў і баязліўцаў з дзяцінства. А гэты яшчэ і хамам аказаўся — ён жа нас за людзей не лічыў"). Падзея, аднак, ніякай рэфлексіі ў героя не выклікае, але ў канцы твора раптоўна абарочваецца да дзіўнага простым прымірэннем: "…калі шляхціц схіліўся перад ім у паклоне і шчыра папрасіў у яго прабачэння, ён [карчмар] ажыў, паружавеў, ніякавата заўсміхаўся. А пасля таго, як той выпіў з ім міравую і аддаў княжыя грошы — наогул стаў ледзь не сябрам…" Аповесць "Праклён мітрапаліта Феафіла" — таленавітая (хоць і другасная ў дачыненні да пачынальніка жанру) папулярызацыя беларускай гісторыі. Верагодна, яна будзе цікавая падлеткам. Адмыслова для іх у канцы змешчаны слоўнічак гістарычных паняццяў.

# Метамарфозы Георгія Марчука

Уладзімір НАВУМОВІЧ

Кажуць, у далёкай мінуўшчыне рымлянін Авідзій склаў на мове сарматаў некалькі песень, за што яны падарылі яму "мядзведжую шкуру і лук з паланянкай". Веру. Кажуць, сюжэт "Дубровского" Пушкіну падказаў Нашчокін. Веру, што сюжэт "Ревизора" падказаў Гогалю Пушкін. Калі ж я пачуў ад сяброў, што наш слынны празаік і драматург Георгій Марчук напісаў песні, не паверыў. Папрасіў у Георгія пачытаць і… паверыў у метамарфозу таленту калегі.

У чым розніца проста паэзіі і песеннай паэзіі? Словы ў звычайнай паэзіі "просяць", каб іх прачыталі, а ў песеннай — каб іх праспявалі. У раманах ды навелах, асабліва ў "Давыд-Гарадоцкіх канонах", аўтар паказаў, што ён тонкі лірык. Песні Г. Марчука апрадмечаныя. Свае пачуцці ён ператварае ў рэчы добра знаёмыя. Душа і сэрца паэта жывуць на Палессі. Адчуваеш душэўны настрой у яго "Столінскім вальсе", у "Маёй Гарыні". А якая аптымістычная "Полька беларуская", колькі філасафічнасці ў яго песні "Брату"! Створаны свой песенны свет. Гэта і здзіўляе, і радуе.

Калі ёсць талент асобы, творцы, дык ён можа праявіцца самым нечаканым чынам. Мастацтву сёння так не хапае грамадзянскіх, патрыятычных, народных песень.

# Беларускія матывы



Георгій МАРЧУК

## Мая Гарынь

*Ад Карпатаў, дзе неба сінь,*
*Шуміць-бяжыць рака Гарынь.*
*Дарога, як сябра рука,*
*Да Гарадка, да Гарадка.*

**Прыпеў:**
*Чуеш, кліча Гарынь праз туманы*
*Парахода далёкім гудком.*
*Нас вітаюць у мамы цюльпаны,*
*Флёксы бацькі пільнуюць наш дом.*

*Водар таемнай фіялкі начной*
*Дорыць паўсюдна душэўны спакой,*
*А на Царкоўнай нашай гары*
*Марым да самай раніцы мы.*

**Прыпеў.**

*Калядных конікаў казачны цуд*
*Будзе заўсёды чакаць вас тут.*
*Дзеці пасхальныя гімны пяюць,*
*Песні народныя хвалі нясуць.*

**Прыпеў.**

*Будуць заручыны, будзе вяселле,*
*Будзе збірацца з кветак насенне.*
*Там у Варшаве, Маскве і Пекіне*
*Людзі чакаюць кветкі Гарыні.*

**Прыпеў.**

## Полька беларуская

*Танцуем на Каляды,*
*Танцуем на Пакровы.*
*Калі ты танцам рады,*
*Век будзеш ты здаровы.*

*Ай, што гэта за дзіва —*
*Полька беларуская?*
*А пад келіх піва*
*Кадрыля будзе руская.*

*У вёсцы да крыніцы,*
*Дзе жанкі спяваюць,*
*Выходзяць маладзіцы,*
*Бо хлопцы іх гукаюць.*

*Граблі пад стажок,*
*Кончана работа.*
*Хлопцы да дзявок —*
*Танцаваць ахвота.*

*Ах, што гэта за дзіва?—*
*Пытаецца паляк.*
*А пад келіх піва —*
*Будзе кракавяк.*

*Не сціхай гармонік,*
*Рана на спачын.*
*Маці, знай, гамоніць:*
*Куды падзеўся сын?*

*У вёсцы ля крыніцы*
*Ночка каратка.*
*Можна не пытацца —*
*Дзе твая дачка…*

*Ах, што гэта за дзіва? —*
*Цікавіцца казак.*
*А пад келіх піва —*
*Будэ ваш гапак.*

*Шпарыць дыскатэка,*
*Інтэрнэт гудзе,*
*Полька беларуская*
*Па зямлі ідзе.*

*Ах, што гэта за дзіва —*
*Полька беларуская?*
*А пад келіх піва —*
*Болей будзе дзіва.*

*Гоца, гоца, го-ца-ца,*
*Танцаваць нам хоцацца!*
*Танцаваць нам хоцацца!*
*Гоца, гоца, го-ца-ца.*

## Столінскі вальс

*Свеціць месяц уначы,*
*Толькі ты не маўчы*
*У парку Століна.*
*Чуеш голас дубоў:*
*Гэта песня дзядоў*
*Пра зямлю, што намолена.*

*Трэба ехаць туды —*
*Да гарынскай вады,*
*Пад неба Століна,*
*Дзе юнацтва тваё,*
*Дзе каханне маё,*
*Дзе любоўю душа натолена.*

*Ты ў далёкім краю,*
*Без цябе не пяю*
*Песню майскую,*
*Твой пачую званок,*
*Я куплю квіток*
*Прылячу птушкай райскаю.*

*Зноў паедзем туды —*
*Да гарынскай вады,*
*Пад неба Століна,*
*Дзе юнацтва тваё,*
*Дзе каханне маё,*
*Дзе любоўю душа натолена.*

*Мы не будзем блукаць*
*І на лёс наракаць,*
*Вераю звязаны.*
*Горад верне той час,*
*Не схавае ад нас*
*Пацалункі пад вязамі.*

*Разам едзем туды —*
*Да гарынскай вады,*
*Пад неба Століна,*
*Дзе юнацтва тваё,*
*Дзе каханне маё,*
*Дзе любоўю душа натолена.*

*Столінскі вальс,*
*Столінскі вальс.*

## Брату

130-годдзю Я. Купалы
і Я. Коласа прысвячаю

**1**
*Хітра страшыць тэлевізар —*
*Будзе хутка ноч.*
*Не паможа вам правізар,*
*Скорая памоч.*

**Прыпеў:**
*Не сядзі ў хаце,*
*Мілы браце,*
*Адчыні акно.*
*Трэба поле нам араці.*
*Сонца ўзышло.*

**2**
*Беражы дабро, дзе зможаш,*
*З любай за руку*
*Ліха, гора пераможаш*
*На сваім вяку.*

**Прыпеў:**
*Не сядзі ў хаце,*
*Мілы браце,*
*Адчыні акно.*
*Трэба волю ратаваці,*
*Сонца ўзышло.*

**3**
*Барані ты наша поле,*
*Птушак, лес і сад.*
*На ўсё будзе божая воля.*
*Жыццю кожны рад.*

**Прыпеў:**
*Не сядзі ў хаце,*
*Мілы браце,*
*Адчыні акно.*
*Трэба веру ратаваці,*
*Сонца ўзышло.*

**4**
*Зноў палохаюць каналы:*
*Свету йдзе канец.*
*Ты ж ратуйся ад навалы —*
*З любай пад вянец.*

**Прыпеў:**
*Не сядзі ў хаце,*
*Мілы браце.*
*Адчыні акно.*
*Трэба свет нам ратаваці,*
*Сонца ўзышло.*

## Свята на Прыпяці

*На свята збіраюць народ*
*Добрыя людзі штогод.*
*Госці вязуць штораз*
*Сэрцаў цяпло напаказ.*

**Прыпеў:**
*Грошай тут не шукай,*
*Лепей песню спявай.*
*Дзе ад шчасця ключы,*
*Пакажуць Ляскавічы.*

*Песню нам хоча спяваць*
*Родная наша Прыпяць.*
*Ёй падпяваюць здавён*
*Волга, Дняпро, ціхі Дон.*

**Прыпеў.**

*Ой, згіне нядоля-бяда,*
*Згіне, як тала вада.*
*Радасць дамоў вязём,*
*Песню кахання пяём.*

**Прыпеў.**

*Тут гоман плыве над ракой,*
*Бусел ляціць над лазой.*
*Сіла яго крыла*
*Дружбу да зор узняла.*

**Прыпеў.**

## Палеская полечка

*Ой, на наваселлі*
*Гудзе-ідзе вяселле.*
*Тут дзяўчат багата,*
*Шчо й хата малавата.*

*З боку ўсе спяваюць,*
*Побач — наліваюць,*
*А я рукі ў бокі,*
*Запрашаю ў скокі.*

*Ох, ха, ох, ха-ха,*
*Запрашаю ў скокі.*

*Цябе, мая Маруся,*
*Сёння не баюся,*
*З крыжыкам на грудзях*
*Не пíхне на людзях.*

*З дзеўчынай чужою*
*Думай галавою,*
*Каб не знала маці,*
*Што буду цалаваці.*

*Ох, ха, ох, ха-ха,*
*Дзе буду цалаваці.*

*Рослая Данута*
*У чобаты абута,*
*Ад яе ўцякаю,*
*Моцна прыціскае.*

*Ох, ха, ох, ха-ха,*
*Моцна прыціскае.*

*Тася зараўнуе,*
*Сэрца маё чуе,*
*Абдыму з душою —*
*Трохі супакою.*

*Ох, ха, ох, ха-ха,*
*Трохі супакою.*

*Знешне я не гадкі*
*І да жонак падкі.*
*Покуль мы спявалі,*
*Ой, дзевак разабралі.*

*Ох, ха, ох, ха-ха,*
*Усіх дзевак разабралі.*

*Але ж не гарую —*
*Шчэ сваю ўхаплю я,*
*Бо з бацькоўскай хаты*
*Заўтра йду ў салдаты.*

*Ох, ха, ох, ха-ха,*
*Заўтра йду ў салдаты.*

Сумесны праект штотыднёвіка «ЛіМ»
і Нацыянальнай кніжнай палаты Беларусі

Кніжны свет

21 снежня 2012 г.



*Паралелі*

# Шаўковы шлях — да Казахстана

Што мы ведаем пра выдавецкую сістэму Казахстана? Новы крок збліжэння кніжнікаў быў зроблены не так даўно падчас VI Міжнароднай канферэнцыі выдаўцоў, паліграфістаў і распаўсюджвальнікаў друку "Рынак друкаванай прадукцыі ва ўмовах трансфармацыі эканамічных адносін Беларусі, Расіі і Казахстана". У якасці арганізатара канферэнцыі выступіў Саюз выдаўцоў і распаўсюджвальнікаў друку пры падтрымцы Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, Асацыяцыі кнігараспаўсюджвальнікаў незалежных дзяржаў і Федэральнага агенцтва па друку і масавых камунікацыях Расійскай Федэрацыі. Гэтым разам у Беларусь завітала дырэктар выдавецтва "Дзіцячая літаратура" Шайзада Бакенава. Таму давайце слухаць шаноўную госцю з далёкага Казахстана…

**Марына ВЕСЯЛУХА**

## НАЦЫЯНАЛЬНАЕ = ЗНАЧНАЕ

— У Казахстане зарэгістравана і дастаткова паспяхова працуе 290 выдавецтваў і арганізацый, якія займаюцца выданнем кніг. Яны выпускаюць у асноўным ад 20 да 270 кніг і брашур на год. Большая частка выдавецтваў размешчана ў горадзе Алматы — 191. У новай сталіцы, Астане, — 34 выдавецтвы, якія толькі развіваюцца. У Карагандзе — 12. На 1 лістапада 2012 года у краіне было зарэгістравана 2730 назваў выдадзеных кніг агульным накладам больш як 8 мільёнаў 600 тысяч асобнікаў.

З 2008 года ў Казахстане дзейнічае дзяржаўная праграма "Культурная спадчына", існуе таксама праграма па падтрымцы дзяржаўнай мовы і моў іншых народаў, што жывуць у Казахстане, працуе яшчэ адна праграма — выданне сацыяльна значнай літаратуры. Для выдавецтваў ёсць пэўны тэрмін здачы тэматычных планаў на наступны год, яны адпраўляюцца ў адпаведныя ведамствы Міністэрства культуры і інфармацыі Казахстана. У дадзеным выпадку гэта Камітэт інфармацыі і архіваў, дзе існуе экспертны савет, які цягам закрытага пасяджэння разглядае тэматычныя планы выдавецтваў. З іх выбіраюць самыя значныя і цікавыя праекты, што ў выніку напрамую фінансуюцца дзяржавай. Натуральна, ёсць праекты, якія з-за абмежаванай колькасці месцаў у спіс не трапляюць, але калі яны відавочна цікавыя, то выданне такіх кніг выстаўляецца на тэндар.

У нас выпускаюцца кнігі на 14 мовах народаў Казахстана. З іх большая частка — 1255 назваў агульным тыражом 50 500 экзэмпляраў — на казахскай мове, а па-руску 990 назваў. Чаму амаль роўная колькасць? Казахстан яшчэ з савецкага часу застаецца рускамоўнай дзяржавай, тут жыве многа людзей, якія размаўляюць і чытаюць па-руску. А новае пакаленне казахаў, якое добра валодае нацыянальнай мовай, яшчэ не прыспела. Руская мова як мова міжнацыянальных зносін застаецца агульнай для прадстаўнікоў усіх народаў, што жывуць у краіне.

У Казахстане выдаецца 0,98 кнігі на 1 чалавека. Развіваецца выданне электронных кніг. За 10 месяцаў 2012 года тут выйшла 51 назва такіх выданняў (8 кніг, 9 газет і 34 часопісы).

## БУДУЕМ МІЖНАРОДНЫ РЫНАК

— Асноўны асартымент кніг на рынку Казахстана фарміруецца за кошт расійскай кніжнай прадукцыі. Яе імпарт у 2011 годзе склаў 3 мільёны 265 тысяч асобнікаў. Гэта амаль 60 працэнтаў ад усёй колькасці кніг, што існуюць на рынку ў Казахстане. У апошні час развіваецца кніжны гандаль праз інтэрнэт, і цяпер па гэтых каналах распаўсюджваецца 31 працэнт кніг, што выдаюцца ў Казахстане.

Кніжная палата нашай краіны заключыла дагаворы аб інфармацыйным супрацоўніцтве з кніжнымі палатамі Расійскай Федэрацыі, Беларусі, Туркменістана і Узбекістана, цяпер паміж нашымі краінамі адбываецца абмен статыстычнай інфармацыяй. У 2011 годзе ў нашай кніжнай выстаўцы "Па Вялікім Шаўковым шляху" ўзялі актыўны ўдзел расійскія выдавецтвы і Асацыяцыя кнігараспаўсюджвальнікаў незалежных дзяржаў.

Працуем і ў галіне абмену вопытам паміж мастакамі кнігі, а гэта важны аспект выдавецкай справы, ён адыгрывае значную ролю ў распаўсюджванні літаратуры. Мастакі — тыя ж аўтары, якія працуюць над "тварам" кнігі, па іх малюнках чытач адразу адчувае, патрэбна яму кніга ці не. Так, у 2011 годзе мы арганізавалі біенале з польскімі творцамі, якія на наша запрашэнне адказалі з радасцю. Рэалізавалі мы сумесны праект і з Маскоўскім інстытутам друку.

У 2009 годзе Казахстан выступіў у якасці ганаровага госця на Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўцы-кірмашы, тады нашу кніжную культуру тут прадставілі каля 20 выдаўцоў. Таму спадзяюся, што магчымы ўдзел беларусаў у міжнароднай кніжнай выстаўцы-кірмашы "Па Вялікім Шаўковым шляху", якая штогод праходзіць у нашай краіне ў красавіку, стане не толькі крокам далейшага культурнага супрацоўніцтва, але і вялікай радасцю для прадстаўнікоў беларускай дыяспары ў Казахстане.

*Прэзентацыя*

# Вялікая кніга пра вялікага чалавека

18 снежня ў Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы адбылася прэзентацыя кнігі "Янка Купала: «Мне сняцца сны аб Беларусі…»" Кніга выйшла ў серыі "ЖЗЛБ" выдавецтва "Мастацкая літаратура" да 130-годдзя з дня нараджэння паэта. Укладальнік Галіна Шаблінская распавяла пра працу над кнігай, яе змест, а шматлікія госці падзяліліся ўражаннямі. Артысты Нацыянальнага драматычнага тэатра Беларусі выступілі з мастацкім чытаннем купалаўскіх твораў.

**Лея ХАШЫМБА,**
**фота Кастуся Дробава**

Галіна Шаблінская, прыгадваючы прапанову выдавецтва ўкласці том пра Купалу, прызнаецца, што для яе было не проста даць згоду, не кажучы пра ажыццяўленне працы: "Патрэбна было прайсці адпаведныя прафесійны і жыццёвы шлях". І прайшла, працуючы больш як трыццаць гадоў вядучай літаратурных праграм на Беларускім радыё, рыхтуючы падобную кнігу пра Ул. Караткевіча, зазнаўшы пэўныя жыццёвыя выпрабаванні.

Канцэпцыя кнігі, успамінае Г. Шаблінская, вызначылася сама сабой: калі ёсць у нас выданні пра Купалутворцу, ёсць раманізаваная біяграфія ("Як агонь, як вада…" А. Лойкі), то надзённа неабходна як мага ярчэй увіясць сабе Купалу-чалавека і атмасферу, "подых" яго часу. Часу няўмольнага, жорсткага: ім і сапраўды нібы павеяла падчас праслухоўвання запісу верша "Песня будаўніцтву" — выдатны узор знешняй лаяльнасці і ўнутранага пратэсту, агучанага з ледзь прыкметна з'едліва-здзеклівай інтанацыяй. Адпаведна, аснову кнігі склалі дакументальныя сведчанні: успаміны, лісты, нататкі, згадкі сучаснікаў і нарысы нашчадкаў, найбольш таленавітых і аўтарытэтных знаўцаў Купалавага жыцця і слова.

Кампазіцыю абумовіў храналагічны пачатак. "Не трэба было тут нічога ўскладняць, бо Купала —просты…" — кажа Г. Шаблінская. Адпаведна асноўным этапам жыцця паэта, кніга ўключае 7 раздзелаў з загалоўкамі-цытатамі яго твораў, 120 матэрыялаў 96 аўтараў, 250 фотаздымкаў — усяго 700 старонак аб'ёму. "Каб трэба было, мы б выдалі і больш" (дырэктар выдавецтва "Мастацкая літаратура" Віктар Шніп) —



сведчанне нефармальнасці падыходу выдаўцоў да праекта.

Чаму кніга называецца "Мне сняцца сны аб Беларусі…"? Па-першае, назва сімвалічная і пранікнёная. Але яна яшчэ і дакладная. Як заўважыла Жанна Дапкюнас (траюрадная пляменніца Янкі Купалы, былы дырэктар яго Музея), паэт у сваіх вершах ніколі не ўзгадвае свае сядзібы, садкі і г. д. Ён бачыць унутраным зрокам усю Беларусь, імкнецца да яе, дыхае ёй.

*У падтрымку чытання*



**Таццяна СТУДЗЕНКА,**
**кандыдат філалагічных навук,**
**дацэнт Інстытута журналістыкі БДУ:**

# «Падарунак»

Маім "словам" у падтрымку чытання можа быць уласны шлях да кнігі, дакладней — да кнігі беларускай. Шлях, менш за ўсё прыкладны, а калі "прыкладны", то наадварот, або паводле выслоўя: лепш позна, чым ніколі.

Артадаксальный школьнай гісторыі "бел. літ." на момант знаёмства з ёю ў досыць сталым узросце свядомасць не захавала. Калі ўзгадаць, што ўсе ж такі было ў самым пачатку, то гэта ранішні ленінградскі (тады яшчэ) праспект у лабавым шкле брудна-жоўтага "Ікаруса", а з кабіны вадзіцеля — песня "Янка Купала". Песню чула і дома, але "ленінградскі" эфект быў не ўпаравень мацнейшы, тым больш — у момант пэўнай разгубленасці ўчорашняга дзіцяці, якое на шляху з чыгункі ўпершыню самастойна бачыць чужы Горад.

Потым у гэтай суб'ектыўнай гісторыі трэба прыгадаць шэранькую кніжачку "Новая зямля", пакінутую сакурсніцай-выдатніцай, якая гасцявала часам месяц-другі і мела звычку чытаць "па праграме". Кніжка бляталася без патрэбы дзесятка паўтара гадоў, недзе была знікла, а потым адшукалася — калі насамрэч спатрэбілася.

Далей — рэшткі... Чытаныя разы тры "Атланты і Карыятыды" (так, па-руску) — пра Мінск майго дзяцінства: пра тыя ж спартанскія крамы, пра знаёмыя ўсім будынкі і, здаецца, пра той самы снег... Памятаю "Каласы пад сярпом тваім", з якіх прачытана ледзь паўстаронкі ("Што яны тут знаходзяць?.."). Быў нават экзамен па "бел. літ." на перадапошнім курсе педуніверсітэта звонкай чэрвеньскай ранніцай. Было...

Нічога гадоў з дзесятак больш не адбывалася. А потым, зірнуўшы на "бел. літ." зацікаўленым і больш-менш спрактыкаваным вокам, убачыла прыклад найяскравейшага ўніверсалізму. Не проста "ўніверсальнасці" (усёахопнасці і ўсеагульнасці) як больш ці менш выпадковых рыс, а менавіта "-ізму" — гістарычна абумоўленага і таму свядомага творчага прынцыпу. Убачыла ўвесь той яскравы драматызм: на пачатку XX стагоддзя, пасля запусцення, марнавання, ганьбавання звонку і знутры — выбух творчай моцы, якая імкнецца ўвабраць як хутчэй ледзь не страчаны вопыт самастварэння. Адсюль гэтыя ўсёабдымныя палотны, вялікія і малыя, што мусілі адыграць ролю нацыянальных "Адысеяў" і "Мобі Дзікаў": "Новая зямля", "На ростанях" Якуба Коласа, "Адвечная песня", "Яна і Я" Янкі Купалы, "Камароўская хроніка" М. Гарэцкага, універсалізм-энцыклапедызм творчай дзейнасці Багдановіча. Адсюль уяўленне пісьменнікаў пра сябе як пра прарокаў, справа і слова якіх вартыя справакаваць і спраўдзіць "адраджэнне". Адсюль безліч інтэрпрэтацый таго, што надзённа неабходна і значна: бясконцыя варыяцыі на тэму зямлі. Адсюль, з прагі пераадолець бездань "нішто", — увабранне ў нацыянальны космас не толькі "пытання зямельнага", сялянскага, ад веку ў век свайго, але таксама "пытання" ўрбаністычнага.

У гэтай асабістай гісторыі Багдановіч і Купала, Колас і Гарэцкі, іх Гарады і Вёскі, лёсы і стасункі — якраз што раманы. Іх раптам падаравалі філолагу (ВАК падараваў), выхаванаму на замежнай спадчыне. Дзякуй за падарунак.

# Не кропка, а кропка з коскай!

У сталічнай кнігарні "Кніжны салон" адбылася прэзентацыя трох тамоў з серыі "Беларусіка-Albaruthenica", якія ўключаюць матэрыялы 5-га Міжнароднага кангрэса беларусістаў, што адбыўся 20 — 21 мая 2010 года.

**Даніла АРЦІМОВІЧ**

Міжнародная асацыяцыя беларусістаў (МАБ) — амаль равесніца нашай незалежнай дзяржавы: першы кангрэс з удзелам вучоных з 12 краін адбыўся ў маі 1991 года. Але яму папярэднічала грунтоўная падрыхтоўчая праца. Паводле ўспамінаў стваральніка і першага старшыні МАБ Адама Мальдзіса, вясной 1990 года ў Папскім інстытуце, што месціцца ў Рыме, была арганізавана канферэнцыя. Менавіта падчас яе правядзення прадстаўнікі беларускай дэлегацыі вырашылі стварыць арганізацыю, якая б яднала тых, хто цікавіцца айчыннай культурай.

У чэрвені 1990-га ў Варшаве і Беластоку прайшла Скарынаўская канферэнцыя, на якой быў сфарміраваны аргкамітэт МАБ. А. Мальдзіс прызнаўся на прэзентацыі, што тагачаснае кіраўніцтва Акадэміі навук настойвала на кандыдатуры Алега Лойкі. Але той узяў самаадвод, таму па выніках таемнага галасавання (каб пазбегнуць папрокаў з боку начальства) перамагла кандыдатура Мальдзіса.

За гады працы МАБ разам са Скарынаўскім цэнтрам правяла каля 40 міжнародных навуковых канферэнцый, сімпозіумаў і "круглых сталоў", матэрыялы якіх былі надрукаваныя ў бюлетэні "Кантакты і дыялогі" і серыі "Беларусіка-Albaruthenica". Сёлета ў выдавецтве "Чатыры чвэрці" выйшлі тры новых тамы (кожны па прапанове А. Мальдзіса мае падзагаловак "Новае слова ў беларусістыцы"), якія ўключаюць пераважную большасць дакладаў і пазедамленняў кангрэса.

Іх прэзентацыя невыпадкова праходзіла ў "Кніжным салоне", бо сярод аўтараў зборніка пяцёра (Адам Мальдзіс, Алесь Суша, Ларыса Доўнар, Валерый Герасімаў і Таццяна Рамза) з'яўляюцца сябрамі сталічнага клуба бібліяфілаў, пасяджэнні якога адбываюцца ў салоне. Кніга пад нумарам 31 змяшчае матэрыялы па літаратуразнаўстве і фалькларыстыцы, 32 — па мовазнаўстве, 33 — па гісторыі і культуралогіі.

Мовазнаўца Генадзь Цыхун звярнуў увагу, што раней пры фарміраванні зборнікаў прысутнічала "зборка" прадстаўленых матэрыялаў. Цяпер жа дамінуе блочны прынцып, які ўласцівы для сучаснага навуковага жыцця. Літаратуразнаўца Ірына Багдановіч падкрэсліла, што выданне матэрыялаў трэба ўспрымаць не як кропку, а як кропку з коскай. Праз некалькі гадоў мусіць адбыцца новы кангрэс, да якога ўжо варта пачынаць рыхтавацца. Акрамя таго, рыхтуецца 34-ы том "Беларусіка-Albaruthenica", куды ўвойдзе матэрыял дзвюх беларуска-польскіх навуковых канферэнцый. Плённая дзейнасць беларусістаў працягваецца!

# "Жывіца" набліжаецца да музы

Паколькі экзэмпляра рэальнай кнігі перад вачыма на момант падрыхтоўкі гэтага матэрыялу ў мяне не было, спынюся на зборніку сяброў народнага клуба кампазітараў і паэтаў "Жывіца" "Непадкупны подых натхнення", якім ён уяўляўся пасля другой рэдактуры.

**Юрась НЕРАТОК**

Адразу хацеў бы напомніць, што пры рэдактарскай апрацоўцы ніколі не прад'яўляю да вершаў фармальных дагматычных патрабаванняў апроч стапрацэнтна агульнапрынятых. А ў кожным зборніку патрабаванні фарміруюцца ў залежнасці ад тэматыкі ды віртуальнага аўтарскага калектыву. І з улікам узроўню вершаў асобнага аўтара. Крытэрыі — вынік агульнага агляду, аналізу і азарэння.

Да таго ж склалася пэўная сістэма рэдактарскага ўдзелу ў шматмерных планах "Жывіцы": пасля першай чыткі аўтары на бліжэйшым пасяджэнні маюць магчымасць паглядзець, што паправіў сам і што прапаную паправіць вам. Ёсць аргументы — прад'яўляйце, ёсць варыянты — прапаноўвайце: абмеркаванне і кампрамісы магчымыя. Само сабой, "няхай так і застанецца" не праходзіць.

Другую чытку праводжу самастойна і нават калі аўтарскае слова магло б стаць вырашальным — не непакою: лепш за 5 — 7 хвілін вызначыць аўтарскі "паталок" і "сыграць за аўтара", чым задаваць задачку, рашэнне якой можа расцягнуцца на тыдзень-другі. Ніколі не чытаю з кепскім настроем: уласныя праблемы трэба пакідаць сабе, а да любой работы ставіцца як да магчымага актыву.

Разумею, што напачатку бываюць крыўды, бо аўтар можа закласці больш сэнсу ў пэўнае слова або радок. Ці нешта сакральнае мець на ўвазе. Аднак кніга ўспрымаецца вачыма: літары, словы, абзацы, верш — аўтара з вуснымі тлумачэннямі да кожнага асобніка ўкладкай не прыклеіш. Да таго ж ніколі не чуў, каб праўлены рэдактарам радок быў зняслаўлены (няважна, чытачом ці прафесіяналам). А вось што адкажа рэдактар прафесіяналу на заўвагу: "Як ты такое прапусціў?"

Таленавітых жа творцаў у "Жывіцы" хапае, таму відавочны несумненны рост як агульнага творчага патэнцыялу членаў клуба, так і асобных яго аўтараў. Хацелася б адзначыць паэзію высокага ўзроўню з адметным аўтарскім стылем Валянціны Акулёнак, Дзмітрыя Булычова, Аліны Агрэніч. Прыгожа адцэнена светлая, разнастайная лірыка Святланы Быкавай і Людмілы Круглік, арганічная шчырасць Веранікі Гайчук і Рэгіны Рэўтовіч. Радуе ўдалая экстрэмальнасць Віталя Быля, прадуманая авангарднасць Алеся Емяльянава, разнастайнасць форм і тэм, улюбёнасць у паэзію Мікалая Марына, па-філасофску змрочная цэльнасць Андрэя Сямёнава.

Ангеліна Міронычава-Дабравольская даволі паспяхова асвойвае кантэкст сусветнай літаратуры на нашай глебе. Усцешаны, што Андрэй Сузінь і Таццяна Шэіна апроч шматлікіх уласных упрыгожылі праект "Непадкупны подых натхнення". Наталяюць душу іранічныя і бясспрэчна таленавітыя радкі Максіма Жаровіна, які даўно перарос аматарскі фармат. (Зрэшты, такім яго заўсёды і бачыў). Несумненны прафесіянал высокага ўзроўню і Аляксандр Марозаў.

Пры ўсіх спробах быць нейтральным імпануе як творчасць, так і асоба Ліліі Мялешкі, Уладзіміра Цануніна, Галіны Нупрэйчык, Уладзіміра Рунцэвіча, якія не толькі фарматныя творцы, а людзі, адданыя літаратуры, бо ставяць сабе найвышэйшую планку, прапускаюць праз сэрца кожны верш, не забываюцца цікавіцца "літаратурай апроч сябе" і ўдасканальваюцца. Да таго ж (сакральна-рэдактарскае!) ад сапраўдных творцаў і прэтэнзій не дачакаешся.




Само сабой, па шмат кім з пералічаных і Саюз пісьменнікаў даўно плача. Рыхтуйце заявы і фота…

# Ушушканы Сташанамі

Доўга, вельмі доўга Анатоль Шушко — таленавіты паэт з Пінска — чакаў сваёй другой кнігі. Чакалі і яго сябры, а ў самы пярэдадзень Новага 2013 года ён змог пахваліцца зборнікам вершаў "Шаны". Назва крыху дзіўная. Як напісаў у прадмове Віктар Гардзей, "добра бачна, што гэта бліскучы наватвор не так ад слова "шанаваць", як лагічнае пераасэнсаванне назвы вёскі Сташаны Пінскага раёна, дзе аўтар нарадзіўся…"

**Расціслаў БЕНЗЯРУК**

Сапраўды, поруч з неалагізмамі "шан" і "ўшушканы" (ад прозвішча Шушко) сустрэнеш не адзін раз старое, напаўзабытае "льга" ці дыялектнае "хвайны". Бо паэт жыве "на поўдні Беларусі, дзе Прыпяць Піне шчыра раіць", жыве сярод землякоў. Ён нават першы раздзел называе "Дома", бо мае наказ ад роднага дзядзькі:

Паляшук, разумны праўдалюб, дасціпны і працавіты, які "гарачы стог астудзіць потнаю кашуляй", часта з'яўляецца героем ягоных вершаў. І перш-наперш родныя, хто даў жыццё і выхаваў, і… мілыя сэрцу Сташаны. Пра іх — сынаў усхваляваны трыпціх "Сто шан для Сташан".

* * *

Я ведаў Шушко яшчэ задоўга да той пары, як на пасяджэнні Брэсцкага аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі разбіралі творы трох аўтараў — мае, Анатолевы і Міколы Антаноўскага, які, дарэчы, таксама нарадзіўся ў вёсцы Сташаны, — каб рэкамендаваць для ўступлення ў Саюз пісьменнікаў. Бо ў рэдакцыі раённай газеты "Сельская праўда", дзе я працаваў, загадчыкам сельгасаддзела быў Васіль Сахарчук — Шушкоў аднакурснік. Анатоль часта прыязджаў да сябра ў Жабінку, і мы вялі доўгія гутаркі пра розныя зменлівасці жыцця.

А яшчэ болей зблізіліся і пазналі адзін аднаго пасля паездкі ў 2009 годзе на Свята беларускага пісьменства ў Смаргонь. Выпала нам сядзець насупраць. Анатоль аказаўся цудоўным апавядальнікам, а я — неблагім, мусіць, слухачом. Шушко расказаў пра трох лепшых студэнцкіх сяброў, з якімі жыў душа ў душу: разам ездзілі летам на будоўлі, кожны пісаў вершы і да хрыпаты спрачаўся, адстойваючы свае погляды. Аднак гэта ніколькі не шкодзіла сяброўству.

Цяпер чытаючы зборнік "Шаны", я быццам зноў сустрэўся з сябрамі яго студэнцкай пары: два вершы прысвечаны Міколу Цялегу, адзін — Івану Рубану, а Сахарчуку дзе? Хутка я адчуў, што якраз верш "Запарушана вока…" з прысвячэннем светлай памяці аднакурсніка і быў, напэўна, адрасаваны Васілю.

* * *

Асобна, з цеплынёй, расказваў Анатоль пра свайго бацьку-франтавіка. Пасля смерці жонкі Іван Канстанцінавіч, каб не замінаць дзецям, адзін жыве ў Сташанах. Сын часта звоніць яму. Шушко-старэйшы пазнае яго голас, але абавязкова перапытае: "Толя, гэто ты?" і, пачуўшы звыклае: "Я, тату, хто ж яшчэ?" — пачынае распавядаць сташанскія навіны.

Бацька, паводле Анатоля, суразмовец цудоўны, любіць трапнае слова. Калі ж трапіцца такі самы вясёлы субяседнік, Іван Канстанцінавіч усміхнецца і прамовіць: "От, сказаў, як звязаў!" Пра добрага музыку мовіць: "Лоўка грае, не гняце гармоніка!", а пра прыгожую жанчыну — "Якая хвайная жаночына!" Слова "хвайны" ёсць і ў Анатолевым лексіконе, знойдзеш і ў яго вершах.

Бацьку і маці паэт прысвяціў некалькі твораў. Першы верш пра бацьку "З татам" мае харошае прысвячэнне: "Майму ветэрану з пашанай".

Для кожнага прыходзіць пара, калі хочацца азірнуцца назад, вызначыць месца ў ланцугу свайго роду. Анатоль Шушко ў зборніку "Шані" апавядае ад дзеда Кастуся і да свайго ўнука Даніка.

* * *

Юнага Анатоля Шушко, які першы раз надрукаваўся ў газеце "Літаратура і мастацтва", заўважыў выбітны літаратуразнавец і крытык Варлен Бечык, бо былі ў яго вершах "і маладая ўсхваляванасць жыццём, і раздумлівая дапытлівасць, і назіральнасць, і псіхалагічная чуйнасць". Варлен Леанідавіч пажадаў аўтару "памнажаць набыткі, ісці па гэтак удала распачатым шляху…" Пазней, як крытыка не стане, у ягоны вянок уплецецца Шушкова паэма "Зараніцы спець", эпіграфам да якой узяты Багдановічавы словы: "Ты не згаснеш, ясная зараначка!"

Анатоль Шушко — паэт самабытны. Ён ужывае ў сваіх творах свежыя, "незаезджаныя" эпітэты, метафары, параўнанні ды рыфмы — словам, увесь "каскад" мастацкіх прыёмаў. Калі чытаў зборнік "Шаны", часта бачыў "жывую" карцінку, намаляваную паэтам.

Напрыклад, сярод снягоў, калі "след выслізгаюць палазы, палае горача рабіна, каб не зламалі маразы". І як бы даказваючы, што вобраз "палаючай" рабіны ў вершы не выпадковасць, аўтар далей паказвае раннее, кал "барвяніць досвітак рабіна".

А вось другі зімовы малюнак, дзе адшукаеш і эпітэты, і метафары, і параўнанні:

*Стагі, як лысыя дзяды,*
*У кажухах сумётаў*
*Пасталі строга у рады*
*На чысціні балота.*

Можа, на тым жа балоце косы ўлетку "рассцілаюць пракосаў ручнікі ля ракі", а вясновы "прамень прыпаў да шыбіны акна, высмоктваючы сон і духату пакоя". Мусіць, не толькі я, чытач, але й сам аўтар згодзен з ужываннем мастакоўскіх прыёмаў. Таму вялікая нізка вершаў пра родную прыроду "Жывапіс успаміну" мае падзагалоўкі "Акварэлі лета", "Гуаш восені", "Алей зімы" і г. д.

…Не прэтэндую на ўсебаковы аналіз кнігі А. Шушко "Шаны". Гэта толькі нататкі пра тое, што пры знаёмстве са зборнікам спадабалася, усхвалявала, палюбілася. Хочацца верыць, што не абміне яго ўдумлівы і мудры крытык, а аўтару застаецца сказаць: "У сташанца ёсць сто шанцаў для з'яўлення новых кніг! І няхай ён выкарыстае іх, каб парадаваць разумнага і шчырага чытача…"

# Поэт на вершине власти

Данила АРТИМОВИЧ

Положа руку на сердце, признаемся: мы достаточно неравномерно знакомы с литературой разных народов. В мире русской, французской




или немецкой литературы чувствуем себя как дома. Но что мы знаем о литературе государств, средних или небольших по площади? Например, Болгарии? Честно говоря, до недавнего времени я был знаком лишь с детективными романами Богомила Райнова. Да и то благодаря тому, что, не имея никакого представления об авторе, случайно захватил несколько его книг с собой в отпуск. Счастливый случай дал мне возможность получить о Болгарии более полное представление. В мои руки попала книга воспоминаний **Любомира Левчева "Ты следующий"** (перевод с болгарского Марии Ширяевой).

Её автор является одним из крупнейших болгарских поэтов и прозаиков, лауреатом многих престижных международных премий. Он удостоен золотой медали Французской академии за поэзию и почетного звания Рыцаря поэзии (1985).

"Ты следующий" — история его молодости, прихода в литературу, а затем и во власть. Перед читателями проходят два бурных десятилетия XX века: жесточайшая борьба внутри коммунистической элиты, репрессии, венгерские события 1956 года, возведение Берлинской стены, Карибский кризис и убийство Кеннеди, Пражская весна и вторжение советских танков в Чехословакию. Спустя много лет Левчев, отойдя от коммунистических иллюзий и работая над этой книгой, определил её как попытку исповеди, попытку "рассказать о том, как поэт может оказаться на вершине власти".

Французский писатель Ален Боске писал о книге: "Любомир Левчев неподражаемым жестом бросает истины в лицо миру — яростные, наивные, поразительно точные".

Уверен, прочитав книгу, вы согласитесь с этими словами.

# «Броня крепка, и танки наши быстры»

Денис МАРТИНОВИЧ

В 1939 году на экраны Советского Союза вышел музыкальный фильм Ивана Пырьева "Трактористы". В картине прозвучала песня "Три танкиста", ставшая неофициальным гимном пограничных и танковых войск: *"Там живут — и песня в том порука — // Нерушимой, дружною семьёй // Три танкиста — три весёлых друга — // Экипаж машины боевой"*. В том же фильме прозвучал и *"Марш советских танкистов"*: *"Броня крепка, и танки наши быстры, // И наши люди мужества полны: // В строю стоят советские танкисты — // Своей великой Родины сыны"*. Популярность картины не в последнюю очередь была вызвана точной передачей реалий, знакомых современному зрителю. Началась Вторая мировая война, в которой танкам было суждено сыграть ключевую роль.

У читателей, которые интересуются как военной техникой, так и периодом войны, вызовет интерес **"Полная энциклопедия танков и бронетехники СССР Второй мировой войны 1939 — 1945"** (автор **Мария Архипова**), которая вышла в серии "Военная энциклопедия". В издании представлен обширный фактический материал о танках и бронетехнике, состоявших на вооружении советской армии в период Второй мировой войны. Содержатся сведения о конструкции и вооружении, основные тактико-технические характеристики, описано боевое применение, а также интересные факты из истории создания бронетанковой техники.

Значительный интерес вызывают выдержки из военных мемуаров и научных исследований. Например, как утверждает М. Архипова, уже в 1941 году фашистские генералы признавались: во встречных боях немецкое танковое вооружение и противотанковая артиллерия были бессильны. Советские танки КВ и Т-34 поражали вражеские танки на расстоянии свыше 1,5 тыс. метров, в то время как немецкие — лишь на расстоянии 500 метров, да и то лишь в бок или корму.




Книга содержит большое количество фотографий, рисунков, схем. Кроме того, издание снабжено указателем, который облегчит поиск той или иной модели боевой машины.

# С гидом, да во Францию!

Юзефа ВОЛК

Может ли случиться так, что телевидение вдруг пробудит огромный интерес к книге? С одной стороны, это может показаться чудом, ведь книга и телевизор работают на совершенно разную аудиторию, да и способ подачи материала в них совершенно разный. Но вот парадокс: прорекламированная по телевизору книга, к примеру, в программе популярной американской ведущей Опры Уинфри, сразу же становится лидером рейтингов продаж. Или успешные экранизации романов возрождают интерес к казалось бы забытым классическим произведениям. Но есть ещё третий способ — популярный телефильм, превращённый в книгу самим же автором, и в новой форме обречён на успех. Перед нами — пример именно такого гармоничного сочетания телевидения и литературы — книга Владимира Познера "Тур де Франс. Путешествие по Франции с Иваном Ургантом", изданная при поддержке ООО "Харвест".

В 2009 году съёмочная группа во главе с Владимиром Познером отправилась во Францию для того, чтобы снять документальный фильм об этой стране, рассказать об её особенностях зрителям. Серия документальных фильмов "Тур де Франс" стала своего рода сиквелом "Одноэтажной Америки" — тоже документального сериала, несколькими годами ранее снятого о США практически этой же командой. Как и в случае с Америкой, путешествия по Франции уже годом позже превратились не только в видеообразы, показанные на экранах, но и в литературное произведение, книгу скорее документально-художественную, чем просто путевые заметки.

Перед тем, как начать путешествие, автор делает оговорку (и он действительно словно говорит с тобой, ты не просто читаешь рассказ, а "слушаешь" Познера, его голос будто звучит за кадром): "…когда мы ехали по Америке, мы следовали маршрутом Ильфа и Петрова, повторяли их путешествие 1935-36 годов. Они были нашими гидами. Поэтому не удивительно, что и книжка, вышедшая вслед за фильмом, строго придерживалась этого путешествия. Во Франции у нас же не было такого "путеводителя", нам самим надо было решать, куда едем и главное — зачем. Составляя план нашего тура, я исходил из того, в какой степени тот или иной город, тот или иной регион может помочь главному: раскрыть Францию и французов для российского зрителя". Поэтому книга построена без хронологического соответствия путешествию съёмочной группы. Здесь каждая глава посвящена не месту, а теме, раскрытие которой должно показать читателям то, без чего невозможно понять Францию и французов. Это икусство, замки (то есть история), эмиграция во Францию, в том числе и из России, особенности национальной кухни, конечно же вино и парфюмерия, особенности экономики и восприятия мира в этой стране. Всё лаконично, в меру эмоционально изложено в особой "познеровской" манере. В общем, читать — одно удовольствие.




Не подкачало и оформление издания. Если "американская" книга была более скромной, с небольшим количеством иллюстраций, то "французская" поможет увидеть самые интересные места, познакомит с собеседниками автора, и даже тому, кто не смотрел фильмов, не придётся сильно "воображать" явления, о которых идёт речь. Тем же, кто фильмы уже посмотрел, приятно будет снова увидеть знакомые пейзажи и людей, но уже не на экране, а на фото. И даже содержание издания весьма креативное: названия глав вместе с небольшими картинками не просто расположены в столбик с указанием страниц, а элегантно размещены на карте Франции, где даже схематично намечен маршрут путешественников.

Интересно и то, что издание состоит из двух частей: собственно книги-рассказа и дневника, который В. Познер вёл во время поездки. В нём все события изложены в хронологическом порядке. И хоть сам автор подчёркивает, что дневник вёл не слишком аккуратно и позднее не старался придать ему правильную форму, тем не менее и такой рассказ весьма ценен для читателя. "Возможно, стоило бы пожертвовать подлинностью ради литературного выигрыша, — рассуждает Владимир Владимирович, — но делать этого я не стал. Быть может, напрасно…"

Как мне кажется, совсем не напрасно. Ведь именно в таком изложении просматривается сам ход мыслей рассказчика, видны вещи, которые замечает автор, на какие аспекты особенно обращает внимание, да и его эмоции представлены не "профильтрованными" и красиво оформленными, а совсем уж настоящими. Кроме того, дневник может быть полезен и людям, которые работают над документальными фильмами или ещё только учатся их снимать. Ведь в нём — все планы работы: на день, неделю, постановка целей на следующий день, ошибки и промахи как самого Познера (а их весьма мало), так и других членов съёмочной группы (их больше).

Получается так, что если читатель обращает внимание сразу на первую часть книги, то видит результат, красивую картинку. А когда заглядывает во вторую, дневник автора, то словно заходит за кулисы, видит съёмочную площадку, и ещё детальней знакомится со страной и проникается духом необычайно интересного путешествия.

# Приключения гладиаторов

Данила АРТИМОВИЧ

Вместо того чтобы предоставить детям полную свободу и возможность в неограниченном количестве поглощать "Колу" или "Спрайт", лучше подарите им книгу **"Бои гладиаторов" Эрики Вильямс и Николаса Харриза** из серии "Ключ времени" (перевод с английского языка). Главные герои — брат и сестра Майкл и Джош — любители приключений, которые случайно находят потайную дверцу за книжным шкафом их дедушки. Перешагнув порог, они совершают необыкновенное путешествие назад во времени и попадают… в древний Рим. Ваши дети узнают о том, какой была жизнь в городе Помпеи, познакомятся с историей возникновения Древнего Рима и Римской империи, разберутся в особенности гладиаторских боёв и поймут принцип построения римской армии. Смогут ли дети спасти гладиатора Марка? Его хозяин пообещал ему свободу за победу в поединке, но обманул. Майкл и Джош организуют для своего нового друга побег... Впрочем, нельзя не учитывать и другое немаловажное обстоятельство — извержение Везувия, которое в конце концов уничтожит жизнь Помпеи.



# Крылаты вобраз

“Кнігі ўводзяць нас у лепшае грамадства, знаёмяць з найвялікшымі розумамі ўсіх часоў”, — сцвярджаў у XIX стагоддзі англійскі пісьменнік Самуэль Смайлс. З гэтай думкай цалкам пагаджаецца жанчына, якая 46 гадоў свайго жыцця аддала працы з кнігай, — Соф’я Жыбулеўская. Аднойчы Соф’я Антонаўна патэлефанавала мне і сказала, што запрашае на вельмі важную размову ў кнігарню “Цэнтральная”, дзе працуюць яе сябры. Я была заінтрыгавана. Соф’я Антонаўна вельмі хвалявалася. Каб супакоіць яе, я прызналася, што і сама вельмі хвалююся. Тады яна засмяялася, грукнула кулаком па стале, каб дадаць сабе смеласці, і пачала гаварыць.



**Валянціна ПАЛІКАНІНА**

— Не здзіўляйцеся, Валянціна Пятроўна, што я паклікала менавіта вас на гэтую сустрэчу. Люблю вашу творчасць, вельмі высока цаню нашы адносіны і заўсёды была з вамі шчырай. І вось цяпер я хачу, каб вы прынялі маю споведзь… Праз вас я хачу сказаць Яе Вялікасці Кнізе “дзякуй” і расказаць пра тых людзей, з якімі яна мяне пазнаёміла. Ведаеце, многа гадоў я працавала ў кніжнай сістэме. Кніга для мяне — святое. Яна як жывы арганізм. Яе крылаты вобраз адлюстраваны на карціне Сямёна Дамарада, якая размешчана ў самым утульным куточку маёй кватэры.

Я нарадзілася недалёка ад Заслаўя, у вёсцы Навашыно. Пасляваеннае жыццё было вельмі складанае, беднае. Доўгі час мы жылі ў хаце, якая не мела падлогі. Але мае бацька і маці былі багатыя душой, светлыя людзі. Ніколі я не чула ад іх кепскіх слоў. Бацька чытаў па памяці казкі Пушкіна, маці ведала многа малітваў, добра спявала. Запомніўся на ўсё жыццё іх наказ: “Вучыся, дзіця!” Я вучылася ў трох школах: пачатковай, васьмігодцы і адзінаццацігодцы, мела вялікую прагу да вучобы — ні аднаго дня не прапусціла ў школе. Летам, у час канікулаў, мне даводзілася працаваць у калгасе. І вось аднойчы дырэктар Анусінскай васьмігодкі кажа: “Ну, дзеці, за лета вы адпачылі, зараз будзем добра вучыцца!” А ў мяне рукі ў мазалях… Слёз хапіла надоўга, і ніхто не ведаў, чаму я плачу.

Я працавала ў кнігарні па вуліцы Брылеўскай, адкуль і пачынаецца маё цікавае жыццё разам з кнігай. Запомніўся першы пакупнік — Леў Лісіц, кнігалюб, які ведаў творчасць многіх пісьменнікаў (дарэчы, ён жорстка паплаціўся за сваю любоў да паэзіі Уладзіміра Высоцкага). Другой была кнігарня № 16 па вуліцы Карла Лібкнехта. Помню нашы паходы па школах з пісьменнікамі Васілём Зуёнкам, Еўдакіяй Лось, Рыгорам Барадуліным, Міколам Аўрамчыкам, Міхасём Скрыпкам. Мы прапагандавалі кнігі, абыходзілі школы, я ведала ўсіх загадчыкаў школьных бібліятэк. Сярод іх была Алена Ярмалінская, якая цікавілася кнігамі па мастацтве і казала: “Я вяду гурток, і ў мяне ёсць вельмі таленавіты хлопец. Мабыць, за ім вялікая будучыня”. Гэтым хлопцам быў Віктар Манаеў, цяпер народны артыст Беларусі.

Аднойчы прыйшла ў тую кнігарню шукаць кнігу для свайго ўнука Ларыса Александроўская. Бачыла, як яна заходзіла, хістаючыся, ужо хворая. Яна шукала падручнік па матэматыцы. Дзякуй Богу, я ёй дапамагла… А цяпер, калі ў Дзяржаўным музеі гісторыі тэатральнай і музычнай культуры бачу яе партрэт, не магу ад яго адысціся. Шмат падзей адбывалася і ў кнігарні па вуліцы Прытыцкага, дзе я працавала дырэктарам. Яна толькі адкрывалася, усё пачыналася з нуля: неабходна было прадумаць асартымент кніг, стварыць калектыў…

У 1978 годзе мяне выбралі старшынёй аб’яднанага прафсаюза Мінскага аблкнігагандлю. Працуючы на гэтай пасадзе, я старалася арганізаваць для прадаўцоў цікавыя мерапрыемствы, да прыкладу, паездкі па пушкінскіх мясцінах, на радзіму Янкі Купалы, Якуба Коласа. Стварыла нават хор з 15 чалавек, супрацоўнікаў кнігарняў! Потым працавала начальнікам аддзела кадраў Мінаблкнігагандлю. Сістэма была вялікая, мела 60 кнігарняў, а колькасць супрацоўнікаў — больш як тысяча чалавек. Галоўным я лічыла высокі прафесіяналізм нашых спецыялістаў, для гэтага арганізоўвала курсы павышэння кваліфікацыі. Вялікую ўвагу надавала беларускай мове, нават звярнулася ў выдавецтва “Мастацкая літаратура”, і нам чыталі лекцыі па роднай мове галоўны рэдактар Серафім Андраюк. Карыснымі былі таксама лекцыі знакамітага вучонага Адама Мальдзіса. Цікавыя мерапрыемствы праводзіла я і ў таварыстве “Кніга”.

Але самым значным стаў для мяне перыяд працы ў краме “Акадэмкніга”. Было вельмі складана аднавіць яе, зрабіць капітальны рамонт без фінансавання, але ж вельмі хацелася. Працуючы ў цяжкіх умовах, старалася знайсці час для знаёмства з дырэктарамі інстытутаў ды з іншымі вядучымі супрацоўнікамі Нацыянальнай акадэміі навук. Па сённяшні дзень жыву з вялікай падзякай у сэрцы тым людзям, якія цікавіліся лёсам крамы. Гэта Аляксандр Вайтовіч, Пётр Віцязь, Ігар Валатоўскі, Іван Гайшун, Уладзімір Гусакоў, Аляксандр Данілаў, Сяргей Чыжык, Наталля Аляксандрава. Трэба адзначыць, што гісторыя “Акадэмкнігі” значная і для кніжнага гандлю, і для мяне асабіста. Хацелася стварыць кнігарню, якая была б даспадобы ўсім. Я задавала сабе пытанне: хто наш пакупнік? І знаходзіла адказ: навукоўцы, пісьменнікі, самыя адукаваныя людзі. Для іх рабілася ўсё і на перспектыву. Старалася, каб у нас былі самыя лепшыя кнігі, шукала іх і чакала сур’ёзных аўтараў. У такой справе вельмі дапамагала загадчык аддзела Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Алена Сівакова.

Не магу забыць Уладзіміра Шэліхіна. Гэта быў таленавіты, сумленны чалавек, вельмі сціплы. Калі ён прыходзіў у кнігарню, нібыта станавілася святлей. Ён прынёс нам сваю кнігу “Сердце помнит”, што выйшла ў выдавецтве “Чатыры чвэрці”, у ёй сабрана цэлая галерэя таленавітых вобразаў і вельмі цёпла, прафесійна напісана пра артыстаў, з якімі аўтар сустракаўся ў жыцці. Цёпла ўспамінаю яшчэ адну постаць у нашым грамадстве — Ніну Сняжкову. Яна прыйшла ў кнігарню са сваёй кнігай “Женщина столетия” пра першую ў свеце жанчыну-касманаўта Валянціну Церашкову. Плённым было супрацоўніцтва з Анатолем Бутэвічам, вельмі цікавым і глыбокім чалавекам. Я ў захапленні ад яго кніг “Сем цудаў Беларусі”.

У мяне вялікая бібліятэка кніг з подпісамі. І сёння іх перачытваю, часам плачу… Ёсць кнігі з аўтографамі Алеся Карлюкевіча, Уладзіміра Ліпскага, Юрыя Сохара, Тацціяны Мушынскай, Леаніда Дранько-Майсюка, Леаніда Левановіча, Сяргея Панізніка, Кастуся Цвіркі, Лідзіі Арабей, Уладзіміра Шчаснага... Кніга Янкі Сіпакова “Наталенне смагі” ляжыць у мяне на стале. Гэта быў такі сціплы чалавек пры яго таленце! Па кожнай кнізе я ўспамінаю чалавека, які заходзіў у кнігарню.

У сваёй працы старалася больш быць у зале, знаёміцца з людзьмі. Гэта было патрабаванне душы. Канечне, многае ўпусціла, таму што кнігарня вялікая… І цяпер я шкадую, што бачыла ў зале Янку Брыля з сябрамі і не адважылася падысці, а неўзабаве яго не стала… А калі наведвалі кнігарню пасол Украіны Ігар Ліхавы са сваёй жонкай, то як жа іх усё цікавіла! Гэта такія адукаваныя, светлыя людзі! Ганарам было для кнігарні, што яны прыходзілі да нас. Аднойчы завітаў і Пётр Клімук. Выходжу ў залу — стаіць такі знакаміты чалавек. Я была вельмі ўсхвалявана…

Як дырэктар кнігарні я патрабавала ад усіх прадаўцоў, каб яны ведалі аўтараў, іх біяграфіі і маглі паказаць, дзе стаяць іх кнігі. Усе нашы размовы з калектывам былі толькі пра кнігу… Усе гэта ведалі, і кантакт з аўтарамі ў нас заўсёды атрымліваўся. Мы вельмі стараліся зрабіць добрую рэкламу кнігарні, каб яна была на слыху. У гэтым нам дапамагалі многія вядомыя журналісты.

За час майго дырэктарства кнігі знаёмілі мяне не толькі з аўтарамі, але і з творчымі калектывамі: дзяржаўнымі і прыватнымі выдавецтвамі, рэспубліканскімі бібліятэкамі, з бібліятэкамі навучальных устаноў. Шмат кніг прайшло праз маю душу. Менавіта кнігі я дару на святы і лічу іх лепшым падарункам. Аднойчы на дзень нараджэння светлай жанчыне, начальніку аддзела культуры Першамайскага райвыканкама Наталлі Каралёвай, якая больш за ўсіх у раёне цікавілася працай нашай кнігарні, я выбрала цудоўную кнігу Зіновія Прыгодзіча “Постаці”. Для большай каштоўнасці падарунка задумала сабраць усе аўтографы герояў гэтай кнігі. Памятаю, ішоў мокры снег, на вуліцу было не выйсці, а я ў гэты час ужо размаўляла з Міхасём Дрынеўскім! Потым дайшла да Івана Міско, Георгія Паплаўскага, Леаніда Захлеўнага, Міхася Міцкевіча… Міхась Канстанцінавіч незвычайны чалавек, ён можа шмат твораў Якуба Коласа прачытаць на памяць.

Некалькі гадоў таму ў “Акадэмкнізе” мы рабілі “каласавіны”, дзеля гэтага радыёфікавалі кнігарню. У той дзень на нашым радыё чыталі Коласавы вершы Валянціна Стэльмах і Алег Вінярскі. І калі ў залах гучалі радкі “Мой родны кут, як ты мне мілы…”, бачыла слезы на вачах у людзей. Тады мы зрабілі і падарункі нашым чытачам: “Новую зямлю” Якуба Коласа. Людзі здзіўляліся: “Няўжо бясплатна?” А мы адказвалі: “Сёння ж такі дзень!” І за два дні мы падаравалі чытачам больш як паўтысячы кніг.

А яшчэ пра аднаго чалавека хачу расказаць асобна. З Марыяй Захарэвіч я пазнаёмілася на прэзентацыі кніг В. Стэльмах у бібліятэцы імя Ф. Багушэвіча (народная артыстка Беларусі была адной з гераінь), потым мы сустрэліся з ёй на кніжнай выстаўцы, дзе яна чытала вершы Коласа і Купалы. Адтуль мы ішлі разам, і для мяне гэта была не дарога, а нейкі палёт!.. Мяне і цяпер хвалюе яе голас: як яна чытае, як выконвае свае ролі! І я падумала, што павінна знайсці тую зямлю, той дом, дзе яна нарадзілася. З гэтай думкай я жыла доўга, некалькі разоў перачытала кнігу “Нарачанская чайка” Уладзіміра Ліпскага, а потым цвёрда вырашыла паехаць у вёску Навасёлкі, што на Мядзельшчыне. З дапамогай добрых людзей знайшла той дом. З дазволу суседкі я падышла да хаты, села на лаўку, пасядзела крыху, абняла квітнеючыя піёны і выйшла за браму… Доўга гуляла па Навасёлках, пасля яшчэ раз вярнулася, абышла той дом, зрабіла шмат здымкаў. Назад у Мінск вярталася шчаслівая… Цяпер у мяне ёсць магчымасць пачуць голас Марыі Захарэвіч па тэлефоне — і гэта вялікае шчасце! Адпачынак у санаторыі “Прыазёрны” зноўку звёў мяне з Марыяй Георгіеўнай. Мы з адной жанчынай вырашылі наведаць той дом, зайшлі ў сад, прыбралі зламаную пасля бурану галінку вішні, пасядзелі на лаўцы і ўжо сабраліся ад’язджаць — а цераз дарогу ідзе Марыя Георгіеўна! Дарэчы, у Мінску ў кнігарні “Эўрыка” я скупіла ўсе кнігі “Нарачанская чайка” пра Марыю Захарэвіч, каб дарыць сябрам.

Прызнаюся: у мяне патрэбнасць ведаць людзей, іх душы, характары. Марыя Георгіеўна кажа: “Нашто той талент, калі няма сэрца” ці: “Што з чалавекам гаварыць, калі ў яго вочы пустыя”, і я з гэтым згодна. А той, хто пераадолеў над сабой, мае духоўную сілу. Я ганаруся тым, што Бог, лёс, бацькі і Кніга падрыхтавалі мяне да сустрэч са многімі цікавымі, таленавітымі, вельмі дастойнымі людзьмі. Можа, я ў сваім жыцці ўпусціла нейкае асабістае шчасце, але знаёмствы з вялікімі асобамі нашага часу лічу кампенсацыяй за тое, што не зрабіла для сябе.

Я часта думаю: а што будзе далей? Сёння такі час, калі распаўсюджваецца электронная інфармацыя. Але ж кнігу замяніць немагчыма, яна мае духоўную, жывую сутнасць. У яе ўкладзены думкі не толькі аўтара, але і мастака, іншых людзей, якія працавалі над ёю. Хачу, каб кніга жыла, каб ёй карысталіся. У Год кнігі шмат надавалася ёй увагі, але гэта трэба рабіць не толькі кожны год, але і кожны дзень! Хочацца, каб нашы пісьменнікі часцей выступалі на радыё і тэлебачанні; каб Дні пісьменства больш прадстаўлялі творцаў; каб выходзілі добрыя кнігі. А кніга — крыніца ўсяго, толькі чытай!

Многія мае знаёмыя здаюць кнігі ў букіністычныя кнігарні, а я ні адну туды не аддам. Яны ж пражылі са мной частку жыцця! Як жа ад іх адмаўляцца?..

Соф’я Антонаўна з лёгкасцю ўздыхнула: здаецца, сказала тое, што хацела. “Цяпер можна і адпачыць!” — усміхнулася яна. І пакуль мы атрымлівалі асалоду ад духмянай гарбаты, я запыталася, чым яна цяпер займаецца. Мая суразмоўца прызналася, што ёй спачатку было цяжка і балюча развітвацца з працай у кнігарні. І вось цяпер яна ходзіць у тэатры, канцэртныя залы, музеі, філармонію, наведвае музычную гасцёўню Тацціяны Старчанкі, слухае лекцыі вядомых мастацтвазнаўцаў Тацціяны і Алега Войстрахаў, бывае на прэзентацыях кніг, стараецца не прапускаць самага цікавага. А яшчэ яна вельмі любіць пешыя паходы, веласіпедныя прагулкі, паездкі за мяжу, вандроўкі па родным краі. Пры канцы размовы я пацікавілася ў Соф’і Антонаўны, што яна сёння чытае. Аказалася, перачытвае свайго (і майго) любімага Уладзіміра Караткевіча.

**Горбатова, Е. В.** Художественное развитие детей дошкольного возраста: (с электронным приложением): пособие для педагогов учреждений дошкольного образования / Е. В. Горбатова. — Минск: Адукацыя і выхаванне, 2012. — 71 с. + 1 электронно-оптический диск (CD-R). — 9050 экз. — ISBN 978-985-471-527-8. — ISBN 978-985-471-519-3 (отд. кн.). — ISBN 978-985-471-528-5 (CD-R).

**Дмитриева, В. Г.** Сказки в загадках: [для дошкольного возраста] / В. Дмитриева; [художники: И. Горбунова и др.]. — Москва: Астрель; Санкт-Петербург: Сова, 2012. — 127 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 7000 экз. — ISBN 978-5-271-41516-6 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1173-7 (Харвест) (в пер.).

**Дубініна, Д. М.** Свет вакол мяне: развіццёвае навучанне: вучэбны дапаможнік для выхаванцаў старшай ступені (ад пяці да шасці гадоў) устаноў, якія забяспечваюць атрыманне дашкольнай адукацыі, з беларускай і рускай мовамі навучання / Д. М. Дубініна. — 7-е выд. — Мінск: Нацыянальны інстытут адукацыі, 2012. — 64 с. — Частка тэксту паралельна на беларускай і рускай мовах. — 104200 экз. — ISBN 978-985-559-125-3.

**Дубініна, Д. М.** Свет вакол мяне: развіццёвае навучанне: рабочы сшытак : вучэбны дапаможнік для выхаванцаў старшай ступені (ад пяці да шасці гадоў) устаноў, якія забяспечваюць атрыманне дашкольнай адукацыі, з беларускай і рускай мовамі навучання / Д. М. Дубініна. — 7-е выд. — Мінск: Нацыянальны інстытут адукацыі, 2012. — 55 с. — Частка тэксту паралельна на беларускай і рускай мовах. — 104400 экз. — ISBN 978-985-559-126-0.

**Житко, И. В.** Веселые игры с числами и фигурами: учебное наглядное пособие для педагогов учреждений дошкольного образования / И. В. Житко. — 2-е изд. — Минск: Жасскон, 2012. — 64 с. — 1008 экз. — ISBN 978-985-6923-88-6 (ошибоч.).

**Житко, И. В.** 200 развивающих упражнений для подготовки ребенка к школе: практическое пособие: развитие речи: обучение грамоте: знакомство со звуком, слогом, словом, предложением: подготовка руки к письму: формирование представлений о многообразии окружающего мира, умения обобщать, классифицировать предметы и объекты / И. В. Житко, М. М. Ярмолинская. — Минск: ЮниПрессМаркет, 2012. — 78 с. — 5100 экз. — ISBN 978-985-560-122-8. — ISBN 978-985-562-122-8 (ошибоч.).

**Жукова, О. С.** Готов ли ребенок к школе?: большая книга игр, упражнений и тестов: [книжка с наклейками: 247 наклеек] / Олеся Жукова; [художники: Н. Дробот и др.]. — Москва: Астрель; Санкт-Петербург: Астрель-СПб, 2012. — 95 с. с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 7000 экз. — ISBN 978-5-271-42190-7 (Астрель). — ISBN 978-5-9725-2264-4 (Астрель-СПб). — ISBN 978-985-18-1305-2 (Харвест).

**Загадки обо всем:** [развивающее пособие для дошкольников]. — Минск: ЮниПрессМаркет, 2012. — 32 с. — 5100 экз. — ISBN 978-985-560-105-1.

**Изучаем математику:** развивающее пособие для дошкольников. — Минск: ЮниПрессМаркет, 2012. — 32 с. — 5100 экз. — ISBN 978-985-560-126-6.

**Красницкая, А. В.** Читаем после букваря. Про ребят и про зверят: развивающий курс: [шаг 1: для детей от 4 лет / Красницкая Анна Владимировна; художник — Е. А. Карпович]. — Минск: Попурри, 2012. — 16 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-15-1606-9.

**Красницкая, А. В.** Читаем после букваря. Про ребят и про зверят: развивающий курс: [шаг 2: для детей от 4 лет / Красницкая Анна Владимировна ; художник — Е. А. Карпович]. — Минск: Попурри, 2012. — 16 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-15-1607-6.

**Красницкая, А. В.** Читаем после букваря. Про ребят и про зверят: развивающий курс: [шаг 3: для детей от 4 лет / Красницкая Анна Владимировна; художник — Е. А. Карпович]. — Минск: Попурри, 2012. — 16 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-15-1608-3.

**Младший школьник.** Психологическая консультация / [авторы-составители: Е. А. Осипова, Н. А. Сакович, Е. В. Чуменко]. — Минск: Красико-Принт, 2012. — 90 с. — 1100 экз. — ISBN 978-985-405-685-2.

**Новиковская, О. А.** Как научиться быстро говорить от 1 года до 4 лет: развитие речи: звуки, слова, фразы: альбом / О. Новиковская; [художники: Л. Двинина и др.]. — Москва: Астрель; Санкт-Петербург: Сова, 2012. — 111 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 7000 экз. — ISBN 978-5-271-38558-2 (Астрель). — ISBN 978-985-18-0468-5 (Харвест) (в пер.).

**Середа, Е. В.** Музыкально-игровая деятельность в адаптационных детско-родительских группах: [методическое пособие для педагогов учреждений дошкольного образования] / Е. В. Середа. — Минск: Новое знание, 2012. — 143 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-475-499-4.

**Старжинская, Н. С.** Веселые игры для развития речи: учебное наглядное пособие для педагогов учреждений дошкольного образования / Н. С. Старжинская. — 2-е изд. — Минск: Жасскон, 2012. — 59 с. — 1008 экз. — ISBN 978-985-6923-87-9 (ошибоч.).

**Старжинская, Н. С.** Развитие речи и общения у детей дошкольного возраста: пособие для педагогов учреждений дошкольного образования / Н. С. Старжинская, Д. Н. Дубинина. — Минск: Адукацыя і выхаванне, 2012. — 119 с. — 9050 экз. — ISBN 978-985-471-520-9.

**Стреха, Е. А.** Ознакомление детей дошкольного возраста с природой: пособие для педагогов учреждений дошкольного образования / Е. А. Стреха. — Минск: Народная асвета, 2012. — 63 с. — 9447 экз. — ISBN 978-985-03-1857-2.

**Тесты для подготовки ребенка к школе.** — Минск: ЮниПрессМаркет, 2012. — 64 с. — 5100 экз. — ISBN 978-985-560-098-6.

**30 занятий для развития ребенка.** — Минск: ЮниПрессМаркет, 2012. — 32 с. — 5100 экз. — ISBN 978-985-560-133-4.

**Узорова, О. В.** 100 познавательных текстов для обучения детей чтению: [начальное обучение] / О. В. Узорова, Е. А. Нефедова. — Москва: АСТ: Астрель, 2012. — 95 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 4000 экз. — ISBN 978-5-17-001196-4 (АСТ). — ISBN 978-5-271-06002-1 (Астрель). — ISBN 978-985-16-7615-2 (Харвест).

**Учимся писать.** — Минск: ЮниПрессМаркет, 2012. — 32 с. — 5100 экз. — ISBN 978-985-560-131-0.

**Ходонович, Л. С.** Веселые игры с музыкальными звуками и инструментами: учебное наглядное пособие для педагогов учреждений дошкольного образования / Л. С. Ходонович. — 2-е изд. — Минск: Жасскон, 2012. — 39 с. — 508 экз. — ISBN 978-985-6923-91-6 (ошибоч.).

**Ходонович, Л. С.** Музыкальная мозаика: учебное наглядное пособие для педагогов учреждений дошкольного образования / Л. С. Ходонович. — 2-е изд. — Минск: Жасскон, 2012. — 55 с. — 508 экз. — ISBN 978-985-6923-96-1 (ошибоч.).

**Шишкина, В. А.** Физкультурная мозаика: учебное наглядное пособие для педагогов учреждений дошкольного образования / В. А. Шишкина. — 2-е изд. — Минск: Жасскон, 2012. — 55 с. — 508 экз. — ISBN 978-985-6923-97-8 (ошибоч.).

## ПАЧАТКОВАЯ ШКОЛА. СЯРЭДНЯЯ ШКОЛА

**Буткевич, В. В.** Мое Отечество: пособие для педагогов учреждений общего среднего образования / В. В. Буткевич, О. В. Толкачева. — Минск: Национальный институт образования, 2012. — 223 с. — Часть текста на белорусском языке. — 2900 экз. — ISBN 978-985-559-135-2.

**Валочка, Г. М.** Беларуская мова: 8—11-я класы: тэставыя работы: дапаможнік для настаўнікаў устаноў агульнай сярэдняй адукацыі з беларускай і рускай мовамі навучання / Г. М. Валочка, В. У. Зелянко; Нацыянальны інстытут адукацыі. — Мінск: Аверсэв, 2012. — 158 с. — 3100 экз. — ISBN 978-985-19-0333-3.

**Внеклассные мероприятия по иностранному языку** / [авторы-составители: Л. В. Сошнева, Н. В. Матюш]. — Минск: Красико-Принт, 2012. — 126 с. — 1200 экз. — ISBN 978-985-405-679-1.

**Вучэбныя праграмы для ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі з беларускай мовай навучання:** 1—4-я класы / Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. — Мінск: Нацыянальны інстытут адукацыі, 2012. — 245 с. — Частка тэксту на рускай мове. — 4600 экз. — ISBN 978-985-559-130-7.

**Высоцкая, Н. М**. Тетрадь для проведения стимулирующих занятий по математике: 2-й класс / Н. М. Высоцкая, И. Г. Волчек. — Мозырь: Образовательная компания «Содействие», 2012. — 98 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-520-589-1.

**Гінчук, В. В.** Гісторыя Беларусі: тэставыя і рознаўзроўневыя заданні: 10—11-ы класы: дапаможнік для настаўнікаў устаноў агульнай сярэдняй адукацыі з беларускай і рускай мовамі навучання / В. В. Гінчук; Нацыянальны інстытут адукацыі. — Мінск: Сэр-Вит, 2012. — 109 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-419-665-7.

**Гинчук, В. В.** Обществоведение в 11 классе: учебно-методическое пособие для учителей учреждений общего среднего образования с белорусским и русским языками обучения / В. В. Гинчук. — Минск: Народная асвета, 2012. — 158 с. — 2977 экз. — ISBN 978-985-03-1855-8.

**Гирина, В. Н.** Обществоведение в 10 классе: учебно-методическое пособие для учителей учреждений общего среднего образования с белорусским и русским языками обучения / В. Н. Гирина, Е. И. Снопкова, Е. И. Шалашкевич. — Минск: Народная асвета, 2012. — 174 с. — 2869 экз. — ISBN 978-985-03-1836-7.

**Данилович, С. А.** Человек и мир: тесты: 1-й класс / С. А. Данилович. — Минск: Харвест, 2012. — 158 с. — Издано при участии ООО «Попурри» (Минск). — 3500 экз. — ISBN 978-985-18-1380-9.

**Жукава, С. А.** Беларуская мова на «выдатна»: 2-гі клас: трэнажор / С. А. Жукава. — 2-е выд., перапрацаванае і дапоўненае. — Мазыр: Образовательная компания «Содействие», 2012. — 62 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-520-595-2.

**Іванова, А. М.** Тэматычныя распрацоўкі ўрокаў па беларускай мове-1: 2-гі клас / А. М. Іванова, Н. Г. Канюшкевіч. — 2-е выд. — Мазыр: Образовательная компания «Содействие», 2012. — 100 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-520-594-5.

**Казак, Т. В.** Тематические разработки уроков по литературному чтению-1: 4-й класс / Т. В. Казак. — 2-е изд. — Мозырь: Образовательная компания «Содействие», 2012. — 211 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-520-593-8.

**Карлионова, Н. В.** Методические рекомендации по проведению внешкольных занятий «Птицы Туровского луга и открытых пойменных лугов реки Припять» / Н. В. Карлионова, И. М. Зенина, Е. С. Ясевич; [фото Г. Гулевского и др.]. — Минск, 2012. — 24 с. — 299 экз.

**Кірылава, Р. А.** Планы-канспекты ўрокаў па літаратурным чытанні: 3-ці клас: кніга для настаўнікаў устаноў агульнай сярэдняй адукацыі з рускай мовай навучання / Р. А. Кірылава. — 5-е выд. — Мазыр: Белы Вецер, 2012. — 110 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-538-735-1.

**Косаревская, Т. П.** Проверяем домашние задания. Алгебра: 8-й класс: к учебному пособию «Алгебра. 8» / Е. П. Кузнецова [и др.]. Нар. асвета, 2010 г. / Т. П. Косаревская. — 3-е изд. — Минск: Сэр-Вит, 2012. — 284 с. — 5100 экз. — ISBN 978-985-419-653-4.

**Латотин, Л. А.** Математика в 8 классе: учебно-методическое пособие для учителей учреждений общего среднего образования с белорусским и русским языками обучения / Л. А. Латотин, Б. Д. Чеботаревский. — Минск: Адукацыя і выхаванне, 2012. — 255 с. — 1450 экз. — ISBN 978-985-471-499-8.

**Ляликова, М. Г.** Тематические разработки уроков по русскому языку-1: 4-й класс / М. Г. Ляликова, Т. В. Казак. — Мозырь: Образовательная компания «Содействие», 2012. — 218 с. — 700 экз. — ISBN 978-985-520-609-6.

**Мациевская, С. В.** Научно-методические основы обучения школьников пению: монография / С. В. Мациевская, А. Б. Нижникова, Т. В. Сернова. — Минск: Бестпринт, 2012. — 149 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-6873-49-5.

**Методика преподавания русского языка в начальных классах:** методические рекомендации / Министерство образования Республики Беларусь, Витебский государственный университет им. П. М. Машерова, Кафедра дошкольного и начального образования ; [автор-составитель: Т. А. Ковалевская]. — Витебск: ВГУ, 2012. — 50 с. — 75 экз.

**Молибошко, Т. А.** Биология в 8 классе: учебно-методическое пособие для учителей учреждений общего среднего образования с белорусским и русским языками обучения / Т. А. Молибошко, О. Н. Рогожников. — Минск: Народная асвета, 2012. — 149 с. — 3218 экз. — ISBN 978-985-03-1844-2.

**Начальная школа:** 1-й класс: примерное календарно-тематическое планирование: пособие для учителей учреждений общего среднего образования с русским языком обучения: [2012/2013 учебный год / О. И. Тиринова и др.]; Министерство образования Республики Беларусь. — Минск: Национальный институт образования: Аверсэв, 2012. — 270 с. — 4100 экз. — ISBN 978-985-559-091-1 (Национальный институт образования). — ISBN 978-985-19-0143-8 (Аверсэв).

**Начальная школа:** 2-й класс: примерное календарно-тематическое планирование: пособие для учителей учреждений общего среднего образования с русским языком обучения: [2012/2013 учебный год / М. Б. Антипова и др.]; Министерство образования Республики Беларусь. — Минск: Национальный институт образования: Аверсэв, 2012. — 176 с. — Часть текста на белорусском языке. — 4100 экз. — ISBN 978-985-559-092-8 (Национальный институт образования). — ISBN 978-985-19-0144-5 (Аверсэв).

**Начальная школа:** 3-й класс: примерное календарно-тематическое планирование: пособие для учителей учреждений общего среднего образования с русским языком обучения: [2012/2013 учебный год / Е. С. Грабчикова и др.]; Министерство образования Республики Беларусь. — Минск: Национальный институт образования: Аверсэв, 2012. — 170 с. — 4100 экз. — ISBN 978-985-559-093-5 (Национальный институт образования). — ISBN 978-985-19-0145-2 (Аверсэв).

**Нерад, Е. Е.** Почитай, подумай, угадай: пособие для формирования навыка чтения / Е. Е. Нерад. — Мозырь: Образовательная компания «Содействие», 2012. — 123 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-520-607-2.

**Нескучная экономия:** школьный проект использования ресурсов и энергии / [Центр экологических решений; в подготовке принимал участие Пастарнак Валерий Чеславович]. — 2012 — 72 с. — 300 экз.

**Пачатковая школа:** 1-шы клас: прыкладнае каляндарна-тэматычнае планаванне: дапаможнік для настаўнікаў устаноў агульнай сярэдняй адукацыі з беларускай мовай навучання: [2012/2013 навучальны год / В. І. Цірынава і інш.]; Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. — Мінск: Нацыянальны інстытут адукацыі: Аверсэв, 2012. — 175 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-559-095-9 (Нацыянальны інстытут адукацыі). — ISBN 978-985-19-0147-6 (Аверсэв).

**Пачатковая школа:** 2-гі клас: прыкладнае каляндарна-тэматычнае планаванне: дапаможнік для настаўнікаў устаноў агульнай сярэдняй адукацыі з беларускай мовай навучання: [2012/2013 навучальны год / Л. Ф. Леўкіна і інш.]; Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. — Мінск: Нацыянальны інстытут адукацыі: Аверсэв, 2012. — 191 с. — Частка тэксту на рускай мове. — 1500 экз. — ISBN 978-985-559-096-6 (Нацыянальны інстытут адукацыі). — ISBN 978-985-19-0148-3 (Аверсэв).

**Пачатковая школа:** 3-ці клас: прыкладнае каляндарна-тэматычнае планаванне: дапаможнік для настаўнікаў устаноў агульнай сярэдняй адукацыі з беларускай мовай навучання : [2012/2013 навучальны год / В. П. Красней і інш.]; Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. — Мінск: Нацыянальны інстытут адукацыі: Аверсэв, 2012. — 185 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-559-097-3 (Нацыянальны інстытут адукацыі). — ISBN 978-985-19-0149-0 (Аверсэв).

**Планы-канспекты ўрокаў па беларускай мове:** 8-мы клас: дапаможнік для настаўнікаў агульнаадукацыйных устаноў / [М. І. Дрык і інш.]. — 2-е выд. — Мазыр: Белы Вецер, 2012—

1-е паўгоддзе. — 2012. — 98 с. — 2013 экз. — ISBN 978-985-538-732-0.

**Правяраем дамашнія заданні. Беларуская мова:** 6-ты клас: каментарыі да практыкаванняў вучэбнага дапаможніка «Беларуская мова» для 6-га класа агульнаадукацыйных устаноў з беларускай і рускай мовамі навучання, 2009 (аўтары: В. П. Красней, Я. М. Лаўрэль, С. Р. Рачэўскі) / [складальнік С. І. Цыбульская]. — 3-е выд., выпраўленае. — Мінск: Сэр-Віт, 2012. — 225 с. — 4000 экз. — ISBN 978-985-419-656-5.

**Русский язык. Обучающие и контрольные изложения:** 5—9-е классы: пособие для учителей учреждений общего среднего образования с белорусским и русским языками обучения / [Л. А. Мурина и др.]; Национальный институт образования. — Минск: Народная асвета, 2012. — 158 с. — 3400 экз. — ISBN 978-985-03-1835-0.

**Секацкая, К. И.** История Средних веков: XIV—XV вв.: 7-й класс: поурочные разработки: [к учебному пособию «История Средних веков: XIV—XV вв.» для 7-го класса (под редакцией В. А. Федосика)] / К. И. Секацкая, В. А. Федосик. — 2-е изд. — Минск: Аверсэв, 2012. — 140 с. — 1100 экз. — ISBN 978-985-533-158-3.

**Социализация ребенка. Взаимодействие школы и семьи** / [авторы-составители: В. Е. Шиковец, Е. Н. Пархоць, В. И. Давыдова]. — Минск: Красико-Принт, 2012. — 126 с. — 1300 экз. — ISBN 978-985-405-686-9.

**Стремок, И. М.** Литературное чтение: 3-й класс: контроль навыка чтения и читательских умений учащихся: пособие для учителей учреждений общего среднего образования с русским языком обучения / И. М. Стремок; Национальный институт образования. — Минск: Аверсэв, 2012. — 61 с. — 3100 экз. — ISBN 978-985-19-0381-4.

**Стремок, И. М.** Литературное чтение: 4-й класс: контроль навыка чтения и читательских умений учащихся: пособие для учителей учреждений общего среднего образования с русским языком обучения / И. М. Стремок; Национальный институт образования. — Минск: Аверсэв, 2012. — 64 с. — 3100 экз. — ISBN 978-985-19-0382-1.

**Стремок, И. М.** Литературное чтение: тематический и итоговый контроль: 3-й класс учреждений общего среднего образования с русским языком обучения / И. М. Стремок. — 4-е изд. — Минск: Пачатковая школа, 2012. — 54 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-6988-52-6.

**Стремок, И. М.** Литературное чтение: тематический контроль : 2-й класс учреждений общего среднего образования с русским языком обучения / И. М. Стремок. — 3-е изд. — Минск: Пачатковая школа, 2012. — 63 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-6988-51-9.

**Стреха, Н. Л.** География материков и стран в 9 классе : учебно-методическое пособие для учителей учреждений общего среднего образования с белорусским и русским языками обучения / Н. Л. Стреха, Н. В. Науменко. — Минск: Народная асвета, 2012. — 133 с. — 3180 экз. — ISBN 978-985-03-1854-1.

**Тематические разработки уроков по математике:** 3-й класс: в 2 ч. / [В. И. Павловская и др.]. — 2-е изд. — Мозырь: Образовательная компания «Содействие», 2012— — ISBN 978-985-520-592-1.

Ч. 1. — 2012. — 214 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-520-591-4.

**Тематические разработки уроков по русскому языку:** 3-й класс: в 2 ч. / [Н. Г. Конюшкевич и др.]; под редакцией Н. Г. Конюшкевич, С. С. Ковалевской, С. Я. Кострицы. — 3-е изд. — Мозырь: Образовательная компания «Содействие», 2012— — ISBN 978-985-520-541-9.

Ч. 1. — 182 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-520-596-9.

**Трафімчык, Т. У.** Навучанне лірыцы праз творчасць на занятках літаратурнага гуртка: дапаможнік па тэхніцы вершаскладання / Т. У. Трафімчык; Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт ім. Янкі Купалы. — Гродна: ГрДУ, 2012. — 82 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-515-566-0.

**Учебная программа для учреждений общего среднего образования с русским языком обучения** / Министерство образования Республики Беларусь. — Минск: Национальный институт образования, 2007—

Иностранные языки: английский, немецкий, французский, испанский, китайский: 3—11-е классы. — 2012. — 130 с. — 5500 экз. — ISBN 978-985-559-127-7.

**Учебные программы для учреждений общего среднего образования с русским языком обучения:** 1—4-е классы / Министерство образования Республики Беларусь. — Минск: Национальный институт образования, 2012. — 238 с. — Часть текста на белорусском языке. — 7000 экз. — ISBN 978-985-465-991-6.

**Физика: 6—9-е классы: контрольные и самостоятельные работы:** пособие для учителей общего среднего образования с белорусским и русским языками обучения / [Л. А. Исаченкова и др.]; Национальный институт образования. — Минск: Аверсэв, 2012. — 221 с. — 3100 экз. — ISBN 978-985-19-0063-9.

**Физика: 10—11-е классы: контрольные и самостоятельные работы:** пособие для учителей общего среднего образования с белорусским и русским языками обучения / [В. В. Жилко и др.]; Национальный институт образования. — Минск: Аверсэв, 2012. — 128 с. — 3100 экз. — ISBN 978-985-19-0383-8. — ISBN 978-985-19-0393-8 (ошибоч.).

**Филимонов, А. И.** Всемирная история Нового времени XIX — начало XX в.: 9-й класс: тестовые и разноуровневые задания: пособие для учителей учреждений общего среднего образования с белорусским и русским языками обучения / А. И. Филимонов, Е. М. Авласцова; Национальный институт образования. — Минск: Сэр-Вит, 2012. — 63 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-419-661-9.

**Царева, О. И.** Русская литература. Задания для тематического и итогового контроля: 5—9-е классы: пособие для учителей учреждений общего среднего образования с белорусским и русским языками обучения / О. И. Царева, С. Н. Захарова, Е. А. Темушева; Национальный институт образования. — Минск: Народная асвета, 2012. — 157 с. — 3400 экз. — ISBN 978-985-03-1753-7.

**Цірынава, В. І.** Уводзіны ў школьнае жыццё: вучэбна-метадычны дапаможнік для настаўнікаў устаноў агульнай сярэдняй адукацыі з беларускай мовай навучання / В. І. Цірынава. — Мінск: Аверсэв, 2012. — 335 с. — 1100 экз. — ISBN 978-985-19-0360-9.

**Чеботаревская, Т. М.** Математика во 2 классе: учебно-методическое пособие для учителей учреждений общего среднего образования с белорусским и русским языками обучения / Т. М. Чеботаревская, В. В. Николаева. — 4-е изд., пересмотренное и дополненное. — Минск: Народная асвета, 2012. — 189 с. — 2228 экз. — ISBN 978-985-03-1845-9.

# Слова пра класіка

*ДА 90-ГОДДЗЯ АЛЕНЫ ВАСІЛЕВІЧ*

Алена Сямёнаўна Васілевіч нарадзілася 22 снежня 1922 г. у засценку Даманшчына (цяпер вёска Ліпнікі) Слуцкага раёна. Вучылася ў Слуцкім педагагічным вучылішчы, скончыла літаратурны факультэт настаўніцкага інстытута ў Рагачове, потым — філфак БДУ. Колькі часу жыла ў Расіі, у Курску (1946 — 1950). Пераехаўшы ў Мінск, загадвала аддзелам культуры часопіса "Работніца і сялянка" (1950 — 1972), працавала ў выдавецтвах "Мастацкая літаратура" і "Юнацтва". Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі за кнігу аповесцей "Пачакай, затрымайся…" (1976). Аўтар шматлікіх кніг апавяданняў, аповесцей, нататкаў і эсэ.



**Таццяна СТУДЗЕНКА**

За скупымі біяграфічнымі звесткамі — Жыццё, насычанае шматлікімі падзеямі, інтэнсіўнымі пачуццямі. Падзеямі шчаслівымі (вучоба, каханне, сяброўства, творчасць, дзеці, ўнукі…) і падзеямі трагічнымі (ранняя страта бацькоў, вайна). Пра ўсё гэта — яе творы, аздобленыя непаўторнай інтанацыяй, калі пра самыя сур'ёзныя рэчы распавядаецца нібы мімаходзь і ў той жа час неяк асабліва пранікнёна, шчымліва-кранальна.

Тэтралогія аповесцей "Пачакай, затрымайся…" — з тых твораў пра дзяцей і для дзяцей, якія не толькі цікава чытаць дарослым. Яны вартыя ўшанавання як сімвалы нацыянальнага быцця і характару, як найбольш шчырае — бо непасрэднае, "дзіцячае" — увасабленне супярэчнасцей вызначальнага перыяду гісторыі краіны. Прыкладаў такіх тэкстаў увогуле ў літаратуры няшмат, але ў пантэоне нацыянальных літаратур і культур яны займаюць надзвычай пачэснае месца. "Прыгоды Тома Соера", "Прыгоды Гекльберы Фіна" Марка Твэна — увасобленая паэзія быцця "аднапавярховай" Амерыкі, азмрочаная нацыянальнай трагедыяй рабаўласніцтва. "Дзяцінства Чыка" Фазіля Іскандэра — "вестка" шырокаму свету пра чароўную краіну Абхазію і, разам з тым, "вестка" свету даросламу пра чуласць і багацце дзіцячай душы. А незабыўны горкаўскі аўтабіяграфічны цыкл!..

Карыстаючыся юбілейнай нагодай, хацелася б прыцягнуць увагу да гэтай традыцыі, каб уключэнне ў яе твораў Алены Васілевіч спрыяла свядомаму асэнсаванню спадчыны беларускай пісьменніцы. Дзіўна, але ў вялікім стосе нататкаў пра яе (юбілейных артыкулах, прадмовах да кніг, адпаведных раздзелах літаратурнай гісторыі Беларусі і г. д.) не знойдзеш параўнальнага кантэксту. За разнастайнай насычанасцю "бягучага" літаратурнага працэсу выкладчыкі, асабліва маладыя, часам свядома ахвяруюць "сталай", прызнанай літаратурай.

Што датычыць усведамлення трылогіі "Пачакай, затрымайся…" у рэчышчы айчыннай класічнай літаратуры, назавём толькі маленькі шэраг адпаведнасцей: "Яна і Я" Янкі Купалы, "Новая зямля" Якуба Коласа, "Камароўская хроніка" М. Гарэцкага, "Палеская хроніка" І. Мележа… Аснова блізкасці ўсіх гэтых твораў — заглыбленне-замацаванне ў свядомасці і, значыць, у рэальнасці тых феноменаў нацыянальнага быцця і быту, якія "зыходзяць". Акцэнт на іх, найбольш поўнае і грунтоўнае ўсведамленне — шлях да яднання-злучэння Беларусі, што "заходзіць" і што "прыходзіць".

# «Полымя» паўстагоддзя таму

Што робіць літаратурны часопіс добрым літаратурным часопісам? Стыльная вокладка? Так. Арыгінальны дызайн і вёрстка? Безумоўна, часопіс мусіць быць "прывабным" і пазнавальным. Разнастайнасць рубрык? Таксама. Традыцыя? Пажадана. Добры тыраж? О! Гэта "крышталёвая мара" любога рэдактара. Але перш-наперш — змест. Таленавітыя творы. Глыбокая крытыка. Якасныя пераклады. Актуальныя рэцэнзіі.




**Наста ГРЫШЧУК**

Складана дасягнуць поспехаў па ўсіх пералічаных параметрах. Але магчыма. Прынамсі, часопіс "Полымя" ў 1960-я гады наблізіўся да ідэалу. То былі часы, калі свет скарыла ўсмешка Юрыя Гагарына і ўсе хлапчукі марылі стаць касманаўтамі. Калі "халодная вайна" ператварылася ў адзін вялізны напяты нерв. Калі "хрушчоўская адліга" плаўна перацякла ў эпоху "брэжнеўскага застою". Цудоўны быў час, адным словам.

Тады, на пачатку 60-х, Максіму Танку, рэдактару часопіса "Полымя", было крыху за 50 гадоў. У рэдакцыйную калегію ўваходзілі Пятрусь Броўка, Янка Брыль, Кандрат Крапіва, Аркадзь Куляшоў, Ян Скрыган, Іван Шамякін і інш. Пад такім кіраўніцтвам часопіс проста не мог ператварыцца ў безгустоўнае, шэранькае, нікім не чытаемае выданне. І сапраўды, усё было пры ім: вытрыманы стыль, патрэбныя раздзелы (уласна мастацкія творы, пераклады, "Успаміны, дзённікі, дакументы", "Нарысы", "Крытыка і літаратуразнаўства", "Культура мовы", "Мастацтвазнаўства", "Бібліяграфія" з падраздзелам "Кароткія рэцэнзіі", "Публіцыстыка"), добры для літвыдання тыраж у 4,5 тысячы экзэмпляраў, 20-гадовы жыццёвы стаж. І змест — скарбніца.

Да таго часу пытаннямі мовы займаліся не тое каб выпадковыя людзі, але не спецыялісты. Часцей за ўсё пэўныя праблемы вывучалі пісьменнікі, якія той жа мовай і карысталіся, то бок падыходзілі да справы з практычнага пункту гледжання. А ў 1960-я справа пайшла на лад. З'явіліся знакавыя ў лігвістыцы працы Ф. Янкоўскага "Пытанні культуры мовы" (1961) і М. Цікоцкага "Практычная стылістыка беларускай мовы" (1962), пра што пісалі ў "Полымі". Друкаваліся ў часопісе і навуковыя артыкулы, у якіх літаральна на вачах чытачоў адбывалася развіццё і станаўленне сучаснай беларускай мовы. Так, Анатоль Клышка піша пра дзеепрыметнік, які "ўсё ніяк не можа атайбавацца ў беларускай мове, хоць дзе-хто сёння спрабуе нават выдаць яго за тубыльца". На старонках "Полымя" літаральна "ўзаконьваюцца" дзеяслоўныя формы "бераце", "несяце" і г. д. замест русіфікаваных "бярэце", "нясеце" і г. д. (Рыгор Клюсаў, "Новыя працы па беларускай стылістыцы і культуры мовы", 1963, № 2).

Што ўжо казаць пра мастацкую літаратуру, калі пісалі маладыя і таленавітыя Уладзімір Караткевіч, Васіль Быкаў, Вячаслаў Адамчык, Сяргей Грахоўскі, Эдзі Агняцвет.

Саднела яшчэ ў памяці Вялікая Айчынная вайна. Мінула з таго часу 20 гадоў, але што такое 20 гадоў? Нават калі прыкласці іх да чалавечага жыцця. Вось, прыкладам, мне — 20. І сказаць я магу, што гэта ўсяго нічога, быццам некалькі даўгіх дзён, за якія я вырасла, скончыла школу і амаль — універсітэт. Драбяза. Не пазагойваліся яшчэ страшныя раны ў душах людзей.

*Колькі ў сэрцы нянавісці, гневу колькі*
*Да страшэннай вайны —*
*праз жыццё пранясу,*
*Не прымаць каб дзецям расу за асколкі*
*І асколкі — за ранішнюю расу.*

(Раман Тармола, "Балада", 1963, № 2.)

Пісалі, канечне, пра космас. Часткова таму, што першы касмічны палёт чалавека ўсхваляваў пісьменніцкую фантазію, часткова таму, што "касмічнасць" пакрысе ператваралася ў абавязковы складнік савецкай ідэалогіі.

*І жыве надзея: смелы тата*
*Прывязе букет ёй зорны з космасу.*

(Кастусь Шавель, "Чаканне", 1963, № 2.)

Сродкамі літаратурнага слова вялася тады барацьба за камунізм і супраць капіталізму. Вельмі яскравы ў гэтым плане нарыс Васіля Гаўрылюка "Трохі пра Нью-Йорк", надрукаваны ў № 2 "Полымя" за 1963 год. У яго бачанні памянёны горад паўстае пачварай, якой незнаёма нішто чалавечнае, якая праглыне любога. Вінаваты, вядома ж, капіталізм. Нарыс падаецца як турыстычная замалёўка, але ў ім празрыста бачная камуністычная ідэалогія. "Яму (капіталу — **Н. Г.**) усё роўна, што ты за чалавек — дзялок, святоша ці гангстар. Ты толькі купі, толькі аддай грошы. Бяры любы тавар. З меркаваннямі маралі або грамадскай бяспекі тут не лічацца. Таму на прылаўках побач ляжаць Біблія і парнаграфічныя адкрыткі, дзіцячыя соскі і кастэт". Асабліва смешна чытаць пра гэта сёння, калі ўсе пералічаныя аўтарам ганебныя з'явы сталі для нас штодзённай рэальнасцю.

Вернемся ў 1963 год. Ужо згаданы № 2. І ў ім — нарыс Уладзіміра Караткевіча "Казкі Янтарнай краіны". Фармальна гэта турыстычныя замалёўкі. Фактычна — шэдэўр прыгожага пісьменства. Уладзімір Сямёнавіч апісаў Латвію як краіну казачную, гераічную, Янтарную, ды і як яшчэ мог падзяліцца сваімі ўражаннямі вялікі рамантык. Ён праз алегорыю і тры ім складзеныя казкі вымалеваў гісторыю краіны, ды так, што чытач проста не можа не закахацца ў Латвію. Пры ўсёй мастацкасці і іншасказальнасці Караткевіч насыціў нарыс багатым фактычным матэрыялам: назвы гарадоў і мястэчак, апісанне Рыгі, заняткі насельніцтва, гістарычныя помнікі, звычаі і абрады. Нават журналістаў паспеў аблаяць: "Няма на іх упыну. Іхняе начальства, відаць, цвёрда перакананае, што журналісты дзейсна памагаюць там, дзе прарыў, дзе гарачая пара. І вось сотні дзядзькоў з фотаапаратамі блытаюцца ў нагах людзей, якія працуюць, і бадзёра кідаюцца туды, дзе і без іх шмат лайдакоў…" Хораша.

А якімі людзьмі ў апісанні Уладзіміра Сямёнавіча паўстаюць латышы! "Латышскія мужчыны — гэта верныя вочы і верны меч, гэта розум і крыштальная чысціня. А латышскія жанчыны — гэта янтарная казка, гэта прыгажосць і верная, вечная любоў… А латышскія дзеці! Дзеці ўсюды прыгожыя, але такіх прыгожых дзяцей, як там, мне, бадай, і не даводзілася бачыць". Вядома, гэта вобраз ідэалізаваны, а ўсё ж.

З 1960-х мінула амаль паўстагоддзя. А крытэрыі, па якіх вызначаецца ўзровень літаратурнага часопіса, не змяніліся. Цікава, што ў 2062 годзе скажуць пра сучасныя "Полымя", "Нёман", "Маладосць"? І ці будуць яны яшчэ існаваць?

Гэта, спадарства, залежыць ад нас.

# Пад вокладкай

**Марына ВЕСЯЛУХА**

**Сапожков, Ю. М. Меж духом и словом / Юрий Сапожков. — Минск: Літаратура і Мастацтва, 2012. — 272 с.**




У той час як некаторыя скептыкі сцвярджаюць адсутнасць прафесійнай беларускай літаратурнай крытыкі і, імкнучыся запоўніць гэтую нібыта "лакуну", ствараюць уласныя літаратурна-крытычныя інтэрнэт-праекты, самі крытыкі (а яны ўсё ж існуюць) працягваюць актыўна працаваць. Доказам таму — "Сапраўдныя хронікі Поўні" Ірыны Шаўляковай, "Пясочны гадзіннік" Лады Алейнік, "Сыс і кулуары" Леаніда Галубовіча… Гэты спіс не так даўно папоўніла і новая кніга Юрыя Сапажкова. Гэтым разам у цэнтры ўвагі рэдактара аддзела паэзіі часопіса "Нёман" апынулася творчасць Івана Лагвіновіча, Міколы Кандратава, Рамана Ярохіна, Ірыны Масляніцынай і Міколы Багадзяжа, а таксама многіх іншых пісьменнікаў.

**Доўнар, В. А. Каб сказаць… І пачулі / Валянціна Доўнар. — Мінск: Харвест, 2012. — 448 с.**




"Што маё? Дзень, ноч, тыдзень, месяц, ды што там — часам… гадамі, насіцца з нейкімі думкамі, шукаць самыя дакладныя словы, каб выказаць — на старонках газеты. Ці во — нават кнігі", — так разважае ў прадмове да гэтага незвычайнага выдання сама аўтарка. І сапраўды, прафесія журналіста — а Валянціна Аркадзьеўна ўжо шмат год працуе ў газеце "Звязда" — вымагае павагі да слова. Каб было зразумела, дакладна, ёміста, і галоўнае, каб прачыталі і… пачулі голас аўтара. Асабліва гэта важна, калі справа датычыць не проста будзённых матэрыялаў (і іх пішаш з душой), але ўласных назіранняў, замалёвачак, мініяцюр. Думаецца, гэтую кнігу сапраўды "пачуюць". Яе можна чытаць з любой мініяцюры, разгарнуўшы на любой старонцы. А тады — усміхацца ці сумаваць разам з героямі, назіраць за светам вачыма аўтаркі.

**Шаланда, А. Сімвалы і гербы зямель Беларусі ў X — XVIII стст. / А. Шаланда. — Мінск: Беларуская навука, 2012. — 182 с.**




Герб з'яўляецца вельмі каштоўнай, а часам нават і адзінай крыніцай для многіх галін гістарычнай навукі, асабліва такіх, як палітычная гісторыя, генеалогія, дэмаграфія пануючага саслоўя. Без даследавання гербаў немагчыма поўнае асвятленне гісторыі грамадскай свядомасці і сацыяльнай псіхалогіі эпохі, якая вывучаецца. А яшчэ даследаванне гербаў — гэта вельмі цікава, займальна, карысна. Таму не дзіўна, што манаграфія кандыдата гістарычных навук Аляксея Шаланды прысвечана менавіта гербам. Тут даследуюцца сімволіка і геральдыка полацкіх дзяржаўных утварэнняў, вытокі і складванне герба "Пагоня", гербы на харугвах беларуска-літоўскага войска ў бітве пад Грунвальдам 1410 года, "гербавыя войны" паміж ВКЛ і Польшчай напярэдадні і пасля заключэння Люблінскай уніі 1569 года.

***Водгукі дасылайце на электронны адрас аўтара: himarina@tut.by***

**Кнігі для агляду прадастаўлены магазінам "Кніжны салон". Тэл.: 385-60-89.**

Віктар СУПРУНЧУК

# Для цябе я гатовы на ўсё…

## Апавяданне



Я стаяў на самым краі свету. За мной тырчэлі парослыя мохам вялізныя валуны, а трошкі далей чарнелі крывыя, нібы пагрызеныя, скалы. Мяне, нягледзячы на цёплы салдацкі бушлат, здавалася, наскрозь прапінаў шалёны вецер, які дзьмуў з мора, сыпаў салёныя крупы.

Я стаяў і плакаў. Мае слёзы змываў мокры вецер.

Нас не шмат на гэтым невялічкім востраве ў халодным, вельмі далёкім ад маёй вёскі, моры. Схаваўшыся за чорнай гарой, на якой махаюць крыламі лакатары, стаяць пяць зялёных домікаў і жоўты, відаць, каб было весялей, двухпавярховы барак. У доміках жывуць сем'і афіцэраў, у бараку — салдаты.

Мы — асобная рота. Кіламетры за два ад нас, таксама за гарой, — яшчэ адна асобная рота. І там некалькі домікаў і барак. Наш камандзір, высокі сівы маёр Кірылаў, — начальнік гэтага гарнізона. У яго ёсць намеснік — капітан Грызюк, шырокі, бы печ. У яго панылы твар і кароткая рудая барада. Ён адказвае за выхаваўчую работу з намі. Кожную нядзелю на другім паверсе барака капітан Грызюк сам паказвае нам кіно. Рэпертуар невялікі: "Чапаеў" альбо "Брыльянтавая рука".

Паглядзець кіно часам прыходзяць жонкі афіцэраў з дзецьмі. Тады зала поўная. Усе вольныя ад службы салдаты ідуць у кіно. Цяпер я разумею — каб паглядзець на прыгожых жанчын, па-святочнаму апранутых, ад якіх пахне парфумай. Чые галасы — нібы чароўная музыка. Звычайна мы бачым жонак афіцэраў ля іх дамкоў, у халатах ці спартыўных касцюмах.

У той дзень я сядзеў у зале зусім побач з жонкаю капітана Грызюка. Маё калена амаль даставала да яе спіны. Яна была ў белай сукенцы. На плячах — чырвоная кофтачка. Густыя чорныя валасы кучараваліся. І спускаліся ледзь не да падлогі. Так мне здавалася, бо праз хвіліну, як я сеў ззаду на крэсла, больш спачатку нічога не бачыў. Толькі яе белую, бы смятана, пакрытую чорнымі валасамі тонкую шыю.

Фільм скончыўся вельмі хутка. Я сядзеў бы ў гэтай зале яшчэ гадзіну, дзве, каб толькі бачыць перад сабой яе. Глядзеў бы, глядзеў… Але запалілася святло, і яны з суседкай, жонкай камандзіра ўзвода Дзеркуса, весела перамаўляючыся, рушылі на выхад у зялёнай плыні салдацкіх спін. Я чакаў, што яна азірнецца, зноў гляне на мяне сваімі вясёлымі вачыма-вугольчыкамі. Ніхто на мяне не паглядзеў. Настрой сапсаваўся адразу, і я, быццам у тумане, ішоў на вячэрнюю паверку, клаўся спаць. Нічога не чуў і не бачыў. У галаве, як у кіно, бясконца круціліся кадры з жонкаю капітана Грызюка.

Да арміі я нават не глядзеў на дзяўчат. Як казаў сусед з вёскі, дзед Мянтуз, яшчэ не паспеў. Мала з'еў кашы. Пры чым тут каша, хто яго ведае?

Я панура чысціў на кухні бульбу, не слухаючы, пра што гамоняць побач мае таварышы, не ўспрымаючы іхнія анекдоты, байкі. У галаве жыла толькі адна думка, якая варушыла маю істоту і ўдзень, і ўноч. Я падумаў, што так бывае ў людзей з не зусім здаровай псіхікай. Але ж адно — думаць пра кагосьці, і зусім іншае — пра сябе. Што я павінен рабіць, калі ўвесь час перад маімі вачыма Вольга Іванаўна, жонка капітана Грызюка? Яе чорныя валасы, пухлявыя вусны і бела-ружовая шыя…

Грукнулі дзверы, і на кухню заляцеў дзяжурны па роце, з парога ўжо закрычаў:

— Дубіцкі! Давай, хуценька да камандзіра роты.

Я нетаропка спаласнуў рукі, прывёў сябе ў парадак і пашыбаваў у канцылярыю. Не менш як паўгадзіны прастаяў, чакаючы, пакуль маёр Кірылаў скончыць размову па тэлефоне. Зрэшты, мне спяшацца няма куды.

Справа ад маёравага стала стаяў высокі, бы шафа, з вялізнай ручкай, жалезны сейф. Відаць, усе ведалі, што там камандзір роты трымае грошы — афіцэрскія і салдат. Гэта была гарнізонная каса, адкуль маёр Кірылаў адзін раз у месяц пад роспіс выдаваў наш заробак. Казалі, што ў гэтым сейфе некаторыя афіцэры трымалі свае грошы за некалькі гадоў, збіралі, каб паехаць з сем'ямі ў адпачынак на вялікую зямлю. На востраве была маленькая крама, у якой мы куплялі згушчанае малако, пячэнне, цыгарэты, цукеркі і рознаю дробязь. Кілбаса, сыр, прысмакі з'яўляліся там тады, калі раз у месяц з вялікай зямлі прыходзіў катар.

— Так, Дубіцкі, так, — адклеіў, нарэшце, сваё вуха ад тэлефона маёр Кірылаў. — Ты ж, здаецца, да арміі вучыўся на электрыка?

— Так точна!

— Значыцца, так, Дубіцкі. Пойдзеш да капітана Грызюка. Яго жонка Вольга Іванаўна цяпер дома. У іх нешта сапсавалася з электрычнасцю. Нейкая аварыя. Вольга Іванаўна скажа, што рабіць. Зразумеў?

—Зразумеў.

— Аддасі ёй гэты канверт, — маёр Кірылаў дастаў з шуфляды стала ключ, адамкнуў сейф і перадаў пухлявы канверт. — Глядзі, каб мне пасля не было сорамна…

Вольга Іванаўна стаяла на ганку і гаварыла з суседкай. На ёй быў чырвоны ў кветках, амаль да пят халат. Яна весела смяялася. Здзіўлена пагля дзела на мяне і запрасіла ў дом.

Я хутка ліквідаваў аварыю, калі можна так назваць тое, што я рабіў, — не працавалі дзве разеткі, — і прысеў ля стала, чакаючы гаспадыню, якая ўсё яшчэ гаманіла з суседкай на двары.

Грукнулі дзверы, нетаропкія лёгкія крокі ўсё бліжэй і бліжэй. Яна агледзела мяне, пасміхнулася:

— Дык гэта ты — Дубіцкі, спецыяліст па электрычнасці?

— Як бачыце… Халадзільнік працуе, тэлевізар таксама. Ой, прабачце, — я ўспомніў пра канверт і аддаў яго Вользе Іванаўне. Яна разарвала яго: там былі грошы. Пералічыла іх і паклала ў шафку.

— Тое, што трэба, а то Грызюк забраў у камандзіроўку з сабой апошнія. Ну, дзякуй, дзякуй, — яна зноў усміхалася, пастукваючы пазногцем па стале.

— Няма за што. Тады я пайшоў, — я падняўся, не ведаючы, як трымаць свае рукі, і адчуваючы, што чырвань залівае мой твар, шыю.

— Пасядзі, пасядзі. Паспееш у сваю казарму. Пакармлю цябе чым-небудзь смачным.

Яна ўжо завіхалася ля пліты, паставіла на агонь патэльню. Запахла смажаным салам і цыбуляй.

— Слухай, Тарас… Цябе ж Тарасам завуць? Падрэж рыбы, а то яна цвёрдая, як жалеза. У мяне не хапае сілы яе рэзаць. Дык ты Тарас — Тарасік. Дзе твой матрасік? — яна зноў зарагатала і дадала: — Ды не саромся ты. Я нармальная жанчына. Калі жонка капітана, дык што — не чалавек? Я вас, салдат, разумею: вакол адна вада. Мне самой часам так сумотна, што, здаецца, завыю, як ваўчыца. Кожны вечар лічу дні, калі мы, нарэшце, пераедзем на вялікую зямлю. Засталося яшчэ сорак пяць дзён. І ўсё. А табе яшчэ многа засталося?

— Амаль чатыры месяцы…

— Нічога, праляцяць. Мы тут ужо пяць гадоў. Спярша здавалася, што ніколі не пройдуць. Сядай бліжэй да стала! Не саромся і нікога не бойся. Тым больш Грызюк вернецца толькі праз тыдзень.

Стол быў шыкоўны. Ва ўсім свеце, мабыць, не было лепшага: трашчалі на гарачай патэльні скваркі, пакрытыя жоўта-белымі яйкамі, у трохлітровым слоіку чырванела, бы журавіны, ікра, на талерцы ляжалі лусты палтуса.

Салдату заўсёды хочацца есці, а тут яшчэ такія прысмакі, і я еў, як кажуць, ад душы. Выпілі па чарцы, другой. Вольга мяне распытвала пра бацькоў, адкуль родам, ці ёсць дзяўчына.

У яе паружавеў твар, стаў яшчэ больш прыгожы. У чорных, бы смала, вачах з'явіліся заліхвацкі агеньчык. Яна хітнула галавой, і валасы, як густой і шырокай поўсцю, закрылі твар, плечы.

— Ну як? Падабаюся табе? — какетліва запыталася.

— Вельмі…

— Я гэта заўважыла ў кіно. Ты мне адразу кінуўся ў вочы. Высокі, плячысты і валасы, як лён… — яна паклала мне на талерку скварак, рыбы: — Еш. Хто добра есць, той добра працуе.

Пасля трэцяй чаркі я пасмялеў і пачаў распытваць яе. Яна была, як і Грызюк, з Украіны. Скончыла педвучылішча, але ніводнага дня не працавала. Выйшла замуж за Грызюка і праз тыдзень ужо была на гэтым востраве.

— Сумна мне. Нудота. Але калі падумаеш, што чакае там, на вялікай зямлі, дык таксама ніякай радасці. Грошай мала. Ні нармальнай вопраткі не купіш, ні абутку.

Раптам Вольга нахілілася да мяне і пацалавала ў губы. Як апякла агнём, і я, бы звар'яцелы, ап'янелы ад гэтага пацалунка, пацягнуўся да яе, абхапіў абедзвюма рукамі. Але яна адштурхнула мяне. Ды так, што я ляпнуўся патыліцай аб сцяну.

— Прабач. Усё, ідзі… Скажаш Кірылаву, каб цябе адпусціў заўтра пасля абеду. У мяне яшчэ дзве разеткі сапсаваныя…

Я ўсю ноч не спаў, бяздумна ляжаў і ўяўляў, як пасля абеду іду да Вольгі, стукаю ў дзверы. Яна на парозе, усміхаецца мне. Потым цалуе. Моцна. Адчуваю, як пачынаюць смылець губы і робіцца гарачым твар. Не магу дачакацца, калі надыдзе ранак. Мне цесна ў казарме, не хапае паветра.

Перад абедам спыніў маёр Кірылаў. Вецер прыціх, сонца глядзела проста ўніз, прымушаючы прыплюшчваць вочы. І радавацца апошнім перадасеннім цёплым дням

— Званіла Вольга Іванаўна Грызюк. Дзякавала за якасную работу. Прасіла, каб яшчэ пасля абеду падышоў. Яшчэ ў яе разеткі сапсаваныя. Глядзі, акуратна, замыканне не зрабі…

Кірылаў усміхаўся, але вочы былі хмурныя, незадаволеныя.

— Глядзі, акуратна…

Ногі, непадуладныя галаве, неслі мяне да афіцэрскіх домікаў.

Я рашуча ступіў на ганак. Не паспеў пастукаць, як дзверы адчыніліся. Праз імгненне я стаяў у цёмных сенцах, і мяне прагна цалавалі гарачыя вусны…

У казарму я вярнуўся, калі ўжо было цёмна. Цішком распрануўся і лёг спаць. Заснуў, як толькі накрыўся коўдрай. І неўзабаве прачнуўся: усё цела было насычана Вольгай. Цяпер, дзе б я ні быў, побач нябачна прысутнічала яна. А ўначы, калі засынала казарма, я, бы злодзей, залазіў праз акно ў кватэру да яе, жонкі капітана Грызюка. Вяртаўся пад раніцу, перад пад'ёмам.

Два дні заставалася да вяртання капітана Грызюка з вялікай зямлі. Я ні пра што не думаў, я быў шчаслівы. Забыў пра неба і зямлю, забыў, што служу на востраве, што адсюль можна дайсці толькі на катары альбо, калі Бог дасць, на самаходнай баржы. Я быў шчаслівы…

Я прачнуўся ад таго, што яна заплакала.

— Хутка прыедзе Грызюк, і скончыцца нашае каханне. — Вольга цяжка ўздыхнула, паднялася з ложка, закурыла цыгарэту. Я і не ведаў, што яна курыць. — Месяц назад ад мамы было пісьмо. Нібыта падыходзіць чарга на кааператыўную кватэру, а грошай няма. Вось табе і ўсё каханне. Ты — салдат, я — выхавацелька дзіцячага сада, якая не працавала ніводнага дня. А калі б і працавала?..

Яна патушыла цыгарэту аб сподак, нахілілася нада мной, пацалавала. Я абхапіў яе, прыціснуў да сябе. Не мог уявіць, што праз два дні Вольга будзе разам з Грызюком. Ен яе цалуе, абдымае… А я хто? Куды мне падзецца? Як мне далей жыць? А грошы… Грошы — не праблема. У мяне ёсць рукі і ногі, галава. Зараблю. Каб толькі Вольга была са мной. Без яе я не змагу жыць.

У канцылярыі ля стала маёра Кірылава стаіць сейф, поўны грошай. Ключ ад яго ў верхняй шуфлядзе стала. Я нібыта ўвачавідкі ўбачыў, як камандзір роты дастае ключы, адчыняе сейф. Дарэчы, я заўтра дзяжурны па роце…

У тую ноч быў моцны шторм. Шумела, грукатала мора. Яшчэ трошкі — і, здавалася, хвалі накрыюць казарму, што ажно стагнала пад націскам ветру. І калі б не гара, якая ўзвышалася ўпоперак вострава, была б бяда. Але салдаты, стомленыя за дзень цяжкай вайсковай працай, спалі. Адпачываў і днявальны — яфрэйтар Мараpy, кірпаты малдаванін, які марыў пасля арміі пайсці служыць у міліцыю ўчастковым у сваёй вёсцы.

Я ўзяў са скрынкі ключ ад канцылярыі і, дрыжучы ад страху, адамкнуў дзверы. Адступаць ужо не мог, тое, што задумаў, — зраблю. Днявальнаму яшчэ спаць гадзіну. Ніхто не павінен мяне ўбачыць. Божа, дапамажы мне. Я гэта раблю не сабе, а Волечцы, за якую, калі спатрэбіцца, аддам жыццё. Гэтая думка надала мне сілы і ўпэўненасці. Крок, другі, трэці. За акном вые вецер, скуголіць, стогне, і, здаецца, нехта падглядвае за мной, цікуе за кожным крокам.

Я знайшоў ключы ў шуфлядзе… Нібыта самнамбула, браў з сейфа грошы, складваў іх за пазуху, па кішэнях. Выцягнуў ключ з замка, выцер яго аб гімнасцёрку, бо некалі чытаў, што гэтак трэба рабіць, каб не засталіся адбіткі пальцаў. У калідоры я пастаяў, прыслухоўваючыся, насцярожаны, бы звер, гатовы да нечаканасцей.

І куды схаваць гэтыя грошы? У мяне яшчэ паўгадзіны. Усе спяць. Да Волечкі бегчы пяць хвілін. Да Волечкі, да Волечкі… Для яе абакраў я касу, адчыніў сейф. Забраў усе грошы. Колькі іх? Усё роўна. Хопіць Волечцы на кватэру і нам на будучыню…

Не зважаючы на дождж, грымнуўшыся два разы на распоўзлую зямлю, мокры і брудны, я дапяў да Вольгі. Яшчэ трошкі — і я, відаць, выламаў бы дзверы, грукаючы ботам. Яна нарэшце адчыніла іх, перапалоханая, са стрэльбай у руках.

—Ты?! Здурнеў…

Я ўвайшоў у сенцы, вываліў на падлогу грошы, пацалаваў Вольгу і бегма назад. Толькі крыкнуў, зачыняючы за сабой дзверы:

— Схавай!

Мінуў тыдзень. Усё спрыяла мне. Маёр Кірылаў захварэў на грып, і пакуль замест яго камандаваў ротай капітан Грызюк, што два дні як на тарпедным катары вярнуўся з вялікай зямлі.

Катар стаяў у бухце, і капітан-лейтэнант Гарбузь, мой зямляк з Магілёўшчыны, пакуль не выходзіў з доміка маёра Кірылава. Яны гулялі, бо Ізя Жэрдзіч з Адэсы, які перад арміяй скончыў тры курсы кансерваторыі, з учарашняга дня не начаваў у казарме разам з сваім баянам. І вясёлыя спевы ляцелі над востравам.

Калі заснула рота, я выслізнуў з казармы.

Я хацеў убачыць Волечку. Хоць на хвіліну. Дый пагаварыць з ёй трэба, абмеркаваць нашае жыццё. Як паклікаць Вольгу? Каго папрасіць? Я сядзеў паўночы пад домам Грызюка ў зарасніку і чакаў, спадзяючыся на дапамогу нябёсаў, бо ніводзін чалавек на востраве не мог пачуць голас майго сэрца. Хіба толькі Вольга…

Страціўшы ўсялякую надзею ўбачыць каханую, я ледзь паспеў вярнуцца ў казарму да пад'ёму. На разводзе ўжо быў маёр Кірылаў. Я слаба слухаў, пра што ён гаварыў. У мяне трымцелі рукі і ногі ад думкі, ці адчыняў Кірылаў сейф. Мабыць, яшчэ не адчыняў. Інакш стаяў бы вэрхал.

У мяне быў чарговы нарад на кухню, і я пайшоў са сваімі напарнікамі да сталоўкі, ад якой, бы на далоні, відаць цёмна-свінцовыя хвалі мора. Бухта з тарпедным катарам…

Бухта. Пустая бухта… Без катара, які ўжо вяртаўся на вялікую зямлю. З Вольгай на борце. Пра гэта я даведаўся ў канцы дня. А праз чатыры месяцы таксама плыў на тарпедным катары да вялікай зямлі ў якасці падследнага, прызнаўшыся ў крадзяжы грошай з гарнізоннага сейфа… А іх так і не знайшлі.

# Вера. Надзея. Уваскрэсенне

Выстаўка "Вера, Надзея, Уваскрэсенне" выразных відаў літоўскага нацыянальнага традыцыйнага мастацтва з Музея Рокішскага краю (Літва) расчыніла свае дзверы для наведвальнікаў у выставачнай зале Нясвіжскага палацава-паркавага ансамбля.

**Алеся АРЫЦКАЯ, фота аўтара**

Вялікую частку экспазіцыі складаюць жалезныя крыжы і верхнія часткі помнікаў малой архітэктуры (каплічак, разных слупоў-каплічак, прыдарожных драўляных слупоў з арнаментным дахам). У Музеі Рокішскага краю захоўваецца каля 80 такіх экспанатаў, большая іх частка сабрана ў ваколіцах Рокішак. Самы стары крыж выкаваны ў 1741 годзе. Лічыцца, што ў літоўскіх крыжах пераплецены паганская і хрысціянская сімволікі, бо ў дахрысціянскі перыяд крыж абазначаў мадэль бакоў свету, пазней стаў сімвалам сонца і адным са шматлікіх элементаў арнаментыкі.

— Раней крыжы ставіліся на перакрыжаваннях, каля сядзіб, на месцах няшчасных выпадкаў, у кветніках, — распавядае загадчыца гістарычнага аддзела Музея Рокішскага краю Она Мацкявічэне. — Гэта былі вялікія драўляныя крыжы, 6 — 7 метраў у вышыню, наканечнікі якіх вырабляліся з жалеза, таму менавіта наканечнікі і захаваліся, вы можаце пабачыць іх на выстаўцы. У якасці аздаблення выкарыстоўваліся паганскія змеі, зорачкі, кветкі, розныя знакі: народ меў крыху іншы пункт гледжання на вытворчасць крыжоў. Шкада толькі, што кавалі, якія стварылі шэдэўры з жалеза, збольшага засталіся невядомымі. А наогул Літва называецца краінай крыжоў, бо традыцыя кавальства жыве тут і знікаць не збіраецца, у нас цяпер нават прайшла мода на мармуровыя пліты: на магілках ставяцца камяні, а на іх — жалезныя крыжы. Як і шмат год таму, Рокішкі славяцца сваімі майстрамі па вырабе не толькі крыжоў, але і посуду, падсвечнікаў, сакрэты кавальскай справы здаўна перадаваліся з пакалення ў пакаленне. Нездарма ў 2001 годзе міжнародная арганізацыя ЮНЕСКА ўнесла традыцыйную апрацоўку літоўскіх крыжоў і яе сімволіку ў спіс шэдэўраў нематэрыяльнай культурнай спадчыны чалавецтва.

Што да скульптуры, то яна з'яўляецца адным з найбольш выразных відаў літоўскага традыцыйнага мастацтва. Фігуркі святых выкарыстоўваліся ў якасці помнікаў для малой архітэктуры, звычайна размяшчаліся ў каплічках. Выбар сюжэтаў залежаў ад нагоды ўсталявання помнікаў, часцей звязаных з ахоўвай і заступніцтвам. Экспазіцыя старадаўняй літоўскай скульптуры ў Музеі Рокішскага краю налічвае каля 170 экспанатаў. Самая старажытная ў калекцыі — "Хрыстос пасля ўваскрэсення" — створаная ў XVII ст. Найбольш распаўсюджаныя сюжэты: Ісус (Распяты, Ісус з Назарэта, Хрыстос), св. Іаан Хрысціцель, св. Іаан Непамук, Прасвятая Дзева Марыя. На жаль, імёны аўтараў большасці скульптур невядомыя.



— Выстаўка "Вера, Надзея, Уваскрэсенне", якая працягнецца да лютага, адкрыла не толькі новую сакральную прастору ў палацы, але і праект, якім мы займаліся амаль год, — новую выставачную залу, аналага якой, напэўна, пакуль няма ў Беларусі, — зазначыў дырэктар нацыянальнага гісторыка-культурнага запаведніка "Нясвіж" Сяргей Клімаў. — Па абсталяванні гэта модульны трансформер, які можа змясціць любую экспазіцыю на абмежаванай плошчы (140 метраў). Раней гэта было праблемна. Мы доўга шукалі праект, які б змог адкрыць такую залу. Вось, пабачылі ў Рокішках калекцыю выразных відаў літоўскага нацыянальнага традыцыйнага мастацтва і вырашылі, што менавіта гэта нам і патрэбна. Я ўдзячны літоўскім калегам, бо яны адразу адгукнуліся, не пабаяліся дрэннага надвор'я і мытных складанасцей. Прадстаўленая экспазіцыя цікавая не толькі з гістарычнага боку, бо ў Беларусі ад культуры прыдарожных крыжоў амаль нічога не засталося, але і з пункту гледжання асабістага ўспрымання: пад Новы год і Каляды кожны чакае цудаў. Выстаўка думаю, зацікавіць як дарослых, так і дзяцей, тым больш што святкаванне Новага года і Каляд прыцягне ў замак вялікую колькасць турыстаў — квіткі на святочныя мерапрыемствы былі раскуплены яшчэ ў жніўні.

**Газета "Літаратура і мастацтва" — інфармацыйны партнёр акцыі "Нясвіж — культурная сталіца Беларусі".**

# Што ёсць Апакаліпсіс?

Калі вы трымаеце ў руках гэты нумар, значыць, тэхнічныя прыборы працуюць і Зямля не агарнулася цемрай: канец света не адбыўся. Таму ногі ў рукі і хутчэй у мастацкую галерэю "Універсітэт культуры" — у вас яшчэ ёсць два дні, каб пабачыць Апакаліпсіс і яго наступствы. І не забудзьцеся падзякаваць майя за страшнае прароцва: чакаючы канца свету, кожны не-не ды задумаўся пра мэту свайго існавання, важнасць справы, якой ён займаецца, і, хочацца верыць, зрабіў для сябе пэўныя высновы.

**Дзіяна КАРОЛЬ**

Вось ужо два тыдні ў мастацкай галерэі "Універсітэт культуры" праходзіць выстаўка "Апакаліпсіс?". У межах арт-праекта, прысвечанага папулярнай і вельмі раскручанай цяпер тэме канца свету, прадстаўлены работы 30 сучасных мастакоў, як маладых, так і сталых майстроў, якія ўвасобілі тэму канца свету ў жывапісе, графіцы, скульптуры, фота, арт-аб'ектах. Выстаўка атрымалася цікавай і яркай, тут шмат сур'ёзнага філасофскага роздуму над сюжэтамі Бібліі, аднак мастакі і шмат іранізуюць з чутак наконт Апакаліпсісу.

Паводле аднаго з куратараў выстаўкі, мастака Аляксея Хацкевіча, ідэя арт-праекта з'явілася яшчэ ў мінулым годзе. Тэму, зразумела, падкінулі сваім календаром індзейцы майя:

— Апакаліпсісы ўжо здараліся на працягу ўсяго існавання чалавецтва, тады народ падрываўся і думаў: "Усё, канец свету". На маім вяку іх было два: адзін у 2000 годзе, калі хадзілі чуткі, што ўсе камп'ютары абнуляцца і свята не будзе, а другі, драбнейшы, — калі людзі пад Пензай у яры закапаліся. Вось і цяпер хтосьці хвалюецца, хтосьці не, а я проста прапанаваў сваім сябрам паўдзельнічаць у гэтым арт-праекце і ўявіць сабе канец свету. Спадзяюся, той Апакаліпсіс, які падрыхтавалі індзейцы майя, таксама пройдзе міма. А наогул, усё павінна быць менавіта так, як павінна.



Сяргей Шынкарэнка "Усё спачатку". Камп'ютарная графіка. 2012.

Зварот сучасных беларускіх мастакоў да эсхаталагічных вобразаў невыпадковы. Гэту складаную, шматгранную, шматузроўневую тэму яны вырашаюць па-рознаму. Арганізатарам хацелася, каб кожны з удзельнікаў праявіў сябе не толькі як мастак, але і як мысляр, які шукае для сябе адказ на пытанне "Што ёсць Апакаліпсіс?"

— Мне падабаецца, што тут прадстаўлены работы з некалькіх дзесяцігоддзяў, — зазначыў на адкрыцці арт-праекта кандыдат мастацтвазнаўства Аляксандр Зіменка.— Атрымліваецца дыялог, у якім кожнае пакаленне імкнулася знайсці свой адказ на пастаўленыя пытанні, прысвечаныя Апакаліпсісу. Бачна, напрыклад, што напачатку было проста пытанне, потым — спробы знайсці магчымасці прадухілення канца свету, роздум над тым, што здарыцца далей. Самыя ж свежыя работы — гэта іронія, якая, магчыма, і з'яўляецца правільным падыходам да такой складанай тэмы. І калі камета Галея праляталa, усе думалі, што наступіць Апакаліпсіс. Аднак ён усё не наступае. У сувязі з гэтым хочацца перафразраваць словы прафесара Прэабражэнскага пра тое, што канец свету наступае ў галовах, а не з нагоды руху планет. Прадстаўленая інсталяцыя нібы задае сур'ёзнае пытанне: ці не наступіў Апакаліпсіс у галовах шматлікіх жыхароў планеты і ці не з'яўляецца канец розуму канцом свету. А наогул, калі б узровень адукацыі павышаўся таксама, як і кошты на некаторыя прыродныя носьбіты, ні пра які Апакаліпсіс і гаворка б не ішла.



Аляксандр Забаўчык "Асірыс". Палатно, алей. 2012.

## Арт-карагод

**Дзіяна КАРОЛЬ**

Сапраўдныя піраты "захопяць" Тэатр юнага гледача ў Доме літаратара ўжо з заўтрашняга дня да наступлення Новага года! Аматары прыгод запрашаюцца на ўзнятце сцяга "Вясёлага Роджэра" і чарговую прэм'еру. Таксама падчас святочных і вакацыйных дзён гледачоў чакае навагодняе прадстаўленне ў фае, з цудамі і сюрпрызамі. Вам трэба толькі загадаць жаданне! Ёсць магчымасць яго ажыццявіць!

Выстаўка фатаграфіі Томаша Тамашэўскага (Польшча) "Гарантуецца атмасфера добразычлівасці. Падляшша" расчыніла свае дзверы ў вялікай зале Музея сучаснага выяўленчага мастацтва. На выстаўцы, арганізаванай Падляшскім ваяводствам Рэспублікі Польшча праз Польскі Інстытут у Мінску, можна пабачыць серыю фатаграфій, прысвечаную побыту, працы і рэлігійна-абрадавым аспектам жыцця насельніцтва Падляшша, сярод якіх значную колькасць складаюць беларусы. Томаш Тамашэўскі — вядомы польскі фатограф, сябра Польскага саюза мастакоў-фатаграфікаў, агенцтва "Visum Archiv" у Гамбургу, агенцтва "Image Collection" у Вашынгтоне, а таксама Амерыканскага таварыства фатографаў для часопісаў. Займаецца фатаграфіяй для прэсы, публікуе свае працы як у найбуйнейшых польскіх часопісах, так і ў замежных. Аўтар шэрагу кніг, шматлікіх персанальных выставак у ЗША, Канадзе, Англіі, Ізраілі, Японіі, Галандыі, Італіі, Германіі, Польшчы і на Мадагаскары.

Зусім хутка прыйдуць калядныя і навагоднія святы з іх неад'емнымі атрыбутамі: ёлкай, падарункамі, адметнымі стравамі. "Музычны салон" Гомельскага палацава-паркавага ансамбля паклапаціўся пра святочныя стравы для сваіх слухачоў: калядныя канцэрты пачаліператвараць доўгія зімовыя вечары ў сапраўдную навагоднюю казку. Учора Юрый Бліноў прадставіў увазе публікі праграму "Запрашэнне на танец", якая стала сапраўдным святам для аматараў фартэпіяннай музыкі. Сёння знатакоў джазу і проста добрай музыкі чакае асаблівы падарунак — музычны вечар "Калядная імправізацыя" ад "Vasabi jazz band" (мастацкі кіраўнік Андрэй Васільеў). Заўтра арганістка Полацкага сафійскага сабора Ксенія Пагарэлая выканае ў Белай Гасцёўні канцэртную праграму, заснаваную на спалучэнні калядных традыцый і музыкі эпохі Барока.

Мастацкая галерэя "Vilnius" з 27 снежня па 5 лютага прадстаўляе персанальную выстаўку Віталя Балыкіна "Вогненная рапсодыя". Экспазіцыя складаецца з больш як 40 работ, выкананых у тэхніцы піграфіі (выпальванне па тканіне). Аўтар прадставіць гледачам пейзажы, выкананыя па матывах твораў класікаў жывапісу, а таксама па асабістых эскізах. Піграфія, што ў перакладзе з грэчаскай абазначае "маляванне агнём", стала моднай у віктарыянскую эпоху і эпоху Арт Дэко. Сёння яна перажывае цудоўную хвалю папулярнасці і адраджэння.

# Таму што ёсць Музыка...

Сёння ў Мінску праходзіць пашыраны юбілейны пленум праўлення Беларускага саюза музычных дзеячаў, прымеркаваны да 25-годдзя гэтай паважанай творчай сябрыны, якую ўзначальвае народны артыст Беларусі, прафесар Міхась Дрынеўскі. Напярэдадні падзеі мы пагутарылі з першым намеснікам старшыні праўлення БСМД Наталляй Вітчанкай.



*Далёкая гісторыя: уручэнне рэгістрацыйнага пасведчання Беларускага саюза музычных дзеячаў у Міністэрстве юстыцыі БССР.*

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ, фота з архіва БСМД**

**— Чвэрць стагоддзя таму саюз паяднаў прафесійных музыкантаў вакол узнёслых ідэалаў духоўна-эстэтычнага асветніцтва і практычных надзённых задач развіцця лепшых традыцый культуры, захавання і прапаганды яе вечных каштоўнасцей. І цяпер ужо відавочна: праз свае шматлікія грамадска значныя акцыі саюз істотна дапаўняе работу дзяржаўных структур у сферы найтанчэйшага з мастацтваў. Падтрымліваючы ініцыятыву творчых асоб, суполка не застаецца ўбаку і ад іх сацыяльных патрэб, і гэты шмат дзе ўжо страчаны "чалавечы фактар" выклікае шчырую павагу да саюза.**

— Наша грамадская арганізацыя ніколі не была нейкім чарговым фармальным стварэннем. Але ж гэта і не дзіўна: якія ў нас людзі! Эліта творчай інтэлігенцыі краіны. Зразумела, што і калектыўныя дасягненні, і добрая рэпутацыя, і ўнікальная ўнутраная атмасфера Беларускага саюза музычных дзеячаў — вынік самых розных добрых спраў і персанальных поспехаў кожнага яго руплііўца. І сёння ўсім нам разам ёсць што прыгадаць. Напрыклад, станаўленне спецыялізаваных асацыяцый саюза як своеасаблівых "цэхавых" таварыстваў і адмысловых творчых лабараторый. Такіх ужо дзесяць, пра іх дзейнасць неадночы распавядалася і на старонках "ЛіМа". Асацыяцыя беларускіх дамрыстаў і мандалiністаў, сярод іншага, апякуецца вяртаннем у музычную практыку старадаўняй мандаліны — інструмента, некалі шырока распаўсюджанага ў Беларусі, а ў перыяд барацьбы з "ідэалагічна шкоднымі ўплывамі" выдаленага з нашай культуры. Асацыяцыя беларускіх цымбалістаў актыўна прадстаўляе на міжнародных форумах нацыянальную выканальніцкую школу як адну з лепшых у свеце, а на радзіме ладзіць традыцыйны рэспубліканскі фестываль "Срэбны звон цымбал", у творчую арбіту якога ўлучаныя ўсе рэгіёны. Беларуская перкусійная асацыяцыя, аб'ядноўшы нешматлікіх у нашай краіне выканаўцаў на ўдарных інструментах, выкладчыкаў, студэнтаў і навучэнцаў музычных устаноў, паспяхова рухаецца да адной з галоўных сваіх мэт: стварэння беларускай выканальніцкай школы па адпаведнай спецыяльнасці, рэгулярна праводзіць канферэнцыі, семінары, майстар-класы, конкурсы, канцэрты, папулярныя марафоны выканаўцаў, развівае міжнародныя прафесійныя кантакты. Шырокі розгалас выклікаюць канцэрты-прэзентацыі, дабрачынныя імпрэзы Асацыяцыі беларускіх баяністаў і акардэаністаў.

**— Вядома, што свае асацыяцыі стварылі кіраўнікі хароў хлопчыкаў і юнакоў, беларускія майстры музычных інструментаў, оперна-сімфанічныя дырыжоры, маладыя кампазітары...**

— Так, і ў асяродку асацыяцый калегі-аднадумцы абмяркоўваюць "цэхавыя" праблемы, абменьваюцца прафесійным досведам, выканальніцкім і педагагічным вопытам, дбаюць пра павышэнне кваліфікацыі моладзі, вырашаючы асветніцкія задачы. І ўсіх паяднаных у саюз, такіх розных асоб, збліжае не толькі (ды, можа, і не столькі) жаданне прапагандаваць сваё майстэрства і пашыраць кола замежных прыхільнікаў. Збліжае найперш вялікае імкненне процістаяць бязглуздаму пераняссенню ідэй рынку ў сферу ўнікальнага музычнага мастацтва, выступаць за стварэнне ў нашым грамадстве такіх умоў, што спрыялі б росквіту нацыянальнай культуры і агульнай культуры людзей. Дарэчы, пра навядзенне гарманічных повязей паміж гістарычнай спадчынай і сучаснымі крэатыўнымі тэндэнцыямі, прапаганду дасягненняў айчыннага мастацтва праз міжнародныя праекты, а таксама пра духоўна-эстэтычны набытак новых пакаленняў дбаюць усе нашы падраздзяленні. У тым ліку прадзюсарскія цэнтры БСМД: "Класіка", "BelArtSound". І дзевяць канцэртных калектываў: "Minsk Orchestra", "Камерныя салісты Мінска", квартэт драўляных духавых інструментаў "Riviera", Канцэртны хор хлопчыкаў ды іншыя.

**— Наталля Васільеўна, вы адночы, разважаючы пра справы БСМД, звярнуліся да параўнання з жыццядзейнасцю арганізма, дзе няма нічога другаснага, бо як без магістральных артэрый, так і драбнюткіх капіляраў арганізм не зможа існаваць. Саюз, маўляў, захоўвае "капілярную сістэму" нашай музычнай культуры. І таму, падсумоўваючы яго працу за 25 гадоў, цяжка вылучыць нешта найбольш значнае. Значнае — усё: правядзенне разнастайных творчых нарад, семінараў, майстар-класаў (у тым ліку з удзелам замежных майстроў); фестываляў, конкурсаў, юбілейных і мемарыяльных імпрэз; актывізацыя міжнародных стасункаў; адкрыццё новых талентаў; стварэнне пярвічных суполак саюза ў навучальных установах і клопат пра сацыяльныя патрэбы калег...**

— Сапраўды, нават пералічыць самае важнае проста немагчыма. У гісторыі — першы, запачаткаваны саюзам, фестываль "Адраджэнне беларускай капэлы", звязаная з яго падрыхтоўкай велізарная пошукава-даследчыцкая праца. І арганізацыя Гродзенскай гарадской капэлы. І сусветны кангрэс цымбалістаў, праведзены ў Беларусі. І дабрачынныя замежныя канцэртныя турнэ музыкантаў у дапамогу пацярпелым ад Чарнобыля. І рэспубліканскае свята-конкурс, прысвечанае 100-годдзю Генадзя Цітовіча. І ўнікальная акцыя — семінар-практыкум для дырыжораў-хормайстраў Беларусі, які вёў выдатны музыкант, мастацкі кіраўнік славутага Маскоўскага акадэмічнага камернага хора Уладзімір Мінін. А хто ж не памятае канцэрт-прэзентацыю Асацыяцыі оперна-сімфанічных дырыжораў, падчас якога мы паспелі яшчэ пры жыцці маэстра Генадзя Праватарава ўшанаваць яго яскравы талент і сказаць тыя словы прызнання і ўдзячнасці, што звязвычай гучаць ужо запозненa, калі чалавек пакідае зямны свет... Незабыўным атрымаўся і філарманічны беларуска-расійскі вечар, прысвечаны светламу таленту Ірыны Архіпавай, нашай выдатнай зямлячкі. Яна доўгія гады ўзначальвала ў Маскве Міжнародны саюз музычных дзеячаў, у які ўваходзіць і наша арганізацыя, падтрымлівала беларускіх калег у ажыццяўленні супольных праектаў. Дарэчы, партнёрамі шэрагу нашых праектаў станавіліся Міністэрства культуры Беларусі, Інстытут імя Гётэ ў Мінску. Саюз вельмі рады супрацоўніцтву з абласнымі ўпраўленнямі культуры. І ўдзячны кіраўніцтву сталіцы і Мінскага раёна за дапамогу ў вырашэнні набалелых жыллёвых праблем нашых калег.

**— Многія праекты саюз ажыццяўляе разам з Беларускай дзяржаўнай акадэміяй музыкі, якая днямі ўрачыста адсвяткавала сваё 80-годдзе, і з Рэспубліканскім каледжам пры БДАМ...**

— ...бо ў саюзе столькі выпускнікоў, педагогаў, ветэранаў гэтых шаноўных альма-матар! Іх імёны вядомыя на ўсю краіну і за мяжой. Міхась Солапаў, Маргарыта Мінянкова, Зінаіда Мажэйка, Іна Зубрыч, Юлія Чурко, Галіна Асмалоўская, Міхась Дрынеўскі, Міхась Казінец, Сяргей Картэс, Барыс Нічкоў, Яўген Гладкоў, Кім Цесакоў, Міхаіл Фінберг, Людміла Шаламенцава, Уладзімір Скараходаў, Мікалай Сеўрукоў, Уладзімір Перлін, Наталля Руднева, Юрый Гільдзюк, Ігар Алоўнікаў, Ірына Шуміліна... Але ўсіх пералічыць проста немагчыма: толькі на юбілейны пленум запрошана 200 ўдзельнікаў, а ў саюзе ж — 1468 чалавек! У тым ліку — наш старэйшына, ганаровы намеснік старшыні праўлення БСМД Томас Курыла; Тамара Куніцкая — дырэктар сталічнай ДМШ № 10 імя Я. Глебава; маэстра Рыгор Сарока, які шчыруе ў Маладзечне; дырэктар Магілёўскага каледжа мастацтваў Людміла Мішчанка; мастацкі кіраўнік Гомельскай абласной філармоніі Галіна Паўлянок. І — легендарная Лілія Батырава, якая ладзіць у родным Брэсце пры падтрымцы мясцовых улад маштабны міжнародны праект "Студзеньскія музычныя вечары". На пачатку 2013 года правядзе гэты фестываль класічнай музыкі ўжо 25-ы год запар!

**— Днямі ў сталічнай філармоніі адбыўся канцэрт, арганізаваны саюзам і прымеркаваны да 80-годдзя Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі. Адначасова ён прысвячаўся юбілею выдатнага педагога акадэміі, прафесара фартэпіяна Зоі Качарскай. Такія кранальныя сустрэчы калег, настаўнікаў, вучняў, аматараў музыкі — адметная традыцыя!**

— Сапраўды, можна тут прыгадаць і творчыя вечары Лючыі Ластаўкі, Ларысы Васільевай, Валерыя Шацкага, Аляксандра Мільто, іншых музыкантаў-ветэранаў. У тым, што ёсць традыцыя прыгожа, душэўна, цёпла віншаваць сваіх юбіляраў — заслуга арт-дырэктара некамерцыйнага прадзюсерскага цэнтра БСМД "Класіка" Валерыя Уколава і чароўнай вядучай такіх праграм Іны Зубрыч. А кожны з юбілейных канцэртаў становіцца падзеяй культурнага жыцця. Думаю, падзеямі будуць і праекты новага года, якія ладкуюцца пад эгідай БСМД. Гэта і ўрачыстасці да 140-годдзя з дня нараджэння Фёдара Шаляпіна: пры падтрымцы саюза створана "Шаляпінскае таварыства Беларусі", ладзіцца конкурс яго імя сярод хлопчыкаў-вакалістаў, якія захапляюцца класічнымі спевамі. Гэта і чарговы фестываль "Срэбны звон цымбал", і "Дні барабанаў і перкусіі ў Беларусі", і Рэспубліканскі конкурс выканаўцаў на духавых і ўдарных інструментах імя І. Дабравольскага... Прыемна, што ў новай кнізе выдавецтва "Беларуская навука", прысвечанай айчыннаму канцэртнаму выканальніцтву апошняй трэціны ХХ — пачатку ХХІ стагоддзя, ёсць і старонкі пра наш саюз.

**— Руплііўцы саюза — людзі з адмысловым душэўным складам і ў пэўным сэнсе ідэалісты. Ім давялося нямала перажыць разам, і не заўсёды перажыванні былі станоўчыя. Ды "крэўная сувязь" з музыкай гартуе дух, і на гэтых спакрэўленых з музыкай, дакліўвых, але моцных духам людзях трымаецца жыццё іх творчага брацтва. Са святам!**

# Спадкаемцы Георгія Жыхарава

На Гомельшчыне адбыўся VI абласны конкурс аркестраў і ансамбляў народных інструментаў, які носіць імя Георгія Жыхарава. Гэты таленавіты музыкант праславіўся як выканаўца на балалайцы і домры, дырыжор, педагог і грамадскі дзеяч, адзін з фанатычных арганізатараў аркестраў і ансамбляў народных інструментаў у Беларусі.

**Яўген ГЛАДКОЎ, старшыня журы конкурсу, народны артыст Беларусі, прафесар, член прэзідыума праўлення БСМД**

Конкурсныя праслухоўванні праходзілі ў Гомелі, Рэчыцы і Мазыры.

Удзельнічала больш як 70 калектываў, у тым ліку дзіцячыя і дарослыя аркестры народных інструментаў, калектывы малых формаў. Вялікая разнастайнасць складаў, цікавыя праграмы, пераважна прафесійны выканальніцкі ўзровень, добрыя канцэртныя залы, дакладнасць у правядзенні конкурсу — усё гэта ператварыла конкурс у яркае свята народна-інструментальнага мастацтва. Многія спаборнікі за высокае выканальніцкае майстэрства былі ўзнагароджаныя дыпломамі I, II, III ступеней і граматамі. Варта назваць хаця б тых, хто стварыў найбольш моцнае ўражанне і каго журы адзначыла дыпломамі I ступені. Так, вельмі ярка выступілі аркестры беларускіх народных інструментаў Мазырскага музычнага каледжа (кіраўнік Т. Шастапалава) і Мазырскай дзіцячай школы мастацтваў № 2 (кіраўнік Т. Шаршнёва), дарослыя калектывы вялікай формы — народны ансамбль народных інструментаў "Верас" Гомельскай дзіцячай школы мастацтваў № 5 (кіраўнік А. Трафімовіч) і народны ансамбль народных інструментаў "Быліна" Гомельскай ДШМ № 1 (кіраўнік А. Склема), дзіцячы ўзорны ансамбль народных інструментаў "Падаляначка" Мазырскай ДШМ № 1 (кіраўнік А. Сарокін). Адкрыццём конкурсу стаў бліскучы дарослы ансамбль — квінтэт "Арт-Гейм" Урыцкай дзіцячай музычнай школы (кіраўнік — магістр мастацтваў Т. Сыравежкіна).

Шчырыя словы ўдзячнасці — упраўленню культуры Гомельскага аблвыканкама, Гомельскаму абласному цэнтру народнай творчасці за захаванне традыцый і падтрымку народна-інструментальнага мастацтва, а таксама вядучаму спецыялісту па інструментальным мастацтве А. Марчуковай, якая забяспечвае прафесійную, бескампрамісную і дакладную працу журы.

# Зоркі эстрады

## ЗАЎВАГІ НА ПАЛЯХ НАТАТНІКА


Узнагароду атрымлівае "Лепшы аўтар музыкі" Герман.

Падведзены вынікі II Нацыянальнай музычнай прэміі. Пераможцам уручаны прызы і статуэткі — прыгожыя зорачкі, у промнях якіх лунае чароўная нотка.

**Рыта СТАХ,**
**фота Кастуся Дробава**

### ШОУ, ЯКОЕ НЕЛЬГА ЗАБЫЦЬ

Менавіта такім слоганам віталі гледачоў II Нацыянальнай музычнай прэміі з вялікіх экранаў, устаноўленых на падыходах да Палаца спорту. Перад пачаткам гала-канцэрта можа было пачуць дыялогі кшталту: "Я набыла квіток, балазе, недарагі — 49 тысяч рублёў, чаму б не паглядзець на зорак эстрады?" Сапраўды, невысокія кошты квіткоў (на самыя прэстыжныя першыя некалькі радоў можна было трапіць усяго за 100 тысяч рублёў) сталі дадатковым аргументам за прысутнасць на выніковым канцэрце. Чаму б не схадзіць? Аднак да самага пачатку прадстаўлення незанятых месцаў было шмат. Чаго не скажаш пра пляцоўку танцпола, амаль цалкам занятую. На яе моладзь ішла арганізаванымі групамі чалавек па 20 — 30, так што міжволі згадаліся часы культпаходаў па вечныя каштоўнасці. Цягам гадзін, адведзеных пад канцэрт, танцпол менеў, сінхронна запаўняліся адзінокія "дарагія" месцы. Чаму не вабіць наша эстрада "новых" беларусаў з вялікімі грашыма — тэма асобнай гутаркі з удзелам зацікаўленых музыкантаў-прафесіяналаў. Але да той пары, пакуль не пачнуцца пошукі адказаў на гэтае пытанне, давядзецца гаварыць пра дзяржаўную падтрымку ў мэтах развіцця нацыянальнага музычнага мастацтва і стварэння ўмоў для прасоўвання творчасці і падтрымкі таленавітых музычных выканаўцаў, кампазітараў. Дзеля чаго, уласна, і задумвалася Нацыянальная музычная прэмія.


Выступае "Лепшы поп-выканаўца" Саша Нэма.


"Лепшы джаз-выканаўца" — гурт Apple Tea Jazz Band.

### СЛОВЫ НЕ МАЮЦЬ ЗНАЧЭННЯ, альбо У ЧАКАННІ АПАКАЛІПСІСУ

Эстрадны канцэрт — адзінае з нямногіх шоу, дзе перад пачаткам не просяць выключаць мабільныя тэлефоны — іх і так не чуваць. Зрэшты, вядучыя (дзве пары — Ірына Хануннік-Рамбальская і Ніна Багданава, а таксама Антон Мартыненка і Віталь Воднеў) папярэдзілі, падводзячы музычныя вынікі 2012-га: прагучаць песні, якія "разрывалі" дынамікі радыёпрыёмнікаў цягам усяго года... Пэўныя намінацыі цалкам спраўджвалі меркаванне. Да прыкладу, "лепшы поп-, рок-выканаўца (калектыў)". Канверты з імёнамі пераможцаў выносілі творчыя калектывы — танцавальныя, цыркавыя, арыгінальных жанраў: "Словы не маюць значэння, мы іх замянілі пластыкай цела!" Пластыка, насамрэч, атрымалася выкшталцоная. Так што на кожнай з намінацый фактычна атрымліваліся два нумары: песня і дзейства, якое ёй папярэднічала. Часцяком і тая, і другая часткі былі амаль што роўныя па часе. Артысты ў фантастычных касцюмах клікалі ў касмічныя прасторы: на сцэне валадарылі прышэльцы — прадстаўнікі іншых цывілізацый. Не дзіва: свет напярэдадні чарговы раз аб'яўленага канца свету задумаўся пра Вечнае. Але з улікам таго, што кветкі пераможцам уручалі такія ж вабныя істоты з іншых планет, тэма жыццесцвярджальна: апакаліпсісу не будзе! Хацелася трыумфу песні.

### НЭМА-НАМІНАЦЫІ

Арганізатары запэўнілі: на конкурс было пададзена больш як тысяча заявак. 19 намінацый і заснаваныя люстравалі шматжанравасць песні. Прычым, як паведамлялася раней, намінацыі ў параўнанні з мінулым годам сталі больш дэталізаванымі. Гэта рух часу: беларуская песня імкліва развіваецца. За гады яе самастойнага існавання мяняліся жанры і асобы, якія прапагандавалі спевы, мяняліся формы прапаганды. Гала-канцэрт музычнай прэміі знайшоў сваю нішу — і за тое асобная падзяка арганізатарам. У беларускай прасторы гэта, без сумневу, з'ява. Тым больш што публіка не спешчаная увагай зорак. Хто яны? Іх трэба шукаць! І шматлікія праграмы Сталічнага і Беларускага тэлебачання спрыяюць таму. Але...

19 намінацый прэміі — і не менш як у пяці з іх намінантам выходзіў Саша Нэма. Прычым, не проста ўдзельнічаў, а трапляў у тройку лепшых: "Лепшы аўтар музыкі", "Лепшы аранжыроўшчык", "Лепшы гастрольны тур года", "Лепшы кліп", "Лепшы поп-выканаўца", — у апошняй намінацыі Саша стаў пераможцам. Выходзіць, і з тысячы заявак выбар невялікі: пры тым, што, паводле падлікаў, атрымлівалася ў сярэднім 50 прэтэндэнтаў на адну намінацыю.

Насамрэч, сёння артыст, каб быць заўважаным, мусіць сам сабе пісаць музыку, апрацоўваць яе, арганізоўваць і прадумваць гастролі — словам, піярыць сябе па ўсіх кірунках. Пры канцы заўваг хочацца, як і Саша Нэма, пажадаць Нацыянальнай прэміі шматшмат гадоў і ў гэтым годзе ды абавязкова ў наступным убачыць як мага больш новых зорак, адкрытых у нашай краіне.

# «Паэзія сама знайшла мяне»



Бягучы год багаты на юбілеі слынных майстроў слова. Сярод іх і Андрэй Скарынкін, чыёй энергіі і празе змяніць свет да лепшага можна толькі пазайздросціць: на рахунку культурнага дзеяча 17 паэтычных зборнікаў, чатыры музычныя альбомы. Андрэй Уладзіміравіч з'яўляецца лаўрэатам літаратурных прэмій, уладальнікам "Залатога Купідона" ў песенным жанры, аўтарам і кіраўніком праекта "рок-опера "Курган", сябрам Саюза пісьменнікаў Расіі і Саюза пісьменнікаў Беларусі, членам-карэспандэнтам міжнароднай Кірыла-Мефодзіеўскай акадэміі славянскай асветы. Напярэдадні святкавання свайго пяцідзесяцігоддзя юбіляр сустрэўся з карэспандэнтам "ЛіМа" і распавеў пра прароцтвы ва ўласных вершах, легендарнасць рок-оперы "Курган" і ролю хакея ў сваім жыцці.

**Дзіяна КАРОЛЬ,**
**фота Кастуся Дробава**

**— Андрэй Уладзіміравіч, у вас вельмі багатая біяграфія: вы пераспрабавалі вялікую колькасць заняткаў, ваша творчасць вельмі разнапланавая, пройдзены такі шлях... Аднак ці ёсць рэчы, якія б, пры магчымасці, вы змянілі ў сваім жыцці?**

— Я ні пра што не шкадую. Я ніколі не жадаў быць паэтам — паэзія сама знайшла мяне. Жыццё развіваецца па сваіх законах, я яму падпарадкоўваюся. Я заўсёды хацеў быць хакеістам, дасягнуць найвышэйшых вынікаў у гэтай сферы, але ўся энергія была аддадзена паэзіі. Іншага поля для рэалізацыі здольнасцей мне дадзена не было. Хаця пэўны час я жыў у Наваполацку і гуляў за мясцовы "Хімік", а ў 1999 годзе нават выступаў у адной камандзе з алімпійскімі чэмпіёнамі свету на адкрыцці Мінскага лядовага Палаца спорту, што на вуліцы Прытыцкага. Дзякуючы мне тады прыехала зборная ветэранаў у складзе У. Крутава, Ю. Ляпкіна, Ю. Лебедзева і інш. Цяпер я не цікаўлюся тым, што адбываецца ў хакейным свеце, адзінае, сачыў за лёсам дзяцей маіх таварышаў па "Хіміку". А наогул, цяпер каманды дрэнна гуляюць, думаюць толькі пра грошы. У часы "Кургана" было па-іншаму — Гусляр адмовіўся ад залатых дукатаў, не пабаяўся сказаць словы праўды. Я і паставіў гэту рок-оперу для таго, каб людзі не проста паслухалі і забыліся, але задумаліся.

Я не ведаю, што будзе далей — усё залежыць ад Бога, цяпер гарача абмяркоўваецца тэма канца свету 21 снежня, я нарадзіўся 20-га. Мы жывём у такі час, калі паэты жывуцом закапаныя са сваімі лірамі ў курган сусветнай глабалізацыі, таму планаваць штонебудзь, разумеючы усё раўнадушша свету да тваёй асобы, вельмі складана. Мне б хацелася пажыць для сябе, закахацца, стаць бацькам, адчуць тое, што я напрыдумляў у віртуальным свеце. Я наогул ужо нічога магу не пісаць — хапае таго, што створана. У сваіх вершах я адказаў на шматлікія пытанні новага тысячагоддзя. Наогул, апошнім часам я больш асцярожны са словам, бо ўсё, што было прадказана ў маіх вершах, збылося: сам таго не ведаючы, я пісаў пра трагедыю 11 верасня ў ЗША, гібель падводнай лодкі "Курск" і шмат чаго іншага.

Наконт бліжэйшых планаў: у наступным годзе ў І. Лучанка юбілей — 75-годдзе. У сувязі з гэтым ёсць сэнс правесці яго творчы вечар, дзе будзе "Курган" у адным з аддзяленняў, а ў другім — песні знакамітага кампазітара. Канцэрт такога кшталту я планую зладзіць і на наступным фестывалі ў Маладзечне, на "Майскім вальсе" ў Мар'інай Горцы — урачыстасцях, прысвечаных Лучанку. У мяне таксама запланавана вялікая вечарына 27 чэрвеня ў канцэртнай зале Мінск. Мой юбілейны вечар пройдзе 22 студзеня ў філармоніі, будуць гучаць мае вершы і музычныя творы на мае словы ў выкананні Р. Палішчука, А. Сямёнава, А. Бажэнавай, В. Алешкі, Ю. Дзмідовіча, казачага ансамбля славянскіх народаў пад кіраўніцтвам А. Важніка, арт-гурта "Беларусы" пад кіраўніцтвам В. Шмата і інш. У гэтым годзе выдавецтва "Асар" перавыдала маю кніжку "Роднічок", прыгожа афармленную Таццянай Беразенкай, у свой час яна была адзначана на міжнароднай выстаўцы-кірмашы. Выдавецтва "Харвест" ажыцявіла другое выдавецтва кнігі "Чёрный аист", бо першае ўсё разышлося. "Асар" таксама выдалі мой зборнік "Последняя тетрадь", а "Беларуская Энцыклапедыя" — "Маттиолы". У наступным годзе я планую выдаць альбом, дзе будуць песні на мае вершы, іх выканаюць І. Кабзон, І. Сільчукоў, С. Кравец, А. Арцем'ева, В. Сакалоўская і інш. На дадзены момант я збіраюся ў Санкт-Пецярбург і Ленінградскую вобласць з канцэртамі — мяне запрасілі блакаднікі, я там і спяваю, і чытаю вершы.

Што датычыць глабальнага, хацелася б рэзка змяніць абстаноўку — фінальны адрэзак жыцця завяршыць як паэт. Застацца сам-насам з сабой і з Богам. У гэтым свеце мне няма чаго рабіць, бо сяброўства са светам — варожасць супраць Бога, сказана ў Бібліі. Не атрымліваецца ў мяне сябраваць з гэтым светам…

**— Як вы лічыце, якія творы беларускай літаратуры вартыя стаць новай рок-операй?**

— Мне б вельмі хацелася, каб з'явіліся новыя творы, бо, аб'ектыўна кажучы, мне не хапае ў беларускай літаратуры нейкіх твораў сусветнага ўзроўню, дзе б адвечная тэма глыбока разглядалася. Каб у прадстаўнікоў іншых народаў з'явілася жаданне азнаёміцца з шэдэўрам на мове арыгінала. Можа, у нас занадта добра жывецца, прырода прыгожая і дзяўчаты, таму людзі не могуць ахвяраваць гэтым, але ж каб дасягнуць поспехаў на паэтычнай ніве, трэба адмовіцца ад усяго. Каб пачаць пісаць геніяльныя творы, паэт павінен па-сапраўднаму пакутаваць. Мастак найбольш значны ў пакутах… І не мастак выбірае час, а час выбірае яго.

# Перачытваючы лісты Зіновія Гарбаўца

Востры выразны штрых на партрэтах, сюжэтных кампазіцыях мастака Зіновія Гарбаўца (1897 — 1979), аднаго з вядучых майстроў віцебскага экслібрыса і ксілаграфіі, здаецца, беспамылкова передае напружаны стан грамадскага жыцця 1920-х гадоў, калі рэвалюцыйная плюралістычная культура пачала гвалтоўна падаўляцца ілжэідэалагічнай кан'юнктурай. Не менш рашучым і нязломным быў Зіновій Ісакавіч як аўтар шматлікіх лістоў, адрасаваных добрым знаёмым, дзеячам мастацтва. Яны, галоўным чынам, ахопліваюць праблемы тагачаснага творчага працэсу ў культурным жыцці, адлюстроўваюць бачанне іх аўтарам розных канфліктных сітуацый, яго характарыстыкі іншых мастакоў ды іх паводзін.



*Вокладка кнігі. 1925 г.*

**Людміла НАЛІВАЙКА, Яўген ШУНЕЙКА**

Лісты Гарбаўца трапілі ў архіў Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі дзякуючы Віктару Шматаву — ён з 1970 года вёў перапіску з мастаком, які жыў у Маскве і адразу адгукнуўся на прапанову беларускага даследчыка стаць рэспандэнтам таго, што запала ў сэрца і не давала спакою нават у вельмі сталым узросце. Гэта было патрэбна даследчыку ў сувязі з работай над кнігамі "Беларуская графіка 1917 — 1941 гг." (1975), "Беларускі кніжны знак" (1975), "Беларуская станковая графіка" (1979). Віктар Фёдаравіч звяртаўся да свайго старэйшага сябра і атрымліваў нечаканыя ўражанні ад віцебскага перыяду мастацтва. У 1991 годзе выйшаў з друку чацвёрты том "Гісторыі беларускага мастацтва", дзе Шматаў дасканала даследаваў творчасць Гарбаўца ў час яго жыцця ў Віцебску: выяўлены характэрныя асаблівасці графічнай мовы і надрукаваны тры творы віцебскага перыяду — "Дзяўчына з кнігай", "Партрэт С. Лініча", а таксама пейзаж "Віцебск".

Мінула амаль сорак гадоў, як не стала мастака. Нельга не звяртацца да інфармацыі з фондаў, якая можа быць цікавай і карыснай для тых, хто не жадае вымяраць гісторыю неадпаведнымі і штучнымі шаблонамі. Таму прапануем увазе паважанага чытача ўрыўкі з лістоў Зіновія Гарбаўца, каб кожны сам зрабіў для сябе належныя высновы.

Зіновій Гарбавец быў актыўным сябрам Віцебскага акруговага таварыства краязнаўства, для часопіса якога пад назвай "Віцебшчына" аформіў два яго выпускі. Але цікавы яшчэ адзін факт: Зіновій Ісакавіч — перакладчык з нямецкай на рускую мову брашуры нямецкага даследчыка беларускага мастацтва А. Іпеля, кніжка якога пад назвай "Беларускае мастацтва" ўбачыла свет у 1925 годзе (выдадзена Віцебскай тыпаграфіяй імя Камінтэрна). На беларускую мову тэкст перакладаў Мікола Каспяровіч — старшыня Віцебскага таварыства краязнаўства. Вокладку аформіў З. Гарбавец. У аснове даследавання — выстаўка беларускіх культурных помнікаў 1918 г. у Вільні. Потым у Мінску арганізавалі выстаўку, прысвечаную Ф. Скарыне, пад назвай "Абласная выстаўка старажытнасцей і зграбных упрыгожванняў". Кіраўніцтва зборамі твораў ажыццяўляў Вронка. Экспанаваліся калекцыі Р. Зямкевіча, А. Смоліча, У. Уласевіча, В. Ластоўскага і інш. Мэта, як пісала газета Белнацкама "Дзянніца", "даць вобраз руху беларускай культуры і дзяржаўнасці з часоў яе росквіту ў пару яе ўпадку пад польскімі і маскоўскімі ўладамі і ў гады адраджэння за апошні перыяд". З цягам часу гэтыя падзеі выклікалі сур'ёзныя супрацьстаянні з боку ўлады, што мела свае негатыўныя вынікі як для ініцыятара супрацоўніцтва з прадстаўнікамі акупацыйных кайзераўскіх войскаў вядомага культурнага дзеяча Івана Луцкевіча з Вільні, так і для М. Каспяровіча, Вронкі і інш.


*"Віцебск". 1926 г.*



*"Дзяўчына з кнігай". 1927 г.*

Але менавіта ў Віцебску Гарбавец дабіўся шырокага грамадскага прызнання сваіх творчых поспехаў, пра што сведчаць яго ўдзел у афармленні двух выпускаў зборніка краязнаўчага таварыства "Віцебшчына" і выданне ў 1927 г. кнігі "Гравюры на дереве" (аўтар І. Фурман з прадмовай В. Воінава).

У 1924 г. ён быў прызначаны настаўнікам малявання на вячэрніх курсах мастацкага тэхнікума. Гісторыя "адмоўных" адносін Гарбаўца з кіраўніком мастацкага тэхнікума Керзіным пачалася з таго часу, калі Зіновій Ісакавіч напісаў заяву на пасаду педагога ў мастацкі тэхнікум. Але яму, як і С. Юдовіну, М. Керзін указваў на недастатковы ўзровень прафесійнай адукацыі, а І. Пэну адмовіў як "прадстаўніку старых поглядаў на мастацтва". Архівы сцвярджаюць, што М. Керзін не быў згодны з тым, каб у калектыве тэхнікума працавалі людзі, якія раней належалі да выкладчыкаў са школы "левых", дзе настаўнікамі былі М. Шагал, К. Малевіч, В. Ермалаева, І. Пэн, С. Юдовін і інш. З Гарбаўцом ён не пажадаў супрацоўнічаць, нягледзячы на тое, што яго скаргі разглядаліся Трацейскім судом пры Віцебскім акружным аддзеле працы і ЦВК БССР. Мастак пайшоў выкладаць у мясцовыя школы, а з 1926 г. стаў настаўнікам Беларускага педагагічнага вучылішча.

Вось што пісаў Гарбавец пра М. Керзіна і метады яго кіраўніцтва: "...за адзін год у Мастацкім тэхнікуме ў Віцебску, дзе дырэктарам быў Керзін, я меў магчымасць пазнаёміцца з веліжскай групоўкай. Першым доўгам пры мне яны заявілі, што не прымаюць "левых", а таму даставалі з падвалаў тэхнічнага памяшкання інстытута работы Канчалоўскага, Фалька (на маіх вачах) і рэзалі на анучы... Адзіны з веліжскай групоўкі, хто сумняваўся, быў Эндэ..." Ці яшчэ: "Усе выкладчыкі мастацкага тэхнікума, якія перакачавалі з Веліжа, былі варожа настроеныя супраць мастакоў Віцебска, і Керзін строга забараніў вучням наведваць кватэру Ю. М. Пэна. А дзверы сваёй майстэрні мастак шырока адчыняў для ўсіх. Я ў Пэна пазнаёміўся з маскоўскім мастацтвазнаўцам М. Р Садковым. <...> Ю. М. Пэн — удзельнік дзвюх сусветных выстаў "Салона" ў Парыжы, дзе з Расіі удзельнічалі толькі некалькі чалавек. Некаторыя партрэты Пэна па майстэрстве не саступаюць работам Сярова і Рэпіна, пра што апошні яму казаў, калі бываў у яго.

Ды час усё ж назваў імёны майстроў: "Шагала, Канчалоўскага, Малевіча, Дабужынскага і іншых ведаюць незалежна ад іх кірунку, ведаюць шмат дзяржаў".

Такім чынам, чытаючы лісты Гарбаўца, бачна, што складаныя адносіны з Керзіным не сцерліся з памяці нават праз больш як паўстагоддзя! Затое віцебскія сябры — І. Фурман, М. Каспяровіч, С. Лініч, вучань Барушка, І. Пэн ды іншыя ўспамінаюцца мастаком з любоўю і дакладна. Напрыклад, згадваецца такі выпадак: Івана Фурмана вызвалі ў Мінск у Акадэмію навук Беларусі, дзе прапанавалі арганізаваць аддзел мастацтвазнаўства. Іван Фурман паставіў умову, каб у Мінск разам з ім узялі Гарбаўца і Мініна. Калі яму адмовілі, ён адмовіўся ад прапановы.

Творчасць Гарбаўца як мастака-прафесіянала ў лісце да Фурмана 1927 года высока ацаніў У. Фаворскі: "Вельмі кранулі вашай да мяне ўвагай і ўдзячны за дасланую мне і кніжку. Я ўпершыню бачу работы Зіновія Ісакавіча Гарбаўца і мне яны вельмі спадабаліся. Сярод рэчаў, тут надрукаваных, асабліва падабаюцца партрэты. Некаторыя думаюць, што ўвогуле партрэт з гравюры з тонкай перадачай выразу немагчымы, але якраз у Гарбаўца, хаця і арыгіналаў не ведаю, несумненнае падабенства і ў агульнай структуры, і ў выразе вачэй — ва ўсіх яны вельмі гаворачыя. Партрэты вельмі добрыя, менш мне падабаюцца пейзажы і яшчэ менш нацюрморты, асабліва апошні <...> Я прашу прабачэння за такі рашучы разбор твораў З. І., аднак гэта выклікана вялікім інтарэсам, які яны ў мяне выклікалі".

Знаёмячыся з кнігай В. Шматава "М. Філіповіч" (1971), Гарбавец разважаў: "Я лічу, што выбар манаграфіі М. Філіповіча ўдалы, бо першае, што я ўбачыў у 1922 годзе ў мінскім музеі беларускае — гэта работы мастака Філіповіча. Аднак лёс часта бывае несправядлівы да чалавека. У той час Кудрэвіч быў яшчэ аматарам-пейзажыстам, які павялічвае свае эцюды да памераў карціны, а М. Ф. быў ужо мастак, які шукае нацыянальнае ўвасабленне ў выяўленым мастацтве, а атрымалася што? Кудрэвіч памёр заслужаным мастаком Беларускай Рэспублікі, а Філіповіч за межамі сваёй радзімы ў адзіноце ў Маскве. Аналіз творчасці Ф. лічу сур'ёзным і, як я ўжо вам пісаў, упершыню ў Беларусі. Што да графічных работ, змешчаных у кнізе, з вашым разборам я не згодны: ілюстрацыя да паэмы М. Чарота слабая па малюнку (дрэнна намалявана фігура на першым плане, колеравае рашэнне беднае, а таксама канцоўка элементарная). Што датычыць жывапісу М. Ф., я з вамі згодны, але вельмі шкада, што ў кнізе няма ніводнай каляровай рэпрадукцыі работ М. Ф. Яшчэ адзін вялікі недахоп — гэта дрэнная рэтуш, якая скажае форму, як гэта заўважна ў партрэце М. Ф. работы М. П. Станюты — партрэт таго часу вельмі падобны. Аднак крыху інертны. Дрэнны партрэт зрабіў М. Ф Красоўскі. Вельмі дрэнна намаляваны ногі, а ступні гіганцкія <...>, ды яшчэ рэтуш дапамагла — ад твару застаўся цень".

Даваў Гарбавец і дзёрзкія водгукі: "Работы жывапісныя і невялікія скульптуры М. Ф. мне падабаюцца. Філіповіч як малявальшчык не можа высока каціравацца, але як жывапісец нацыянальны мае свой твар і заслужанае месца. Філіповіч шукаў — гэта цэнна".

І зноў крытычныя заўвагі, ужо наконт недахопаў кнігі Ірыны Паньшынай, з якой азнаёміўся мастак: "Што зрабіла графічнае аддзяленне Віцебскага мастацкага тэхнікума з 1932 года? Не сказана і мне не вядома?.. Я толькі чуў, што Мінін запрасіў былога ўладальніка літаграфіі (маленькай) Селюціна. Апошні, верагодна, паказаў тэхніку малявання на камні і друкаваў работы вучняў на станку. Паступіла ў продаж кніга "Экслибрис" Мінаева і Флярэнскага. У кнізе шмат знакаў і ўпершыню я ўбачыў знак Тычыны маляваны".

Канечне, можна сцвярджаць, што лісты з успамінамі Зіновія Гарбаўца, так бы мовіць, неафіцыйны летапіс. Але ён можа быць карысным для даследчыкаў беларускага мастацтва, якія жадаюць больш розабакова зразумець характар першага 20-годдзя фарміравання нацыянальнай мастацкай культуры.

Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая Ліцера»

*Слова краязнаўцы*



**Аліна ПАХВАЛЁНАЯ, настаўніца беларускай мовы і літаратуры гімназіі № 25 г. Мінска імя Рымы Шаршнёвай, кіраўнік школьнага гісторыка-краязнаўчага музея, распавядае пра цікавыя адкрыцці юных краязнаўцаў:**

— Наша дзейнасць сканцэнтравана вакол гісторыка-краязнаўчага музея, створанага чвэрць стагоддзя таму. У апошнія гады сумесная работа гімназіі і музея ў выхаванні маладога пакалення выйшла на больш якасны ўзровень. Праекты, тэматычныя экскурсіі, акцыі, конкурсы, праграмы — гэта ўжо не проста інавацыі музейнай педагогікі, а яе неад'емная частка. Мінулі тыя часы, калі школьнікі прыходзілі ў музей дзеля таго, каб паглядзець на экспанаты і паслухаць экскурсавода. Новыя ўмовы патрабуюць новых падыходаў, поспех залежыць ад ініцыятыўнасці, фантазіі кіраўніка школьнага музея. Ініцыятыўнасць, фантазія... Што значаць гэтыя словы для педагога-музейшчыка? Нешта незвычайнае, неардынарнае, цікавае і захапляльнае, з-за чаго навучэнцу абавязкова захочацца вярнуцца ў музей і ён будзе з нецярпеннем чакаць чарговай сустрэчы з любімымі экспанатамі, удзельнічаць у даследаваннях.

З гэтай нагоды ўспамінаецца адна цікавая гісторыя. Калі мы праводзілі пошукавую работу, звязаную з імем Рымы Іванаўны Шаршнёвай, якая да вайны вучылася ў сталічнай школе № 25 (цяпер гэта наша гімназія), то сутыкнуліся з вельмі неадназначным фактам. Яе сястра, Ала Іванаўна, распавяла нам, што Рыма падчас бою партызан з немцамі закрыла сваім целам амбразуру варожага дзота. Пасля ранення яна пражыла яшчэ некалькі дзён. З партызанскай базы, вострава Зыслаў (Любанскі раён), акружанага балотамі, у Маскву нават паслалі самалёт па апарат для пералівання крыві, каб выратаваць жыццё мужнай разведчыцы. Але ўжо было позна… Праўда, наконт акалічнасцей бою існавала дваякае меркаванне. Мы вырашылі даследаваць гэтую легенду. Зусім выпадкова выйшлі на былога партызанскага камандзіра і доктара Уладзіміра Міхайлавіча Талкачова, які паведаміў наступнае: кінуў гранату і знішчыў кулямётчыка зусім іншы чалавек, а дзяўчына была цяжка паранена, калі закрывала сабою камандзіра партызанскага атрада Жукава. За свой подзвіг Рыма Шаршнёва пасмяротна ўзнагароджана ордэнам Чырвонага Сцяга.

## Па старадаўніх тэхналогіях

Выстаўка гістарычных рэканструкцый "Даспехі і зброя Заходняй Еўропы XVI — XVIII стагоддзяў" адкрылася ў Магілёўскім абласным краязнаўчым музеі. У экспазіцыі — 145 экспанатаў, створаных Сяргеем Нурматавым. Работы з максімальнай дакладнасцю набліжаны да арыгіналаў, таму даюць яркае ўяўленне пра развіццё ваеннай справы ў сярэднявеччы і ўзнаўляюць аблічча ваяра. Выстаўка вяртае наведвальнікаў у непаўторную атмасферу рыцарскага рамантызму.

Прадстаўлена ў асноўным экіпіроўка вояроў Вялікага Княства Літоўскага, а паколькі на моду ўплывалі заходняя і ўсходняя культуры, то можна ўбачыць, у чым выпраўляліся на вайну рыцары нямецкія, італьянскія ды іншых краін. Сяргей Нурматаў стварае дакладныя копіі толькі па арыгінальных аналагах, выкарыстоўваючы старадаўнія тэхналогіі. На выраб аднаго даспеха трацяцца ад двух тыдняў да некалькіх месяцаў, а на штосьці і гады. Вага мужчынскіх "убораў" — ад 8 да 40 кг. Усе экспанаты зроблены са сталі рознай трываласці. Нароўні з рыцарскімі даспехамі прадстаўлены таксама конскія паўдаспехі.

**Бажэна СТРОК**

*Музейны ўнікат*

# Каралі з… пяску

Пастаянная экспазіцыя Талачынскага гісторыка-краязнаўчага музея была адкрыта ў жніўні 2001 года, падчас падрыхтоўкі да святкавання 1000-годдзя Друцка. У зале, прысвечанай старажытнай гісторыі, прадстаўлены археалагічныя знаходкі з курганнага могільніка Дроздава, гарадзішчаў Кісялі-Дымакуры, Багрынава і Друцка.

**Раіса МАРЧУК, фота аўтара**

Праўда, усё багацце, якое знайшлі археолагі, паказаць наведвальнікам проста немагчыма. На музейных вітрынах — унікальныя рэчы. Частка экспанатаў захоўваецца ў запасніках і чакае свайго часу. А яшчэ ў навукова-дапаможным фондзе ўтрымліваецца прыкладна дзесяць тысяч так званых масавых экспанатаў, напрыклад, рэшткаў керамічнага посуду.



Відэлец X ст.

— Мы маем больш як 1200 сапраўды ўнікальных музейных прадметаў, многія з іх у нашых фондах у адзінкавым экзэмпляры, — распавяла дырэктар Талачынскага гісторыка-краязнаўчага музея Ірына Пікулік. — Рэдка дзе можна пазнаёміцца са штрыхаванай керамікай, якая датуецца VI ст. да нашай эры. Фрагменты яе былі знойдзены падчас раскопак на гарадзішчы ранняга жалезнага веку Кісялі-Дымакуры. Дарэчы, яно і цяпер існуе, а ўсяго на тэрыторыі Талачынскага раёна захавалася чатыры гарадзішчы.

Цікавы і таксама адзінкавы экспанат — сякера эпохі неаліту (V — III тыс. да н. э.). Бачна, што яна яшчэ дрэнна апрацавана. Побач — крэмневая праколка. Крэмень часта выкарыстоўвалі для апрацоўкі каменя. Тры сякеры з адтулінамі — гэта ўжо бронзавы век. Вельмі незвычайная рэч у экспазіцыі — сасуд банцараўскай культуры (VI ст. ужо нашай эры). Ён у музеі ў адзінкавым экзэмпляры. Гэта ляпная ручная кераміка.

Падчас археалагічных раскопак знойдзена даволі незвычайная рэч, якую навукоўцы датуюць X стагоддзем і лічаць, што так тады мог выглядаць відэлец.

У нашых продкаў вялікай папулярнасцю карысталіся фібулы — засцежкі для плашчоў. Ёсць фібула, якая датуецца I ст. н. э.



Шкляныя каралі.

Усе прадстаўленыя артэфакты — вынік неаднаразовых археалагічных даследаванняў доктара гістарычных навук Вольгі Ляўко, якая працуе ў Інстытуце гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Здараюцца і выпадковыя знаходкі. Неяк у музей прынеслі каменную сякеру. Вядома ж, яе запісалі ў фонды, але ўсё роўна паказалі Вользе Мікалаеўне, каб яна вынесла свой, даследчыцкі, вердыкт.



Керамічны сасуд банцараўскай культуры.

— Падчас раскопак, — заўважыла Ірына Пікулік, — якія праводзіла Вольга Ляўко ў 1989 годзе (курганнага могільніка Дроздава), навукоўцы выявілі жаночыя і мужчынскія пахаванні. Багатымі на гістарычны "ўраджай" аказаліся менавіта першыя. Былі знойдзены тыповыя для крывічоў сэрбраныя і бронзавыя скроневыя кольцы, якія насілі на тасьме ўсе жанчыны, незалежна ад сацыяльнай прыналежнасці. Розніца была толькі ў матэрыяле, з якога выраблялі гэтыя ўпрыгажэнні.

Сярод пахавальнага інвентару, які быў знойдзены ў курганных могільніках, — рознакаляровыя шкляныя каралі з расплаўленага пяску, шкляныя бранзалеты. На тутэйшых землях добра была развіта іх вытворчасць. Сустракаюцца і каралі з горным крышталём, што сведчыць пра цесныя стасункі з насельнікамі старажытнага Урала. Па ўсім бачна, што на працягу X — XII ст. ст. прывозілі шмат упрыгажэнняў нават з Егіпта і Пярэдняй Азіі — жанчыны ва ўсе часы любілі сябе аздабляць. Усё гэта гаворыць пра тое, што шлях з варагаў у грэкі працаваў спраўна і нашы продкі мелі цесныя гандлёвыя стасункі нават з самымі далёкімі і экзатычнымі краінамі.

*Прызма часу*

# Нараджэнне падземкі

Выстаўка "Мінскае метро: учора, сёння, заўтра ў фатаграфіях Пятра Кастрамы", прысвечаная адкрыццю новых станцый Маскоўскай лініі — "Грушаўка", "Міхалова", "Пятроўшчына", — экспанавалася ў Музеі гісторыі горада Мінска. У экспазіцыі, а гэта больш як 120 фотаздымкаў, была прадстаўлена гісторыя сталічнага метро з 1977 па 1996 год.




Памятны подпіс падчас заснавання будучай станцыі "Парк Чалюскінцаў".

**Дар'я ШОЦІК, фота з асабістага архіва Пятра Кастрамы**

На метро мог разлічваць толькі горад, насельніцтва якога складала не менш як мільён чалавек. У 1976-м пачалася распрацоўка плана будаўніцтва мінскага метрапалітэна, а ў пачатку лютага наступнага года план адобрыў Савет міністраў СССР. І ўжо 16 чэрвеня ўбілі першую палю ў заснаванне станцыі "Парк Чалюскінцаў".

Памятная дата для Пятра Кастрамы — 28 жніўня 1979 года. "На будаўніцтва станцыі прыехаў першы сакратар ЦК КПБ Пётр Машэраў, — успамінае Пётр Васільевіч. — Спусціўся ў катлаван. Разам з архітэктарам Пётр Міронавіч абмяркоўваў, як будуць выглядаць станцыі. Таксама размова ішла і пра тое, каб перайменаваць станцыю на "Хатынскую" і пры яе афармленні выкарыстаць сюжэты, звязаныя з трагедыяй у Хатыні. Але пасля таго, як не стала Машэрава, пра гэтую ідэю забыліся".

Усю экскурсію, якую правялі для Пятра Машэрава, Пётр Кастрама сфатаграфаваў. Першаму сакратару ЦК КПБ фотаздымкі спадабаліся, і ён прапанаваў Кастраме весці фоталетапіс будаўніцтва мінскага метро.

Дарэчы, фотаздымкі Пятра Васільевіча, можна сказаць, выратавалі метро. У 1980-я хадзіла пагалоска, што будаўніцтва можа быць прыпынена, бо патрэбна шмат грошай. Пётр Кастрама ўзгадвае, што фотаальбомы са здымкамі, на якіх былі адлюстраваны раскапаныя катлаваны, кіраўніцтва рэспублікі і горада павезла ў Маскву — як дакументальнае пацвярджэнне да пісьмовага абгрунтавання, што закапаць метро будзе каштаваць значна болей, чым завяршыць будаўніцтва. Праз некалькі дзён было прынята рашэнне прадоўжыць пачатую справу.

Культурная спадчына

# Казка, рэальнасць і традыцыя

Срэбра было вядома людзям з даўніх часоў. З яго выраблялі грошы, упрыгажэнні, культавыя атрыбуты, прадметы хатняга ўжытку, ім аздаблялі пераплёты кніг і вырабы з дрэва, тэкстылю ды іншых матэрыялаў, выкарыстоўвалі ў арнаментаваных застаўках рукапісаў, размалёўцы мініяцюр, роспісе шкла і фарфору.

**Валянціна МАЛЮШЫНА,**
**фота аўтара**

Пацвярджэннем таму — калекцыя Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і побыту, якая ўключае тры групы прадметаў: манеты, культавыя атрыбуты, упрыгажэнні, кішэнныя гадзіннікі, рэчы побыту, поўнасцю зробленыя са срэбра; сталовы посуд, элементы хатняга інтэр'ера, металічныя вырабы са срэбраным пакрыццём; узоры адзення, у структуру тканін якіх уваходзяць металізаваныя ніці са срэбра. Гэта ў асноўным работы рускіх і заходнееўрапейскіх майстроў. Прадметы першых дзвюх груп былі знойдзены ў сялянскіх хатах, у дамах інтэлігенцыі беларускіх мястэчак і Мінска. Яны сведчаць пра высокі ўзровень культуры побыту жыхароў Беларусі ў канцы XIX — напачатку XX ст. Сярод мноства рэчаў асабліва цікавымі можна назваць сталовыя наборы лыжак і нажоў са срэбра 800-й пробы. Ручкі ў іх аздоблены рэльефным малюнкам, на канцы змешчаны фігурныя манаграмы ўладальнікаў. Ёсць у калекцыі дзіўнай формы нажы для рыбы і для масла з рэльефнымі малюнкамі на паверхні металічнага палатна.

Вельмі каштоўнымі з'яўляюцца дзве пары простых на першы погляд заручальных пярсцёнкаў. Многія музеі захоўваюць калекцыі народнага адзення і ўпрыгажэнні да іх. Але гэта ў асноўным пацеркі ці бранзалеты. Дарэчы, срэбныя пярсцёнкамі ў вёсцы Шанькава Аршанскага раёна ў канцы XIX і на пачатку XX ст. маладыя часцей за ўсё і абменьваліся. Першыя знаходкі былі выяўлены падчас этнаграфічнай экспедыцыі па Віцебшчыне. Даследаванні паказалі, што выкананы пярсцёнкі са срэбра 84-й пробы ў майстэрні Нікольса Карла і Плінке, уладальнікаў буйной фірмы ў Пецярбургу (1829 — 1898). Тое, што гэта не выпадковая з'ява, сведчаць паступленні з іншых вёсак, як, напрыклад, пярсцёнкі 875-й пробы, якімі абменьваліся ў 1904 г. маладыя ў вёсцы Промыслы Бешанковіцкага раёна.



*Свечачнік. XVIII ст.*

Помнікі рэлігійнага характару адрозніваюцца прыгажосцю раслінных арнаментаў. Аклад са срэбра 875-й пробы абраза Казанскай Прасвятой Багародзіцы другой паловы XIX ст. мае на сваёй паверхні гравіраваныя і ажурныя накладныя ўзоры, якія дэманструюць тонкі мастацкі густ і высокі ўзровень прафесіяналізму мастака з майстэрні П. Волкава, які працаваў у 1868 — 1908 гг. у Санкт-Пецярбургу. Абраз быў знойдзены пад страхою дома на Паўночным завулку Мінска падчас перадачы будынка музею. Экспанат, знойдзены ў закінутай хаце па сталічнай вуліцы Цікоцкага, аздоблены ў іншай тэхніцы. Гэта фігурны свечачнік XVIII ст. са срэбра 750-й пробы, які мае форму вазы са шматлікімі ступеньчатымі перахватамі рознай велічыні. Выраб зборны: да асноўнай часткі прыкляпаны ручкі ў выглядзе тонкіх галінак і чатыры фігурныя ножкі. Ніз упрыгожаны выпуклым раслінным арнаментам.



*Арнат. XVIII ст.*

З мінскіх знаходак варта адзначыць і нацельны абразок канца XIX ст., зроблены са срэбра 875-й пробы Васілём Зотавым (1898 г.) у Кастрамской губерні. На плоскай гладкай пласціне авальнай формы змешчана паясная выява Божай Маці Астрожскай, на адвароце можна ўбачыць выявы ў поўны рост трох святых: Антонія, Іаана, Еўстахія.

"Залатное" шыццё прадстаўлена ў асноўным ва ўзорах адзення служыцеляў культавых устаноў. Крыніцы паступленняў розныя: знаходкі ў закінутых будынках падчас экспедыцый па Брэсцкай і Віцебскай абласцях, дарункі жыхароў Мінска. Найбольш старажытны — арнат XVIII ст. з Браслаўскага раёна. Прызначаны для службы ў касцёле. Сшыты з чорнай тканіны і ўпрыгожаны арнаментаванымі паскамі, выкананымі вышыўкай з металізаваных серабрыстых нітак. Узор натуралістычны і ўяўляе сабой гірлянду з вьюў валошкаў і званочкаў.

Што датычыць манет, то яны цікавыя не столькі сваімі намінальнымі вартасцямі, колькі ступенню распаўсюджання іх у якасці ўпрыгажэнняў і атрыбутаў традыцыйных народных абрадаў. У музейным зборы сустракаюцца манеты з адтулінамі. Модніцы былі ва ўсе часы. Жанчыны насілі абручы, скроневыя кольцы, завушніцы, бранзалеты, пярсцёнкі, пацеркі, карысталіся фігурнымі засцежкамі, гузікамі. Пра гэта сведчаць шматлікія артэфакты прадметаў жаночай аздобы са срэбра V — X стст., выяўленыя ў Беларусі. Сярод знаходак трапляліся манеты з адтулінамі, зробленыя мясцовымі майстрамі, каб можна было падвесіць іх да скроневых кольцаў. Пазней срэбра сталі шырока выкарыстоўваць для вырабу талісманаў, бо верылі, што яго бляск адцягвае дурное вока.

Срэбраныя манеты таксама дарылі маладой. Раней яны складалі абавязковую частку яе вясельнага ўбору. Іх клалі ў адзенне маладых, у іх абутак, у куфар з пасагам. Манеты кідалі на прыступкі царквы падчас вянчання, а таксама абсыпалі імі падчас вяртання з вянчання альбо перад першай шлюбнай ноччу. Усё гэта рабілася з мэтай пажадання багацця і дабрабыту.

У абрадах народзін і хрэсьбін пры першым наведванні парадзіхі ёй і немаўляці прыносілі падарункі. Звычайна дзіцяці прызначаліся срэбраныя лыжачкі ці манеты "на зубок". Яны павінны былі забяспечыць у будучым багацце і поспех. У беларусаў ёсць звычай мыцца з золатам ці срэбрам, каб быць моцным і дужым, як метал, чыстым і светлым, як срэбра, каб не быць бедным, усё жыццё купацца ў золаце і срэбры. Таму ў першую купель дзіцяці бабулі і кладуць срэбраныя манеты.

Ва ўсіх славянскіх традыцыях прынята класці грошы пад фундамент будучага дома — пад чырвоны кут, пад усе чатыры куты, а таксама пад першае бервяно, што суправаджалася прыгаворамі кшталту: "Каціся ў кут серабро, у дом на дабро".

На Юр'я праводзілі наступны абрад ачышчэння: пры замешванні цеста для хлябоў, прызначаных у ахвяру зямельцы-маці, ночвы ці дзежку з апарай злёгку скрэблі срэбраным пярсцёнкам ці манетай. А калі выводзілі ў поле першы раз скаціну, то навешвалі срэбраныя званочкі і манеты ёй на рогі ці на збрую. Верылі, што гэта будзе спрыяць добраму ўраджаю і прынясе здаровы прыплод.

На Гомельшчыне на вячорках перад Вялікім постам варылі "разгонную кашу", куды апускалі пярсцёнак, манету альбо крыжык. Дзяўчына, якой дастанецца пярсцёнак, магла разлічваць на шлюб. А на Віцебшчыне гаспадыня клала срэбраны пярсцёнак ці манету ў кашу, звараную пад Новы год. Калі яны траплялі да гаспадара, то гэта абяцала дабрабыт.

Такім чынам, срэбра выкарыстоўвалася ў розных рытуалах, звязаных з набыццём здароўя, прыгажосці і багацця, а таксама з'яўлялася атрыбутам магіі кахання, варажбы, каляндарных альбо аказіянальных абрадаў.

Мастацкі свет, звязаны з паняццем "срэбра", вельмі багаты і разнастайны. Тут цудоўным чынам спалучаюцца і казка, і рэальнасць, і традыцыя. Як мастацкія творы, зробленыя таленавітымі майстрамі, скульптарамі, яны выступаюць помнікамі нацыянальнай культуры і аашчадна захоўваюцца ў музеях. Як сімвалы — яны выкарыстоўваюцца ў розных абрадавых дзеяннях і з'яўляюцца духоўнай повяззю мінулага і сучаснасці.



*Фрагмент вышыўкі арната.*

Чалавек і лёс

# Прывітанне з Расіі

На невялікім хутары, побач з вёскай Малыя Навасёлкі Дзяржынскага раёна, у 1933 годзе нарадзілася вядомая расійская паэтэса Ніна Жыбрык (дзявочае прозвішча Умецкая).

**Лявон ЦЕЛЕШ**

З маленства вабіла яе хараство роднага краю: жытнёвыя прасторы, лясы, імклівая плынь рэчкі Вусы, якая працякае за агародамі. Давялося Ніне Іосіфаўне перажыць у дзяцінстве і ваеннае ліхалецце, пра што напіша пазней у паэме "Красный клевер".

У шэсць гадоў яна ўжо самастойна чытала. Але ў школу пайшла толькі пасля вайны. Свой першы верш напісала ў 14 гадоў. Пасля заканчэння Дзяржынскай сярэдняй школы паступіла на біялагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта. І гэта было невыпадкова: дзяўчына з ранняга дзяцінства ведала кожную зёлку і яе карысныя якасці. Калі муж Ніны скончыў ВНУ, яго накіравалі працаваць у Расію. З ім паехала і жонка.



На новым месцы душу Ніны паланілі волжскія далягляды, мімаволі нараджаліся лірычныя вершы. У 1983 годзе яе прынялі ў Саюз пісьменнікаў СССР, і яна пачала працаваць як паэтэса-прафесіянал. За непрацяглы час выйшлі ў свет зборнікі "Вересковая поляна", "Лесная криница", "Радуга" і іншыя, у якіх значнае месца займаюць беларускія матывы. Піша і для дзяцей: кнігі вершаў "Азбука в стихах", "Грибной дождик", "Танец сыроежек". Некаторыя з вершаў Ніны Жыбрык былі перакладзены на венгерскую мову.

Талент нашай зямлячкі праявіўся і ва ўменні маляваць, ствараць кампазіцыі з сухіх траў і галінак дрэў. Дома ў яе сапраўдны хатні музей альбомных вырабаў: "Звон Хатыні", "Боль Чарнобыля", "Дзеці". Яе работы экспанаваліся ў Маскве, іншых гарадах Расіі. Цяпер жанчына на заслужаным адпачынку, жыве ў Рэспубліцы Марый Эл. Паэтэса Ніна Жыбрык не забываецца пра Беларусь, сумуе па родных мясцінах.

Не так даўно ў Дзяржынскую раённую бібліятэку завіталі родныя Ніны Жыбрык і ў якасці шчырага прывітання перадалі ў дар бібліятэцы кнігі паэтэсы новых выданняў.

Між іншым

# Рэканструкцыя працягнецца

**Раіса ІЎКОВІЧ**

На рэканструкцыю палаца Пуслоўскіх у 2013 годзе плануецца накіраваць 6 млрд. рублёў. У новым годзе ў гэтым збудаванні, якое з'яўляецца часткай Косаўскага палацава-паркавага комплексу (XVII — XIX стст.), пачнуцца ўнутраныя аздабленчыя работы. Мяркуецца, што будуць пракладзены і інжынерныя сеткі.

Рэканструкцыя палаца вядзецца на працягу апошніх пяці гадоў. За гэты час асвоена 12,1 млрд. рублёў. Фінансаванне ажыццяўляецца за кошт сродкаў рэспубліканскага і абласнога бюджэтаў. На аб'екце ўжо выкананы дахавыя работы і чарнавыя сцяжкі падлогі, атынкаваны фасад. У правым крыле будынка ўсталяваны новыя аконныя блокі, вядуцца рэстаўрацыйныя работы і ў падвальных памяшканнях.

Падчас трэцяй чаргі рэканструкцыі будуць аднаўлены згубленыя формы палаца, добраўпарадкавана 54 гектары суседняй тэрыторыі. Пасля заканчэння ўсіх работ, прыкладна ў 2018 годзе, палац Пуслоўскіх будзе выкарыстоўвацца як гасцінічны комплекс. У перспектыве вакол гістарычнага ансамбля ўзнікнуць турыстычная вёска і спартыўны комплекс.

# Вясёлка з куфра

У фондах Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь захоўваецца больш як сто дэкаратыўных сялянскіх посцілак — даволі арыгінальных як па арнаменце, так і па прызначэнні. Чвэрць з іх была прадстаўлена на выстаўцы, якая ладзілася ў філіяле Нацыянальнага мастацкага — Музеі беларускага народнага мастацтва ў вёсцы Раўбічы Мінскага раёна. Каму пашчасціла бачыць гэтыя дзівосныя вырабы, упэўнена, атрымаў шмат прыемных уражанняў і сапраўдную асалоду для душы.

**Раіса МАРЧУК,**
**фота аўтара**



*Валянціна Грэчка ведае пра посцілкі шмат цікавага.*

Даследчыкі народнага побыту беларусаў сцвярджаюць, што ў XIX — пачатку XX стагоддзя традыцыйная посцілка, якая вядома нам сёння, амаль не выкарыстоўвалася. Яе сучасны прататып — коўдра з грубай тканіны, якой накрывалі сена, у непагадзь — каня ці тавар, які везлі на кірмаш.

— З'яўленне і шырокае выкарыстанне традыцыйнай беларускай посцілкі звязана з размежаваннем хаты на дзве палавіны — святліцу і кухню, — распавяла малодшы навуковы супрацоўнік Музея беларускага народнага мастацтва Валянціна Грэчка. — Людзям захацелася нейк упрыгожыць сваё жытло. Спачатку, пры нараджэнні гэтага віду народнага мастацтва, выкарыстоўвалі неадбелены лён і воўну. Адсюль шэра-чорны і шэрарудыя колеры вырабаў — па колеры нітак. Пазней сталі дабаўляць баваўняныя і шаўковыя ніткі, зразумела, толькі натуральныя. Іншых у той час не існавала. Калі ж у 30-я гады мінулага стагоддзя з'явіліся фарбы, то пачалі ткаць рознакаляровыя посцілкі.

Дэкор посцілак, які вызначаўся перш за ўсё іх прымяненнем у побыце, складваўся на працягу першай паловы XX стагоддзя. Паступова павышалася іх роля ў аздабленні інтэр'ера і адпаведна развіваліся прыёмы ткацтва, арнаментыкі. Гэтымі вырабамі накрывалі ложкі і куфры, вешалі на сцены ў якасці дывана. У залежнасці ад гэтага распрацоўвалася кампазіцыя тканіны. Напрыклад, цэнтр дывана запаўняўся буйным узорам, абведзеным з усіх чатырох бакоў шырокай паласой з больш дробным геаметрычным або раслінным арнаментам.



*Фрагмент вясельнай посцілкі ("мятліца"). Невядомы майстар. 1920-я гады. Капыльскі раён. Лён, воўна.*

— Посцілкі ўяўлялі сабой мерную тканіну, сшытую з дзвюх полак (кожная адпавядала шырыні ткацкага стала), узор якіх, па магчымасці, пры злучэнні падганяўся адзін да аднаго, — расказвае далей Валянціна Грэчка. — Вельмі цікавая рэч сярод прадстаўленых вырабаў — дыван, які мае назву "Вясельная посцілка". На ёй, як і на сучасных фабрычных дыванах, у цэнтры знаходзіцца букет, а па баках — абмалёўка з больш дробным арнаментам. Аснова — пафарбаваны ў чорны колер лён і натуральная воўна. Возьмем самую старадаўнюю посцілку, выробленую ажно ў 1873 годзе. На першы погляд можна сказаць, што гэта сучасная работа. Па ўзоры выраб вельмі гарманічна ўпішацца ў сучасны інтэр'ер, таму што такі дызайн актуальны і сёння. Не дзіўна: калі прафесійныя мастакі распрацоўваюць фабрычныя ўзоры, шмат чаго пазычаюць у традыцыйнага сялянскага ткацтва. Злучэнне белых і рудых нітак таксама глядзіцца вельмі сучасна. Дарэчы, чым больш гэтыя вырабы мыюцца, тым больш белымі і мяккімі становяцца.

— Якая ж з посцілак самая цікавая? — запыталася ў Валянціны Міхайлаўны.

— Для мяне яны ўсе вельмі цікавыя. Што да арнаменту, то гэта не проста мудрагелістыя ўзоры — у іх майстрыхі закладвалі глыбокі сэнс. Разетка-кветачка — сімвал Багача, бога ўраджаю. Таксама адлюстроўвалі багоў сонца, зямлі, вады — тое, ад чаго залежала іх паўсядзённае жыццё. Хаця кожная ткачыха магла па-свойму трактаваць той ці іншы сімвал.



*Выраб невядомага майстра. 1873. Воўна.*

У работах 50-х гадоў пераважаюць строгія геаметрычныя кампазіцыі — "у клетку" або "ў кругі". Унутры кожнага рапорту разнастайнасць дасягаецца неадпольнымі перапляценнем нітак. Асноўнае спалучэнне колераў: чорны з малінавым, чорны з чырвоным, чорны з белым і інш. Посцілкі з кампазіцыяй "у клетку" маюць больш колераў: чырвоныя, сінія, жоўтыя, зялёныя, фіялетавыя ўзоры на чорным фоне. На адной рэчы — ад трох да дзесяці колерных спалучэнняў. Калі разглядаць посцілкі па часе іх стварэння, прасочваецца некаторая заканамернасць у эвалюцыі арнаменту.

Большая частка твораў, прадстаўленых на выстаўцы, выканана ў 60-я гады мінулага стагоддзя, калі геаметрычныя кампазіцыі робяцца больш разнастайнымі за кошт стараннасці распрацоўкі асобных элементаў і шматколернасці. З'яўляюцца вырабы, у якіх значнае месца належыць буйным раслінным і геаметрычным формам.

Посцілкі другой паловы 1960-х — пачатку 1970-х гадоў, як правіла, маюць буйныя матывы (трычатыры па ўсёй даўжыні), абведзеныя больш дробнымі элементамі. Для гэтага часу характэрны насычанасць па колеры і разнастайнасць у перапляценні нітак пры прапрацоўцы асобных дэталей арнаменту.

Ёсць даволі цікавыя посцілкі і ў пастаяннай экспазіцыі раўбіцкага музея. Прынамсі, выраб Таццяны Жураўлевіч, які яна выткала ў далёкім 1949-м годзе: яе посцілку можна выкарыстоўваць і ў якасці дывана. Дарэчы, майстрыха і цяпер жыве ў Жыткавіцкім раёне.

Рыхтуючы гэты матэрыял, успомніла пра адзін выпадак, які адбыўся на Драгічыншчыне. Нейк да маёй маці прыйшла суседка і пачала скардзіцца на нявестку. Калі ажаніўся яе старэйшы сын, жанчына падарыла яго жонцы некалькі ўласна выробленых посцілак-"вясёлак", як называюць іх у нас. Маладая жанчына нічога лепшага не прыдумала, як кінуць іх на падлогу, пад ногі, чым вельмі пакрыўдзіла свякроў. Бо проста не зразумела, якое багацце трапіла ёй у рукі.

## Афарызм

*Дзе пройдуць ногі маладосці,*
*Дыхне і мёртвая зямля!*

**Алесь ЗВОНАК**

*З глыбінкі*

# Да новага спаткання!

Незабыўную сустрэчу з кнігай, словам і пісьменнікамі падарылі гасцям вечарыны бібліятэкары Рагачоўскага раёна, якія арганізавалі "развітальны" баль з Годам кнігі. А завіталі на яго навучэнцы і выкладчыкі мясцовага педагагічнага каледжа і школы № 2, работнікі ўстаноў адукацыі, культуры і іншых арганізацый раёна.

На вечарыне гучалі аповеды пра жыццё і творчасць знакамітых пісьменнікаў, чый лёс быў звязаны з рагачоўскай зямлёй, — Міхася Лынькова, Уладзіміра Караткевіча, Андрэя Макаёнка, Васіля Ткачова, Алеся Жаўрука, Міколы Сурначова, Уладзіміра Дзедлава-Кінга, Міколы Янчанкі і многіх іншых. Гучалі іх творы, дэманстраваліся ўрыўкі з кінастужкі, створанай паводле аповесці М. Лынькова "Міколка-паравоз", прапанавалі ўвазе гледачоў і тэатралізаванае прадстаўленне. Ішла размова пра творчасць сучасных літаратараў, выступіў рагачоўскі пісьменнік-гумарыст Міхась Сліва, які падарыў гасцям свае новыя творы, згадаў асобныя цікавыя моманты з літаратурнай дзейнасці.

**Максім СНЕГІРОЎ,**
**г. Рагачоў**

# Дзе жыве СуперЧытач?

У Навагрудскай цэнтральнай раённай бібліятэцы падводзяцца вынікі раённага конкурсу "СуперЧытач — 2012". Каралева Кніга і Яе Вялікасць Бібліятэка запрашаюць самых актыўных чытачоў да абароны сваіх чытацкіх фармуляраў. Шмат музыкі, гумару, сур'ёзных разважанняў пра літаратуру і сучаснага чытача. Конкурс праходзіць у тры этапы. Спачатку вызначалі лепшых чытачоў у бібліятэках, на другім этапе — у рэгіёнах. Фінал і ўзнагароджанне пераможцаў адбудуцца 14 студзеня 2013 года. Галоўны "суперЧытач" атрымае імправізаваны медаль, дыплом і кнігу ў падарунак.

Конкурс мае 10 намінацый, найбольш цікавыя з іх — "Самы актыўны наведвальнік бібліятэкі", "Чытаем усёй сям'ёй", "Патрыёт беларускай кнігі", "Верны сябар бібліятэкі". Іншыя намінацыі размічаны на прыхільнікаў галіновай літаратуры, аматараў пэўных літаратурных жанраў, да прыкладу, "Містар фэнтэзі".

— Мы праслаўілі сваіх чытачоў, асабліва калі наведаліся ў рэгіёны, — распавядае загадчык аддзела бібліятэчнага маркетынгу Навагрудскай ЦРБ Фаіна Малюжэнец. — Сустракаліся з жыхарамі ў Любчанскай гарпасялковай бібліятэцы, яшчэ ў трох рэгіёнах. Вясковыя жыхары вельмі прыхільна паставіліся да такіх сустрэч. У Год кнігі акцыя "СуперЧытач" паспрыяла адначленню цікавасці да літаратуры, як сучаснай, так і класічнай. І, бясспрэчна, зрабіла кнігі больш цікавымі для дзяцей.

**Віка АМЕЛЬЧАНКА,**
**г. Навагрудак**


**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі", РВУ "Выдавецкі дом "Звязда"**

**Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ**

**Рэдакцыйная калегія:** Анатоль Акушэвіч, Лілія Ананіч, Алесь Бадак, Дзяніс Барсукоў, Святлана Берасцень, Віктар Гардзей, Уладзімір Гніламёдаў, Вольга Дадзіёмава, Уладзімір Дуктаў, Анатоль Казлоў, Алесь Карлюкевіч, Анатоль Крэйдзіч, Віктар Кураш, Алесь Марціновіч, Мікола Станкевіч, Мікалай Чаргінец, Іван Чарота, Іван Штэйнер

**Юрыдычны адрас:** 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
**Адрас для карэспандэнцыі:** 220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:** галоўны рэдактар — 284-66-73; намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:** публіцыстыкі — 284-66-71; крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04; прозы і паэзіі — 284-44-04; мастацтва — 284-82-04; навін — 284-44-04; аддзел "Кніжны свет" — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by

Пры передруку просьба спасылацца на "ЛіМ". Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.

Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ "Выдавецкі дом "Звязда".
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:** Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Выдавецкі дом "Звязда".
**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства** "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 2700 рублёў

Наклад — 2913
Умоўна друк. арк. 5,58
Нумар падпісаны ў друк 20.12.2012 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 5541
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686